# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні*





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 1 (85) СТУДЗЕНЬ - САКАВІК 2019 г.



*Кампазітар і піяністка Дзінара Мазітава*

# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні*





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 1 ( 85 ) СТУДЗЕНЬ - САКАВІК 2019 г.

## У НУМАРЫ:



**На першай старонцы вокладкі: хата на два канцы першай паловы XX ст. у в. Феліксава, 2017 г.** *Здымак С. Судніка.*



Мы просім ўсіх, хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі Ліды і краю, дасылаць іх на адрас: 231282, Ліда-2, п/с 7, або E-mail: naszaslowa@tut.by

Аўтары цалкам адказныя за гістарычную дакладнасць сваіх матэрыялаў

**Пасведчанне аб рэгістрацыі № 907 ад 18.12.2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь**

Заснавальнік
**Валерый Васільевіч Сліўкін,**
старшы навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея, кандыдат геаграфічных навук.

Рэдактар
**Станіслаў Вацлававіч Суднік**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**231293, Лідскі р-н, в. Даліна**
**АДРАС САЙТА:**
**http// nslowa.by**

**Наклад 200 асобнікаў**
**8 друк. аркушаў**
**Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.**
**Замова № 1786.**
**Часопіс падпісаны да друку 30.03.2019 г.**
**Часопіс надрукаваны 30.06.2019 г.**

**Падпісны індэкс 00257**
**Кошт падпіскі:**
**індывід. 3 мес. - 2,47 руб.**
**індывід. 6 мес. - 4,94 руб.**
**Кошт у розніцу: вольны.**

ISSN 2218-1792






# 12-я Агульнанацыянальная дыктоўка і Дзень роднай мовы на Лідчыне

По традыцыі апошніх гадоў чарговая Агульнанацыянальная дыктоўка на Лідчыне пачалася з Мінойтаў. 18 лютага ў Мінойтаўскай бібліятэцы дыктоўка праходзіла ў пяты раз. Мінойты сёлета ізноў пісалі дык-тоўку першымі ў беларускім свеце.

Чытала дыктоўку, як і ўсе папярэднія гады, настаўніца Мінойтаўскай школы Ганна Чаславаўна Енка.





Сёлета па рэкамендацыі Лідскага райвыканкама дыктоўка на Лідчыне прысвечана 75-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Тэкст называўся “Начны бой” і хоць быў не цяжкі, але дзясятка аказалася толькі адна. Затое васьмёрак - больш за палову.

У дыктоўцы бралі ўдзел дарослыя і дзеці - вучні мясцовай школы, а таксама сябры ТБМ з Ліды: старшыня Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ імя Францішка Скарыны Станіслаў Суднік і намеснік старшыні, бард Сяргей Чарняк, які наладзіў невялікі канцэрт, пакуль ішла праверка. Кожны ўдзельнік дыктоўкі атрымаў ад ТБМ у падарунак нумар часопіса “Лідскі летапісец”, а пераможцы сярод вучняў і дарослых атрымалі кніжкі пра Францішка Скарыну.

20 лютага да Міжнароднага дня роднай мовы Палацам культуры горада Ліды была прымеркавана комплексная праграма "Роднаму слову гучаць вечна!".

Кожны, хто наведаў Палац культуры ў той дзень (а гэта былі пераважна навучэнцы школ горада і Лідскага каледжа), меў магчымасць ужо ў фае ўстановы стаць удзельнікам гульнёвай праграмы на аснове беларускага фальклору "Дзе нарадзіўся, там і згадзіўся" народнага тэатра гульні "100 сяброў". Удзельнікі тэатра гульні прапаноўвалі наведвальнікам праверыць сваё веданне беларускай мовы, зрабіўшы пераклад рускамоўных сказаў.

Ля ўвахода ў малую залу юныя ўдзельнікі народнага аматарскага аб'яднання "Муз-Альянс" правялі тэматычную хвіліну "Імгненні творчасці", у час якой дэкламавалі беларускамоўныя вершы лідскіх паэтаў.

Уласна ў малой зале адбылася канцэртная праграма "Малая радзіма ў сэрцы маім", у якой прынялі ўдзел ансамбль беларускай музыкі "Бравэрка" Лідскага дзяржаўнага музычнага каледжа, маладыя чытальнікі навучальных устаноў Ліды і Бярозаўкі, салісты эстраднай студыі "Акцэнт" Палаца культуры горада Ліды, практыканты з Гарадзенскага каледжа мастацтваў. Гучалі вершы і празаічныя творы беларускіх класікаў (Максіма Танка, Пімена Панчанкі, Змітрака Бядулі) і лідскіх аўтараў (Алеся Хітруна, Ганны Рэлікоўскай, Людмілы Краснадубскай, Ірыны Вашкевіч, Ксеніі Бароўскай і іншых), песні на беларускай мове. Кожны слухач змог адчуць мілагучнасць і сілу роднай мовы, упэўніцца ў яе здольнасці перадаць самыя розныя з'явы, пачуцці і вобразы.

Вядоўцы канцэрту падкрэслівалі, што мова - частка чалавечай культуры, гістарычнай спадчыны,



душа народа. *"Дзякуючы ёй, працягваюць жыць традыцыі,* - казалі яны. - *Мова абуджае цікавасць да пазнання свету, садзейнічае праяўленню павагі да нашага мінулага і служыць элементам аб'яднання людзей незалежна ад месца і часу іх пражывання".*

20 лютага ў бібліятэцы Лідскага каледжа з нагоды Міжнароднага дня роднай мовы адбылася творчая сустрэча паэта, старшыні Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ Станіслава Судніка з навучэнцамі каледжа.

20 лютага Агульнанацыянальная дыктоўка адбылася таксама ў "доміку Таўлая" (літаратурная філія Лідскага музея) па вуліцы Замкавай, 7, дзе яе пісалі сябры літаратурнага аб'яднання "Суквецце" пры рэдакцыі "Лідскай газеты".



Тут для напісання быў узяты тэкст **"Пераступіўшы парог"**, урывак з успамінаў Валянціна Таўлая (105-годдзе з дня нараджэння якога нядаўна адзначылі ў гэтым жа доме). Тэкст, дарэчы, не з лёгкіх, асабліва ў плане пунктуацыі. Дыктаваў былы выкладчык беларускай мовы і літаратуры Лідскага каледжа, выдатнік адукацыі Рэспублікі Беларусь Міхась Мельнік.

Найбольш бездакорна напісалі прапанаваны тэкст рэдактар газеты "Наша слова" і часопіса "Лідскі летапісец" Станіслаў Суднік, супрацоўнік рэдакцыі "Лідскай газеты" Алесь Мацулевіч і навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея, кіраўнік літаб'яднання "Суквецце" Алесь Хітрун.

Лідскія курсы "Мова нанова" заснаваны толькі летась, таму ў Агульнанацыянальнай дыктоўцы ўдзельнічалі першы раз.



20 лютага чытала дыктоўку кіраўнік курсаў Марыя Ганчар.

Марыя Іосіфаўна распавяла гісторыю Міжнароднага дня роднай мовы, зачытала тэкст Уладзіміра Арлова "Незалежнасць - гэта...", але прапранавала напісаць дыктоўку па тэксце "Мужыцкай праўды" № 2, напісаным і надрукаваным у 1862 годзе.

Пасля напісання быў арганізаваны калектыўны разбор кожнага сказа з акцэнтаваннем увагі на цяжкіх месцах. У гэтым выпадку павучальнымі былі не толькі асаблівасці арфаграфіі, а і змест твора.

Штогод 21 лютага адзначаецца Міжнародны дзень роднай мовы ў бібліятэках Лідскага раёна. Сёлета з гэтай нагоды публічныя бібліятэкі Лідчыны ладзілі тыдзень беларускай мовы "Роднаму слову прызнанне ў любові".



У чытальнай зале раённай бібліятэкі імя Янкі Купалы ў Міжнародны дзень роднай мовы прайшла Агульнанацыянальная дыктоўка "Вы паслухайце, мова якая! Нібы рэчанька ціха журчыць". Удзел у ёй прынялі наведвальнікі і работнікі бібліятэкі. Дыктоўка была прымеркавана таксама да 75-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашы-



сцкіх захопнікаў, і тэкст для яе быў выбраны адпаведны - "Хлеб-соль" (аўтар - Міхась Даніленка, аб'ём тэксту - 144 словы). Дыктавала тэкст намеснік дырэктара раённай бібліятэкі Алена Быстрыцкая. Тэкст быў нескладаны, і ўдзельнікі дыктоўкі напісалі яго на выдатна. Найлепшы вынік паказаў карэспандэнт "Лідскай газеты" Алесь Мацулевіч.

Дыктоўка ў гэтай бібліятэцы пісалася ў 11-ты раз, пачынаючы з 2-й. І калі на першыя дыктоўкі бібліятэка толькі выдзяляла памяшканне, а напісанне арганізоўвала ТБМ, то ўжо чацвёрты год запар дыктоўку арганізуе сама бібліятэка, тэкст чытаюць або дырэктар, або намеснік, у чым відзён нармальны дзяржаўны падыход да дзяржаўнай справы адраджэння беларускай мовы ў нашай незалежнай краіне.

Эрудытаў і знатакоў беларускай мовы сабраў конкурс "Слова роднае - вечнасці след" (філіял "Лід-

ская гарадская дзіцячая бібліятэка").

Паэтычную мазаіку "Мілагучнае, звонкае, роднае слова" падрыхтаваў філіял "Дзітвянская сельская бібліятэка".

Для аматараў беларускай мовы ладзілі літаратурны вечар "У мовы роднай - роднае карэнне" (філіял "Інтэграваная бібліятэка аграгарадка Бердаўка").

З мэтай папулярызацыі і падтрымкі беларускай мовы філіялы ДУК "Лідская раённая бібліятэка імя Янкі Купалы" правялі дыктоўкі на беларускай мове па тэкстах, прысвечаных 75-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Дыктоўкі пісалі: Лідская раённая бібліятэка імя Янкі Купалы; філіял "Лідская гарадская бібліятэка № 6" (падчас літаратурна-музычнай гасцінай "Святло роднага слова"); філіял "Дварышчанская сельская бібліятэка" (падчас літаратурнай гульні-віктарыны "Захіну свой край ад нягод песняй матчыных простых слоў"); філіял "Мінойтаўская сельская бібліятэка" (падчас турніру эрудытаў "Таямніцы роднай мовы").



***Дыктоўка ў 6-м філіяле***



***Дыктоўка ў 3-м філіяле***



***Дыктоўка ў Дварышчанскай бібліятэцы***

У філіяле "Лідская гарадская бібліятэка № 3" (падчас гадзіны роднай мовы "Каб бацькоўская мова непаўторнаю кветкай цвіла") прайшлі дзве дыктоўкі: для дзяцей і для дарослых. Сярод дзяцей (СШ № 13) без памылак напісалі: Леўчанка Аліна, Адамовіч Васіліса, Вільчэўскі Павел; з адной памылкай напісалі: Кізік Аляксей, Бародзіч Святаслаў, Албавічус Радзівон, Васора Патрык, Крахмальчык Карына, Гардзей Мікіта, Шэстайла Ілья. Сярод дарослых найлепш напісала Дашкевіч Марта.

У Міжнародны дзень роднай мовы ў Доме культуры горада Бярозаўкі быў праведзены бліц-турнір на веданне беларускай мовы. У турніры бралі ўдзел дзве каманды Нёманскага дзяржаўнага прафесійнага ліцэя "Васількі" і "Будаўнікі". Зместам турніру былі пяць тэмаў, сярод якіх - фразеалогія, пераклад і інш. Наперад выходзіла то адна, то другая каманда, пакуль на фінішы абедзве не аказаліся з роўнай колькасцю балаў.



Турнір аздаблялі выступленні мастацкіх калектываў Дома культуры, выстава клуба "Сваякі", кніжная выстава мясцовай бібліятэкі.



Прыгожыя беларускія строі, беларускія песні і танцы, і над усім гэтым - такая прывычная, такая родная беларуская мова.



А вечарам у Доме культуры пісалі 12-ю Агульнанацыянальную дыктоўку сябры мясцовай арганізацыі ТБМ. Дыктоўку ў Бярозаўцы, у гэтых сценах пісалі ўжо ў 11-ты раз.



Сёлета пісалі тэкст “Хлеб-соль”, прысвечаны 75-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Тэкст чытаў намеснік старшыні ТБМ Станіслаў Суднік.

Найлепшы вынік паказалі Наталля Скобля і Вітольд Ашурак.

Кожны год 21 лютага навучэнцы і выкладчыкі Лідскага каледжа ГрДУ імя Янкі Купалы прымаюць актыўны ўдзел у мерапрыемствах, прысвечаных Міжнароднаму дню роднай мовы. Навучэнкі гуманітарнага аддзялення 20 лютага наведалі вечарыну, якая адбылася ў раённым Палацы культуры. Раніца 21 лютага ў каледжы пачалася з акцыі "Мова родная - мова модная", якую правялі навучэнкі групы 97па. Выкладчыкам і навучэнцам каледжа ў гэты дзень была прапанавана магчымасць прыняць удзел у напісанні Агульнанацыянальнай дыктоўкі. Гэтую магчымасць скарыстала дзвесце семдзясят чалавек - навучэнцы груп першакурснікаў, выкладчыкі гуманітарнага аддзялення.



*Дыктоўка ў Лідскім каледжы*

Усе ўдзельнікі без выключэння прадэманстравалі добрае веданне роднага слова. Адзін з лепшых вынікаў, дзесяць балаў, у выкладчыка педагогікі і псіхалогіі Наталлі Леанідаўны Будзішкі.

Напрыканцы многія ўдзельнікі дзяліліся думкамі, выказваліся, што Агульнанацыянальная дыктоўка па беларускай мове - гэта не столькі справа абавязку кожнага грамадзяніна, колькі маральная патрэба, і што дзень, праведзены пад гучанне беларускага слова, прынёс усім вялікае задавальненне.

У Лідскім дзяржаўным прафесійным політэхнічным ліцэі дыктоўку пісалі 86 чалавек. Пісалі гр. 372 (электра-манцёры, слесары-сантэхнікі), гр. 373 (муляры, тынкоўшчыкі), гр. 374 (афіцыянты, кантралёры-касіры) - усе 1 курс, гр. 369 (электраманцёры, слесары-сантэхнікі), гр. 370 (токары, слесары па рамонце аўтамабіляў) - усе 2 курс.





*Дыктоўка ў Лідскім політэхнічным ліцэі*

10 балаў атрымалі: Паўловіч Зміцер, Петрашэвіч Максім, Дзярызямля Ірына, Крыпец Валерыя.

9 балаў атрымалі: Масла Уладзімір, Шостак Арцём, Грыгель Уладзіслаў, Рубель Дзіяна, Каско Кацярына, Ус Андрэй.

Дыктоўку ў ліцэі пісалі ў 2-гі раз.

У Лідскім дзяржаўным прафесійным ліцэі меліярацыі дыктоўку пісалі 20 чалавек (спецыяльнасць “Грамадскае харчаванне”).

9 балаў атрымалі: Мурачынская У., Мельнікава Д., Бурнос А.

8 балаў атрымалі: Панімач У., Емяльянчык В.

Дыктоўку ў ліцэі пісалі ў 2-гі раз.

У Нёманскім ДПЛ г. Бярозаўкі таксама адзначылі гэтае свята. Тут правялі мерапрыемства "Гучы, наша родная мова, часцей". Удзел у імпрэзе



*Дыктоўка ў Нёманскім ДПЛ г. Бярозаўкі*

прынялі ўсе навучэнцы ліцэя. Дыктоўку пісалі 160 чалавек.

Лідскі музычны каледж быў грунтоўна задзейнічаны ў канцэрце 20 лютага ў Лідскім палацы культуры. Дыктоўку сёлета тут чамусьці не пісалі, хаця ў папярэднія гады праблем не было.

21 лютага Міжнародны дзень роднай мовы адзначылі ўсе **34 школы і 50 садкоў** Лідскага раёна - асноў-ная ўдарная сіла.

12-я Агульнанацыянальная дыктоўка сёлета была прысвечана 75-годдзю вызвалення Беларусі ад гітлераўскіх захопнікаў. Тэксты дыктовак для класаў





*Міжнародны дзень роднай мовы ў СШ № 16*



*12-я Агульнанацыянальная дыктоўка ў СШ № 17*



*Міжнародны дзень роднай мовы ў садку № 36*

ад 3-га да 11-га распрацавалі ва ўпраўленні адукацыі раёна, але ў школах у асноўным пісалі дыктоўкі, пачынаючы з 2-га класа. Акрамя дыктовак, школы ладзілі сапраўдныя святы беларускасці.

Усяго ў школах дыктоўкі пісалі **8978 чалавек**. Калі ў бібліятэках і клубах у асаблівыя падлікі не ўдараюцца, то ў школах традыцыйна палічана ўсё.

Найбольшую колькасць удзельнікаў дыктоўкі далі вялікія лідскія школы: СШ № 17 - 887 чалавек, СШ № 8 - 845 чалавек, СШ № 15 - 801 чалавек, СШ № 12 - 671 чалавек і так на памяншэнне да невялікіх вясковых школ.

У 12-й Агульнанацыянальнай дыктоўцы прыняла ўдзел і адна арганізацыя БРСМ. На Лакафарбавым заводзе дыктоўку пісалі 20 сяброў мясцовай суполкі гэтай моладзевай арганізацыі.

На завяршэнне мерапрыемстваў да Міжнароднага дня роднай мовы ў Лідзе прайшоў першы квэст. Ён быў створаны адмыслова да Дня роднай мовы - 2019.

Квэст пачаўся 23-га лютага (субота) з моманту адкрыцця першай кавярні, якая ў ім удзельнічала, і ішоў да канца дня.

Каб удзельнічаць, трэба было:

усталяваць мабільны дадатак SAY.BY say.by/app (для Android ці iPhone) або проста знайсці ў Google Play і App store адпаведна дадатак з назвай SAY.BY;

знайсці ў кавярні адмысловыя SAY.BY коды, што нагадваюць беларускі арнамент;

Дадатак дазваляў іх прасканаваць і атрымаць заданне, адказаўшы на якое, гулец набліжаўся да прыза!

Налепкі з кодамі знаходзіліся ў кавярнях “Доб-




рая кава”, “Central Coffee”, “CNTRL Coffee”, “Тутака”.

Нягледзячы на навізну справы лідзяне прынялі ўдзел у квэсце. Вызначыліся і пераможцы.

Урачыстае ўзнагароджанне адбылося ў нядзелю ў 15:00 на другім паверсе кавярні “Тутака” ў банкетнай зале

Першае месца заняў Ілля Маскаленка, атрымаў флэшку і кубак з лагатыпам Say.by і сэртыфікат пачаставацца каваю ў Central Coffee

Другое месца - Юліяна Роўбель, атрымала майку і кубак з лагатыпам Say.by

Трэцяе месца - Валерыя Шынкевіч атрымала майку і кубак з лагатыпам Say.by.

Да ўсяго ўдзельніцы квэсту, заняўшыя другое і трэцяе месцы, за тое, што яны адгадалі заданні амаль ва ўсіх пунктах першымі, ад гаспадароў кавярняў атрымалі стос сэртыфікатаў.

Яшчэ дзвюх дзяўчынак Кацярыну Барко і Аляксандру Супрун, якія таксама завяршылі квэст, але ў








якіх не атрымалася прыйсці на цырымонію, таксама чакаюць кубкі з лагатыпам Say.by.

Сп. Кацярына (не назвала прозвішча) першая справілася з заданнем у “Тутака” і атрымала сэртыфікат і кубак з лагатыпам Say.by.

Гаспадыні спн. Наталля Язэпава (“Добрая кава”, дарэчы, адкрытая 21 лютага 2018 года ў Дзень роднай мовы) і спн. Вікторыя Турбай (“Тутака”), а яшчэ гаспадар кавярні Central Coffee сп. Кірыл Нежывой таксама не засталіся без падарункаў. Кіраўнік платформы Say.by сп. Аляксандр Шастаковіч у знак шчырай падзякі за патрымку беларускай мовы на добрую памяць уручыў сімвалічныя прыгожыя кубачкі "Беларус(ка) моўны".

Падсумоўваючы вынікі квэсту можна сказаць, што дадатак для тэлефона распрацаваны платформай Say.by ў г. Ліда працаваў годна. На працягу ўсяго квэсту ён быў карысны ўсім ўдзельнікам у якасці дапаможніка ў арыеантаванні, дапамагаў рухацца ў прасторы горада ад адной кавярні і знайсці другую, патлумачыўшы карацейшую дарогу на карце. І што галоўнае звязвае ўсе гэтыя пункты (кавярні) квэсту - гэта тое, што яны ўсе падтрымліваюць беларускую мову ў абслугоўванні.

І што мы маем у выніку?

У выніку мы маем дзяржаўную, узважаную пазіцыю лідскіх уладаў у пытанні стаўлення да беларускай мовы. Тут не паўтараюць абсалютна правільную мантру: “Калі мы страцім беларускую мову, мы перастанем быць беларусамі”. Тут хоць нешта робяць, каб гэтага не адбылося. Сёлета ў Лідскім раёне дыктоўку пісалі каля **9700 чалавек**. Усяго ў свяце роднай мовы ўзялі ўдзел каля **12 тысяч** чалавек.

Знойдуцца скептыкі, якія скажуць: “Ну і што тут такога? Падумаеш, 12 тысяч чалавек адзін дзень, і той не цэлы, пагаварылі па-беларуску ў адным раёне Беларусі”.

Канешне, нічога экстаардынарнага, але на Лідчыне ўжо ёсць гэты дзень і гэтыя 12 тысяч. Ён ёсць ужо чатыры гады. Там было 5000, 6000, 5500 удзельнікаў дыктоўкі, сёння маем 9700. І ёсць ужо іншыя раёны, якія рухаюцца ў тым жа кірунку. І ёсць вакол “песні жальбы”, што ўсё прапала.

***“Наша слова”.***

# Кроніка Ліды


БЕЛАРУСКІ
НАСТОЛЬНЫ ПЕРАКІДНЫ
КРАЯЗНАЎЧЫ
КАЛЯНДАР

НА 2019 ГОД

(па матэрыяле Гродзеншчыны)

*Складальнік Аляксей Пяткевіч*
*Рэдактар Станіслаў Суднік*

Гродна, 2018

У самым канцы 2018 г. выйшаў "Беларускі настольны перакідны краязнаўчы каляндар на 2019 год (па матэрыяле Гродзеншчыны)". Гэта ўжо 10-ты выпуск. Як і раней, складальнік календара Аляксей Пяткевіч, рэдактар Станіслаў Суднік.




***Сергей Лаза і яго настаўнік Зміцер Тэжык***

У студзені 2019 г. адзінаццацікласнік лідскай сярэдняй школы № 17 Сергей Лаза атрымаў бронзовы медаль 15-й Міжнароднай Жаўтыкаўскай алімпіяды па фізіцы ў Рэспубліцы Казахстан. За медалі ў інтэлектуальным спаборніцтве змагаліся 155 наймацнейшых юных фізікаў - вучняў 11-12 класаў - з дваццаці краін свету.

17 лютага споўнілася 100 гадоў Марыі Юр'еўне Борыс з в. Бельскія Дзітвянскага сельсавета. *Здымак "Лідскай газеты".*





У лютым 2019 г. самае ўплывовае эканамічнае выданне свету Forbes апублікавала спіс найбольш паспяховых маладых людзей Еўропы, якія змаглі прыцягнуць да сваіх праектаў не толькі інвестыцыі з шасцю нулямі, але і сусветную ўвагу.
У сферы тэхналогій - імёны двух беларусаў. Адзін з іх IT прадпрымальнік Міхаіл Румянцаў з Ліды.

5 сакавіка ў драматычнай барацьбе на перапоўненай арэне магілёўскага "Алімпійца" "Лідсельмаш" у серыі пасляматчавых пенальці вырваў перамогу ў аршанскага "Вітэна", упершыню пасля трох няўдачных спробаў завалодаў Кубкам Беларусі па міні-футболу. Каманда прысвяціла перамогу Юрыю Вашкевічу.






20 сакавіка Ордэнам Маці ўзнагароджаны лідзянкі Валянціна Шляхтун і Тарэса Пац.

# Лідскія юбіляры 2019 года

# Дзінара Мазітава

**Гады вучобы ў Беларусі**

Дзінара Мазітава нарадзілася 24 сакавіка 1984 года ў беларускім горадзе Лідзе.

У 1990 годзе паступіла вучыцца ў першы клас СШ № 11. У 1990 годзе паступіла ў Лідскую дзіцячую музычную школу на фартэпіяннае аддзяленне ў клас выкладчыка М. І. Рачкоўскай.

З 8 гадоў пачаліся заняткі кампазіцыяй у выкладчыка В.К. Радзівонава. Фартэпіянныя мініяцюры з "Лясной сюіты", напісаныя ўсяго за 3 месяцы, Дзінара прадставіла на Рэспубліканскі конкурс юных кампазітараў "Надзея - 92" і ўпершыню стала лаўрэатам (ІІІ месца, 1992 г.).

У дзевяцігадовым узросце, на Міжнародным конкурсе юных кампазітараў "Надзея - 93", яна ўжо паказала дзіцячую оперу "Кветкі пад ліўнем" па аднайменнай п'есе беларускага драматурга І. Сідарука і зноў стала лаўрэатам (І месца, 1993 г.). Сярод выканаўцаў оперы - лаўрэат міжнародных конкурсаў, артыст Беларускага тэатра оперы і балета Міхась Жылюк, салістка Белдзяржфілармоніі Алена Казанцава.

Сімвалічна, што прэм'ера оперы адбылася ў Гарадзенскім лялечным тэатры - у тым будынку, дзе 220 гадоў таму назад артысты мецэната графа Антонія Тызенгаўзена ставілі оперныя і балетныя спектаклі. Гэтым творам маленькая дзяўчынка садзейнічала таму, каб праз два з лішнім стагоддзі твор опернага жанру ізноў прагучаў у Гародні.

У 1993 годзе Дзінара стала пераможцам абласнога фэсту "Новыя імёны" ў Гародні як піяністка (кл. вык. М.І. Рачкоўскай) і лаўрэатам Міжнароднага конкурсу імя Клеафаса Агінскага ў Смаргоні (І месца).

Да чарговага Міжнароднага конкурсу юных і маладых кампазітараў "Надзея - 94" Дзінара напісала балет "Дзюймовачка" па аднайменнай казцы Х.К. Андэрсана "Дзюймовачка". Удзельнікі конкурсу ўбачылі на сцэне Гарадзенскага тэатра лялек балет "Дзюймовачка", які выканалі выхаванцы Беларускага дзяржаўнага харэаграфічнага каледжа. Журы конкурсу аднадушна прысудзіла Дзінары Гран-пры (г. Менск, 1994 г.).

У 1994 годзе ў Лідскім гарадскім Доме культуры, дзесяцігадовая Дзінара, дала свой першы аўтарскі двухгадзінны канцэрт. Разам з аўтарам яе творы выконвалі артысты опернага тэатра, выхаванцы харэаграфічнага каледжа, выкладчыкі і навучэнцы музычнай вучэльні і музычнай школы.

У 1995 годзе Дзінара стала лаўрэатам фартэпіяннага конкурсу імя Горскага, дзе заняла І месца і ў



гэтым жа годзе яна - лаўрэат стыпендыі Беларускага дзіцячага фонду.

У 1995 году сям'я пераязджае ў новую кватэру па вуліцы Рыбіноўскага, і Дзінара ідзе вучыцца ў СШ № 17. Трэба сказаць, што і ў СШ № 11, і ў СШ № 17 яна была круглай выдатніцай і з вялікім задавальненнем хадзіла на заняткі ў агульнаадукацыйную школу. Мела шмат сяброў і сябровак. Заўсёды была вельмі таварыскім дзіцем. Адміністрацыі школ заўсёды падтрымлівалі заняткі музыкай Дзінары і ўвесь час дэманстравалі яе творы шырокаму колу навучэнцаў і моладзі. З ранняга дзяцінства яна выступала на аглядах мастацкай самадзейнасці, канцэртах. Прыемна, што школа змагла ўбачыць талент і даць магчымасць яму рэалізавацца, магчымасць выйсці на школьную аўдыторыю і падарыць музыку сваёй навучэнкі аднагодкам. На канцэртах Дзінары ў горадзе заўсёды зацікаўленымі слухачамі, падтрымкай былі яе аднакласнікі і настаўнікі. Частыя выступы Дзінары, яе паездкі на конкурсы і канцэртныя выступы, знаходзілі разуменне з боку адміністрацыі школ. Усе пытанні, якія ўзнікалі з яе адсутнасцю заўсёды вырашаліся станоўча.

У адзінаццацігадовым узросце Дзінара стала лаўрэатам Міжнароднага музычнага фэсту "Гімн Вялікаму гораду", конкурсу "Я - кампазітар" у Санкт-Пецярбургу, дзе атрымала ІІІ прэмію за песню - "Гімн Пятра тварэння". У 1996 годзе становіцца стыпендыятам Беларускага фонду Сораса. Ёй прысвоена званне "Узыходная зорка Сораса".

У дванаццацігадовым узросце Дзінара стварае новы балет "Чароўная флейта", з якім у 1996 г. заваёўвае І месца і званне лаўрэата Міжнароднага конкурсу юных і маладых кампазітараў "Надзея - 96" у г. Гародні.

У 1996 г. Дзінара - у ліку першых стыпендыятаў адмысловага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь




па падтрымцы таленавітай моладзі.

У трынаццацігадовым узросце Дзінара становіцца дыпламантам і ўладальнікам адмысловага прыза за прафесіяналізм за фартэпіянныя "Скерца" на Міжнародным конкурсе кампазітараў, які праходзіў у рамках Міжнароднага музычнага фэсту "Настаўнік і вучань" у сталіцы культуры Расіі - Санкт-Пецярбургу (1996 г.).

У гэтым жа годзе яна дае ў сваім родным горадзе яшчэ адзін аўтарскі канцэрт, у якім паказвае свае новыя сачыненні.

У 1997 г. у г. Маскве Дзінара прайшла навучанне ў майстар - класе па кампазіцыі ў прафесара Маскоўскай дзяржаўнай кансерваторыі імя П.І. Чайкоўскага Т.А. Чудавай, куды была запрошана дабрачынным фондам "Новыя імёны".

Нацыянальнай тэлерадыёкампаніяй Рэспублікі Беларусь, тэлевізійным агенцтвам "Тэлестужка", пра Дзінару зняты дакументальны фільм "Лідскае капрычыё", рэжысёр - лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Латвійскай ССР Л. В. Гедравічус (1997 г.).

У 1997 годзе Дзінары ўручаецца стыпендыя фонду "Мы - дзецям".

У 1998 г. Дзінара становіцца лаўрэатам III Усебеларускага тэлевізійнага фэсту "Усе мы родам з дзяцінства" за аўтарскую песню "Школьны вальс".

"Урачыстая песня", напісаная Дзінарай на словы Я. Якубоўскага, гучала на Сусветным кангрэсе татараў у Беларускім дзяржаўным музычным тэатры, пасля чаго яна афіцыйна здабыла статус гімну беларускіх татараў.

Лаўрэат III Усерасійскай Артыяды. Асацыяцыя сацыяльна - культурных ініцыятыў "Класічная спадчына" (г. Масква) у 1998 г. праводзіла Міжнародны конкурс кампазітараў - піяністаў "Мікалай Рубінштэйн і маскоўская кампазітарская школа", на якім Дзінара становіцца дыпламантам міжнароднага конкурсу піяністаў - кампазітараў. У якасці пераможца конкурсу яна атрымала ганаровае права граць на праслаўленай сцэне Вялікай залы Маскоўскай дзяржаўнай кансерваторыі імя П.І. Чайкоўскага (клас выкл. Л.Ж. Кудрашовай). У гэтым жа годзе Дзінара ганаравана званнем лаўрэата Адкрытага Міжнароднага конкурсу кампазітараў "А.С. Пушкін, яго сучаснікі і музыка", прысвечанага 200-годдзю з дня нараджэння А.С. Пушкіна, дзе заняла II месца за фартэпіянную сюіту "Торт у небе".

Такім чынам, былая навучэнка музычнай школы, юны аўтар ужо набывае вядомасць у колах музыкаў і становіцца лаўрэатам Міжнародных музычных фэстаў і конкурсаў у гарадах Гародня, Менск, Смаргонь, Санкт-Пецярбург, Масква. Яшчэ ў трынаццацігадовым узросце яна атрымлівае ганаровае права граць на ўслаўленай сцэне Вялікай залы Маскоўскай кансерваторыі імя П. І. Чайкоўскага.

За ўвесь час навучання ў музычнай і агульнаадукацыйнай школе Дзінара - выдатніца па ўсіх прадметах.

**Вучоба ў Рэспубліканскім комплексе гімназіі-каледжы пры Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі ў горадзе Менску**

Развіваючы свае здольнасці, пасля заканчэння музычнай школы, Дзінара паступае ў Рэспубліканскі комплекс гімназію-каледж пры Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі ў горадзе Менску па класе фартэпіяна і заканчвае яго з адзнакай.

З 1998 г. Дзінара - навучэнка рэспубліканскага комплексу гімназія - каледж пры БГАМ у г. Менску. Класам фартэпіяна кіруе - старэйшы выкладчык БГАМ, лаўрэат міжнародных конкурсаў А.Я. Сікорскі, класам кампазіцыі - старшыня Асацыяцыі кампазітараў Гарадзеншчыны Віталь Радзівонаў, класам інструментазнаўства - загадчык кафедры інструментазнаўства, дацэнт БГАМ В. В. Кузняцоў.

У 1998 годзе Дзінара зноў становіцца лаўрэатам Міжнароднага конкурсу кампазітараў імя М. Багдановіча ў горадзе Гародні, заняўшы II месца.

У снежні 1998 г. у Менску ў Беларускім таварыстве дружбы і сувязяў з замежнымі краінамі прайшла прэзентацыя першага нотнага зборніка Дзінары Мазітавай "Дзюймовачка" і яе аўтарскі канцэрт, у якім яна паказала свае новыя творчыя працы. Зборнік твораў Дзінары "Дзюймовачка" выпушчаны выдавецтвам "Чатыры чвэрці", галоўны рэдактар выдавецтва Л.Ф. Анцух.

Выпушчана аўдыё-касета **“Дзінара Мазітава "Музыка для дзяцей" у выкананні аўтара, лаўрэата міжнародных конкурсаў Дзінары Мазітавай”.**

Змест:

А-бок: фартэпіянныя творы: “Лясная сюіта”, рознахарактарныя п'есы, сюіта "Нязнайка і яго сябры", сюіта "Сельскія сцэны" (31 твор).

В-бок: балет "Дзюймовачка" (32 творы) .

У 1998 г. Дзінара зноў становіцца стыпендыятам адмысловага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі. На першым кампакт-дыску Адмысловага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі гучыць музыка Дзінары Мазітавай.

У 1999 г. у г. Гародні ў Гарадскім доме культуры паспяхова прайшоў аўтарскі канцэрт Дзінары пры ўдзеле тэатра песні "Ліда - Мюзікл".

У верасні 1999 г. у г. Вільні адбыліся тры аўтар-

скія канцэрты Д. Мазітавай: у Віленскай ратушы, музычнай школе імя Саснаўскаса і ў зале Віленскай гімназіі мастацтваў імя М. Чурлёніса.

У Беларусі ў 2000 годзе Дзінара становіцца лаўрэатам IV адкрытага гарадскога фэсту нацыянальных культур "Сонечны птах" і ўладальнікам адмысловага прыза на Міжнародным конкурсе юных кампазітараў імя Семянякі ў г. Гародні.

У 2001 г. яна зноў станавіцца лаўрэатам V адкрытага фэсту нацыянальных культур народаў Рэспублікі Беларусь "Сонечны птах" і ў гэтым жа годзе Дзінара становіцца лаўрэатам Міжнароднага фартэпіяннага конкурсу ў Італіі "Pianello Val-Tidone" (II месца).

У 2001 году міні-балет "Дзюймовачка" Д. Мазітавай быў выкананы ў Палацы Рэспублікі на ўрачыстым канцэрце, прысвечаным Дню Рэспублікі ў г. Менску, узорным ансамблем танцу "Лялечкі", а таксама на творчым канцэрце, прысвечаным 200-год-дзю Гарадзенскай губерні ў Драматычным тэатры ў Гародні.

У 2002 годзе ўпершыню за ўсю гісторыю беларускай музыкі ў канцэртнай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі адбыўся аўтарскі канцэрт васямнаццацігадовага кампазітара - Дзінары Мазітавай у 2-х аддзяленнях. У канцэрце прынялі ўдзел 150 выканаўцаў: салісты філармоніі, камерны хор Рэспублікі Беларусь, узорны ансамбль "Лялечкі" і г. д. *"Творы Дзінары Мазітавай публіка прыняла са шчырай сімпатыяй, бо музыка яе была таксама шчырай і акрамя таго простай, яснай, добрай, вобразнай, псіхалагічна тонкай, светлай, жыццярадаснай, тэмпераментнай, вытанчанай, прыгожай і, галоўнае, асобаснай - той, што заснавана на гармоніі гукаў, якія ачышчаюць душу",* - напісаў чалец Саюза кампазітараў Беларусі Віталь Канстанцінавіч Радзівонаў.

Музыка Дзінары Мазітавай, якая гучыць на аўтарскім канцэрце ў беларускай філармоніі, увайшла ў дыск "Вясновы канцэрт" (42 творы). У дыск увайшлі творы Дзінары Мазітавай: для фартэпіяна; скрыпкі, флейты, віяланчэлі і габоя з фартэпіяна; харавая музыка ў выкананні: лаўрэатаў міжнародных конкурсаў: Дзінары Мазітавай (фартэпіяна), Аляксандра Хаскіна (флейта), лаўрэата рэспубліканскага конкурсу Ганны Маркавай (скрыпка), дыпламанта міжнароднага конкурсу (ансамбль, ф-але): Аксаны Свяклы; салістаў філармоніі: Нэлі Душчынскай і Віктара Кедала, і дзяржаўнага камернага хору Рэспублікі Беларусь, кіраўнік Наталля Міхайлава.

У творчым багажы Дзінары пасля заканчэння гімназіі - каледжа ў 2002 годзе: дзве дзіцячыя оперы: "Кветкі пад ліўнем", "Чароўная флейта"; тры балеты: "Дзюймовачка", "Чароўная флейта", "Торт у небе"; фартэпіянныя сюіты: "Лясная сюіта", "Нязнайка і яго сябры", "Сельскія сцэны", "Дзіцячая сюіта", "Хронікі Нарніі", "Галерэя інтэрвалаў", "Рознахарактарныя п'есы", "Танцавальная музыка", "Дзесяць скерца"; творы для флейты з фартэпіяна "Дзяцінства", для віяланчэлі з фартэпіяна "Маладосць", для скрыпкі з фартэпіяна "Юнацтва", для габоя з фартэпіяна "Світанак у гарах", творы для скрыпкі з фартэпіяна "Таката" і грузінскі танец "Длякушы"; п'есы для клавесіна; "Усходнія танцы" для камернага ансамбля; цыкл дзіцячых песень на ўласныя вершы, вершы беларускіх і рускіх паэтаў (35 песень); тры хоры на словы Амара Хаяма; "Тры настроі" для фартэпіяна; 9 песень на "Байкі Крылова" для сапрана і тэнара ў суправаджэнні фартэпіяна, 7 прэлюдый для флейты і фартэпіяна, 7 прэлюдый для альта і фартэпіяна, 7 прэлюдый для скрыпкі і фартэпіяна, дзве санаты для фартэпіяна №1 G , № 2 cis moll.

У 2002 годзе Дзінара на выдатна з чырвоным дыпломам скончыла Рэспубліканскі комплекс гімназія-каледж пры Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі ў горадзе Менску па класе фартэпіяна і адразу паступіла ў Санкт-Пецярбургскую дзяржаўную кансерваторыю імя Рымскага-Корсакава на два факультэты адначасова - кампазітарскі і фартэпіянны.

**Гады вучобы і творчай дзейнасці Дзінары Мазітавай у Санкт-Пецярбургу (2002 - 2017 гг.)**

З 2002 года Дзінара - студэнтка Санкт - Пецярбургскай дзяржаўнай кансерваторыі імя Н.А. Рымскага - Корсакава па дзвюх спецыяльнасцях: фартэпіяна і кампазіцыі адначасова. Клас кампазіцыі выкладае Народны артыст Расіі, першы лаўрэат Залатога медаля імя Д.Д. Шастаковіча, лаўрэат Дзяржаўных прэмій Расіі, прафесар Барыс Іванавіч Тышчанка. Клас фартэпіяна выкладае Заслужаны артыст Расіі, кандыдат мастацтвазнаўства, прафесар Алег Юр'евіч Малаў.

За гады навучання ў кансерваторыі Дзінара дамаглася прыкметных вынікаў у прафесійным удасканаленні.

У 2004 г. Дзінара стала пераможцам фартэпіяннага конкурсу па чытанні з ліста і транспанаванні, які праводзіцца ў Санкт-Пецярбургскай дзяржаўнай кансерваторыі імя Рымскага - Корсакава (1месца).

У гэтым жа годзе яна стала лаўрэатам Міжнароднага конкурсу камерных ансамбляў фонду Гартаў (Германія, II месца). А таксама становіцца ўладальнікам Адмысловага прыза за лепшае выкананне класічнага твора на гэтым Міжнародным конкурсе.

У 2006 годзе становіцца дыпламантам I Між-



народнага конкурсу піяністаў імя Сафіі Губайдулінай (г. Казань, Расія). Ганаравана граматай Цэнтра сучаснай музыкі Сафіі Губайдулінай за лепшае выкананне сачынення кампазітара на конкурсе.

У 2007 г. Дзінара Мазітава - лаўрэат II прэміі ў намінацыі "Камерныя ансамблі" Міжнароднага конкурсу імя Марыі Юдзінай у складзе трыа "Corde" (Мазітава Дзінара, Фенстар Ганна, Смірноў Андрэй).

Трыа "Corde" на гэтым Міжнародным конкурсе атрымлівае званне “Лаўрэат IX Міжнароднага конкурсу камерных ансамбляў імя М.В. Юдзінай” і ганаравана спецыяльнай прэміяй імя Т. А. Гайдамовіч. (Старшыня журы - Народны артыст РФ, лаўрэат "Прэміі Масквы", прафесар, прарэктар Маскоўскай кансерваторыі імя П.І. Чайкоўскага А. Бандуранскі, г. Санкт-Пецярбург, Расія, 2007 г.)



У 2007 г. у г. Магнітагорску (Расія) Дзінара ў складзе трыа "Corde" становіцца лаўрэатам I Міжнароднага конкурсу камерна - ансамблевага выканальніцтва імя Т. А. Гайдамовіч і атрымлівае I месца. Старшыня журы - А. Бандуранскі (г. Магнітагорск, Расія, 2007 г.)

У гэтым жа годзе трыа "Corde" прысуджаюць спецыяльную прэмію імя Т.А. Гайдамовіч “Ансамблю-лаўрэату IX Міжнароднага конкурсу камерных ансамбляў імя М.В. Юдзінай (г. Масква, Расія, 2007 г.)

У 2007 годзе Дзінара становіцца Рахманінаўскім стыпендыятам, ёй уручаны сертыфікат на атрыманне Рахманінаўскай стыпендыі, заснаванай Рахманінаўскім культурным цэнтрам: Антык-гатэль "Рахманінаў", Пакой-музей С.В. Рахманінава, галерэя "Рахманінаў панадворак", часопіс Саюза міні-гатэляў, Музычны салон імя С.В. Рахманінава, Санкт- Пецярбургскае Рахманінаўскае таварыства (2007 г., г. Санкт-Пецярбург, Расія).

У адзначэнне 10-годдзя Санкт-Пецярбургскага Рахманінаўскага таварыства ў 2007 годзе Санкт-Пецярбургская кансерваторыя імя Рымскага-Корсакова і Рахманінаўскае таварыства аб’явілі Дзінары падзяку за ўдзел у канцэртах і за падтрымку Санкт-Пецярбургскага Рахманінаўскага таварыства на працягу многіх гадоў.

У гэтым жа годзе Дзінара Мазітава ганаравана стыпендыяй Навуковай рады Санкт-Пецярбургскай дзяржаўнай кансерваторыі імя Н.А. Рымскага-Корсакава.

У 2007 годзе Дзінара на выдатна скончыла кампазітарскі і фартэпіянны факультэты Санкт-Пецярбургскай дзяржаўнай кансерваторыі імя Н.А. Рымскага- Корсакава адначасова. Атрымала два чырвоныя дыпломы.

Не выпадкова менавіта Дзінару Мазітаву назвалі лепшай выпускніцай кансерваторыі ў 2007 годзе. Губернатар Санкт - Пецярбурга Валянціна Матвіенка на цырымоніі ўшанавання ў Атрыўме Петрапаўлаўскай цвердзі ўручыла Дзінары дыплом "Лепшы выпускнік 2007 года", сфінкс "Лепшы выпускнік ВНУ Санкт - Пецярбурга 2007 года", заснаваны ўрадам Санкт - Пецярбурга, Саветам рэктараў ВНУ.






З 2007 года - Дзінара аспірантка Санкт-Пецярбургскай кансерваторыі адначасова двух факультэтаў: фартэпіяна і кампазіцыі (клас прафесара А.Ю. Малава, клас прафесара Б.І. Тышчанкі).

Нароўні з навучаннем Дзінара ўдзельнічае ў Міжнародных конкурсах, шмат канцэртуе, сачыняе і пачынае сваю педагагічную дзейнасць у якасці выкладчыка кампазіцыі ў Музычным ліцэі Камітэта па культуры Санкт-Пецярбурга і стажора на кафедры кампазіцыі ў кансерваторыі.

У 2008 г. Дзінара становіцца лаўрэатам XII Міжнароднага конкурсу сучаснай камернай музыкі (II месца) у Польшчы ў г. Кракаў і атрымлівае адмысловую ўзнагароду імя прафесара Марка Стахоўскага за лепшае выкананне твора польскага кампазітара на Міжнародным конкурсе.

У гэтым жа годзе яна атрымлівае дыплом фіналіста V Міжнароднага конкурсу піяністаў імя Язэпа Вітола ў Латвіі ў г. Рыга (2008 г.)

Становіцца дыпламантам курсаў кампутарнай музыкі ў Польшчы ў Акадэміі музыкі імя Фрыдарыка Шапэна ў Варшаве ў 2008 г.

У Санкт-Пецярбургу Дзінара становіцца лаўрэатам II Усерасійскага конкурсу кампазітараў імя Д.Д. Шастаковіча студэнтаў і аспірантаў ВНУ Расіі з Міжнародным удзелам, дзе займае II месца (2008 г.).

У верасні 2009 года Дзінара ўдзельнічае ў Міжнародным фэсце-конкурсе піяністаў "George Enescu" ў Румыніі.

Дзінара - пераможца конкурсу "Кампазітарскія асамблеі" ў намінацыі "Лепшы твор для аргана" (Санкт - Пецярбург, Расія). Ёй уручаны сертыфікат на выданне "Ронда" ў выдавецтве "Кампазітар" Санкт-Пецярбурга. Ронда для аргана Дзінары Мазітавай стала абавязковым творам на I Міжнародным конкурсе арганістаў, які праводзіўся ў Санкт-Пецярбургу ў 2009 г.

Да юбілею свайго педагога Б.І. Тышчанкі Дзінара склала свой арыгінальны твор - "Марыска на дзень нараджэнне чалавека, які склаў цыкл "Дарога", 4-ю Пражскую санату і "На пастрыжэнне нямілай", адважнага барацьбіта за праўду і любімага педагога Барыса Іванавіча Тышчанкі з пажаданнем станцаваць на свой наступны юбілей марыску!" для фартэпіяна (2009 г.).

Расійскім дзяржаўным педагагічным універсітэтам імя А.І. Герцана апублікаваны артыкул Дзінары Мазітавай "Саната № 11 Б.І. Тышчанкі. Выканальніцкі аналіз" (у зборніку "Музычная адукацыя ў сучасным свеце: дыялог часоў" - Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі", Санкт-Пецярбург, 2009 г.).

У 2010 годзе Дзінара на выдатна скончыла аспірантуру Санкт-Пецярбургскай кансерваторыі па двух факультэтах - фартэпіянным і кампазітарскім адначасова. Пасля заканчэння кансерваторыі яна становіцца выкладчыкам кафедры адмысловага фартэпіяна Санкт - Пецярбургскай дзяржаўнай кансерваторыі імя Н.А. Рымскага - Корсакава, паралельна вядзе кампазіцыю ў Музычным ліцэі Камітэта па культуры Санкт-Пецярбурга.

**Творчы багаж Д. Мазітавай за час навучання ў кансерваторыі:**

Пяць рамансаў на словы Хафіза для сапрана і фартэпіяна;

"На Гейнэ" для мецца-сапрана, флейты і фартэпіяна;

Струнны квартэт;

Варыяцыі для струннага квартэта;

Варыяцыі для флейты і фартэпіяна;

Сем песень на вершы Цвятаевай для мецца-сапрана сола;

Варыяцыі для струннага квартэта, другая рэдакцыя;

Вакальны цыкл "На Багушэвіча" для жаночага



і мужчынскага галасоў, скрыпкі, віяланчэлі, флейты і басэтлі;

Дзве песні - "Лебедзь" і "Трыснёг" на старажытнаангельскую паэзію для мецца - сапрана і трох флейт;

"Puits" для дзвюх блок-флейт;

Інвенцыі для 4 блок-флейт, клавесіна і фартэпіяна;

П'еса для блок-флейты;

Ронда "Прамень" для фартэпіяна;

"Жураваачка" для мужчынскага голасу, блок-флейты, дзвюх віяланчэляў і фартэпіяна;

Саната для фартэпіяна ў пяці частках;

Тры канцэртныя фугі для фартэпіяна;

"Сонечныя варыяцыі" для фартэпіяна;

"Вяснянкі" для сімфанічнага аркестра;

Патройны канцэрт для 2-х скрыпак і віяланчэлі з аркестрам;

"Песні без слоў" для фартэпіяна: "Алеся" "Белым - белым буслам", "Абуджэнне", "Белая ноч", "Со-



нечны рамансˮ, "Пяты дзень вясны", "Дзень нараджэння Манэ", "У Бахчысарайскай мячэці", Зорны дыпціх па матывах лірыкі Адаса Якубаўскаса;

Дывертысмент для басэтлі і фартэпіяна;

Ронда для аргана;

Квінтэт "Касіяпея" для 2-х фартэпіяна, ударных і электрагітары.

Сольныя канцэрты Дзінары Мазітавай праходзілі ў: зале Дома кампазітараў (Санкт-Пецярбург, 2004 г.), Малой зале імя А. Глазунова Санкт-Пецярбургскай дзяржаўнай кансерваторыі (2008 г.), Вялікай зале Акадэміі мастацтваў імя М. Чурлёніса (Літва, Вільня, 2008 г.), у Доме нацыянальных культур (Літва, Коўня, 2008 г.), Доме - музеі М.К. Чурлёніса (Літва, Друскенікі, 2008 г., 2009 г.) і г. д.

Дзінара выступала з аркестрам у Малой зале імя М. Глінкі Санкт-Пецярбургскай дзяржаўнай філармоніі (2007), Малой зале імя А. Глазунова Санкт-Пецярбургскай дзяржаўнай кансерваторыі (2008 г.).

У 2010 годзе ў складзе трыа "CORDE" Дзінара выступае на канцэртах і майстар-класе ў Германіі.

За гады навучання ў Санкт-Пецярбургу Дзінара выступала і яе музыка гучала ў залах:

Санкт- Пецярбургская акадэмічная філармонія імя Д.Д. Шастаковіча, Вялікая зала; Санкт-Пецярбургская акадэмічная філармонія імя Д.Д. Шастаковіча, Малая зала імя М.І. Глінкі; Дом кампазітараў Санкт-Пецярбург; Эрмітажны тэатр, Санкт-Пецярбург; Расійская нацыянальная бібліятэка, Санкт-Пецярбург; Дзяржаўны музей гісторыі Санкт-Пецярбурга; Санкт-Пецярбургская Ваенная Акадэмія; Шарамецеўскі палац Санкт-Пецярбурга; Салон галерэі Рахманінаў панадворак, Санкт- Пецярбург; Дзяржаўная акадэмічная капэла Санкт- Пецярбург; Санкт-Пецярбургская Дзяржаўная кансерваторыя імя Н.А. Рымскага-Корсакава, Малая зала імя А.К. Глазунова; Санкт - Пецярбургская Дзяржаўная кансерваторыя імя Н.А. Рымскага Корсакава, Камерная зала; Санкт-Пецярбургскі Дзяржаўны ўніверсітэт; Актавая зала дванаццаці калегій; Дзяржаўная музычная вучэльня імя М. Мусаргскага, Санкт-Пецярбург; Дзяржаўная музычная вучэльня імя Рымскага- Корсакава, Санкт-Пецярбург; Музычны ліцэй Камітэта па культуры Санкт-Пецярбурга; Дзіцячая школа мастацтваў імя С. Рахманінава, Санкт-Пецярбург; Музычны ліцэй камітэта па культуры Санкт-Пецярбурга; Канцэртная зала, Дом Кочневай (набярэжная Фантанкі, 41), (былы " ЛЕНКАНЦЭРТ"); Дом кампазітараў, Масква; Маскоўская Дзяржаўная кансерваторыя, зала імя С.В. Рахманінава; Вялікая зала Маскоўскай Дзяржаўнай кансерваторыі імя Пятра Ілліча Чайковскага; Зала дабрачыннай праграмы "Новыя імёны" (Масква); Варшаўская Акадэмія музыкі; Філармонія, Кракаў, Польшча; Ратуша (філармонія), Вільня, Літва; Дом нацыянальных культур, Коўня, Літва; Гімназія мастацтваў імя М. Чурлёніса, Вільня, Літва; Дом-музей імя М.К. Чурлёніса, Друскенікі, Літва; Музычная школа імя Саснаўскаса, г. Коўня, Літва; музычная школа ў г. Вісагінас, Літва; Беларуская Дзяржаўная філармонія, Вялікая зала; Канцэртная зала "Менск"; Беларускі дзяржаўны музычны тэатр; Вялікая зала Беларускай акадэміі музыкі; Беларускі інстытут культуры; Саюз кампазітараў, г. Менск; Палац Рэспублікі, Менск; Беларускае таварыства дружбы і сувязяў з замежнымі краінамі; Гарадзенскі тэатр лялек; Гарадскі Дом культуры, г. Гароднія; Гарадзенская педагагічная вучэльня; Дом культуры, г.п. Абухава; Гарадскі дом культуры г. Ліды; Лідская дзяржаўная педагагічная вучэльня; Лідская дзяржаўная музычная вучэльня, Вялікая зала, Беларусь, г. Ліда; Лідскі каледж, Установа адукацыі Гарадзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы; Дзіцячая музычная школа г. Ліды і г.д.

Выдавецтвам "Кампазітар - Санкт-Пецярбург" выдадзены наступныя творы: "Дзіцячая сюіта" для фартэпіяна (2007 г.) і "Журавачка" для голасу, блокфлейты, дзвюх віяланчэляў і фартэпіяна (2010 г.), рыхтуецца да выдання Ронда для аргана.

Дзінара Мазітава брала ўдзел у Міжнародных навуковых канферэнцыях: ІІ-я і ІІІ-я Міжнародныя навукова-практычныя канферэнцыі "Музычная адукацыя ў сучасным свеце: дыялог часоў", Санкт-Пецярбург, 2009 і 2010 гады; ІІ-я Міжнародная навуковая канферэнцыя студэнтаў, аспірантаў і маладых навукоўцаў "Мастацтва вачамі маладых", Краснаярск, 2010 год.

Яна з'яўляецца аўтарам шэрагу публікацый па тэорыі выканальніцтва сучаснай фартэпіяннай музыкі.

**Творчая і педагагічная дзейнасць Дзінары Мазітавай у Санкт-Пецярбургу (з 2011 г. па 2017 г.)**

Атрымаўшы прэстыжную адукацыю, Дзінара праявіла сябе прафесійна: як кампазітар, піяністка і выкладчык.

25 снежня 2011 г. Дзінара Мазітава стала чальцом Саюза кампазітараў Санкт-Пецярбурга.

У студыях Санкт-Пецярбурга Дзінара запісвае зборнікі (для фартэпіяна) свайго выкладчыка па кампазіцыі Барыса Іванавіча Тышчанкі для выпуску наступных дыскаў:

Першая саната для фартэпіяна.

Варыяцыі для фартэпіяна.

Тры інвенцыі для фартэпіяна.

Тры поліфанюдыі для фартэпіяна.

"Інвазія" для фартэпіяна.

"Катавасія" для фартэпіяна.

Пятая саната для фартэпіяна.

Дзясятая саната (Навукова-даследчая саната "Эўрыка!") для фартэпіяна.

Адзінаццатая саната для фартэпіяна.

Эга-сюіта для фартэпіяна.

У 2012 - 2013 гг. выпушчаны кампакт-дыскі з музыкай Б.Тышчанкі ў выкананні Д. Мазітавай:

*Дыск "Maestro" (Альбом II, JMR CD 019.) Сусветная прэм'ера гукапісаў. Барыс Тышчанка. Сачыненні. Альбом II. Запісаны ў Пецярбургскай студыі грамзапісу, у Лютаранскай царкве Св. Кацярыны, Санкт-Пецярбург. Дзінара Мазітава - фартэпіяна.




Сачыненні для фартэпіяна: Першая саната для фартэпіяна. Эга-сюіта для фартэпіяна.

*Дыск. Музычны архіў Пецярбурга. "Northern Flowers". "Барыс Тышчанка, Volume1 Complete Works for Piano. Volume I MF/PMA99104 (2012 г.)

Sonata №1. op. 3/121 (1957/1955). Саната №1.

Egosuite. op. 6 (1957). Эга-сюіта.

Sonata № 2. op.17 (1960). Саната № 2.

Tree Riddles, op. 19, №1 (1960).

Tree Polyphononudes, op.19, №2 (1960). Тры поліфанюды.

Dinara Mazitova, Piano. Дзінара Мазітава, фартэпіяна.

Рыхтуюцца да выдання новыя дыскі ў выкананні Дзінары Мазітавай.

У 2011 г. у рамках Міжнароднага эканамічнага форума адбыўся сольны канцэрт Дзінары Мазітавай у Беларусі ў яе родным горадзе Лідзе.

У рамках "Міжнароднага тыдня кансерваторый" у складзе прадстаўнікоў Санкт- Пецярбургскай кансерваторыі Дзінара, як аспірантка выступала ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі на Міжнародным тыдні кансерваторый і выканала сольна сваё сачыненне: "Рудая дзяўчынка шпацыруе рудым днём" і музыку прафесара кансерваторыі Слонімскага (2011 г.).

З вялікай цікавасцю Дзінара працуе выкладчыкам кампазіцыі вышэйшай катэгорыі Музычнага ліцэя Камітэта па культуры Санкт-Пецярбурга. Удзельнічаючы ў конкурсе "Педагагічныя надзеі - 2011" у намінацыі "Мае вучні", які праводзіцца ў Санкт-Пецярбургу, становіцца пераможцам гэтага конкурсу, і ёй уручаецца дыплом пераможцы агляду-конкурсу педагагічнага майстэрства "Педагагічныя надзеі - 2011" дырэктарам ГАУ ДПА УМ, заслужаным работнікам культуры РФ Е.С. Міхайлавай.

Дзінара і вучні яе класа па кампазіцыі, сталыя ўдзельнікі Міжнародных фэстаў "Ад авангарда да нашых дзён", сумесных канцэртаў кампазітараў Фінляндыі і Расіі ў 2008 - 2016 гг.

09.03.2012 г. у Санкт-Пецярбургу ў Дзяржаўнай Акадэмічнай капэле адбылося першае выкананне музычнай казкі "Церамок" з твораў навучэнцаў класа кампазіцыі выкладчыка Дзінары Рымаўны Мазітавай у выкананні Аркестра рускіх народных інструментаў "Балалайка", мастацкі кіраўнік і дырыжор - Заслужаны работнік культуры РФ Аляксей Даўгоў.

За дасягненні ў педагагічнай дзейнасці ў 2012 г. Мазітава Дзінара Рымаўна, выкладчык Санкт-Пецярбургскага музычнага ліцэя Камітэта па культуры ўзнагароджана Прэміяй урада Санкт-Петрбурга "Педагагічныя надзеі". Мэр горада Г.С. Палтаўчанка ўрачыста ўручыў Дзінары ўрадавую прэмію

За перыяд працы ў якасці выкладчыка вышэйшай катэгорыі Санкт-Пецярбургскага музычнага ліцэя Камітэта па культуры (з 2007 г. па 2017 г.) вучні Д. Мазітавай больш за 40 раз былі ганараваны званнямі лаўрэатаў Міжнародных і Усерасійскіх конкурсаў па кампазіцыі, у тым ліку: Міжнароднага юнацкага конкурсу імя В.Я. Гаўрыліна "Я кампазітар" (Санкт-Пецярбург), Гран-пры VI Міжнароднага конкурсу кампазітараў "Зімовая Рыўера" (Сочы,); Адкрытага кампазітарска - выканальніцкага конкурсу, прысвечанага Андрэю Пятрову "Бывае ўсё на свеце добра" (Санкт-Пецярбург), Міжнароднага конкурсу юных кампазітараў імя В.Я. Гаўрыліна ў Волагдзе, пераможцаў Адкрытага гарадского конкурсу ў намінацыі





“Кампазітар” (Санкт-Пецярбург) і г.д.

Акрамя перамог на конкурсах Дзінара здолела падрыхтаваць сваіх навучэнцаў да выступленняў на XXIV - XXVIII Міжнародных музычных фэстах "Зямля дзяцей", дзе гучалі творы пераможцаў Міжнародных конкурсаў, вучняў па класе кампазіцыі выкладчыка Дзінары Мазітавай (2012, 2013, 2014, 2015, 2016, 2017 гг.).

Вучні Дзінары выступалі на ўслаўленых сцэнах: Дзяржаўная акадэмічная капэла Санкт-Пецярбурга, Дом кампазітараў Санкт-Пецярбурга (2016 г., 2017 г.) "Раман, рамантыка, раманс" у музыцы вучняў і студэнтаў класаў кампазіцыі (Моладзевы асветніцкі цэнтр сучаснай музыкі TALEA TEMPORA).

У выкананні вучняў Дзінары такія спелыя і складаныя аўтарскія творы як: "Варыяцыі для фартэпіяна" (прысвячаюцца Р. Шуману) Юліі Юсібавай; канцэрты ў Доме кампазітараў Санкт-Пецярбурга 2016 - 2017 гг.; святочны дабрачынны канцэрт “Калядны калейдаскоп” РУСФОНД, у Дзяржаўнай акадэмічнай капэле Санкт-Пецярбурга; гала-канцэрт - Адкрытага кампазітарска-выканальніцкага конкурсу, прысвечанага Андрэю Пятрову "Бывае ўсё на свеце добра" (выступ Светы Івановай "Страшная бяда" і "Цёплы вечар на Няве"" (08.12.2016 г.).

На XXVIII Міжнародным музычным фэсце "Зямля дзяцей " у Доме кампазітараў Наіля Юсібава выканала свой спелы твор - санату ў 3-х частках (2017 г.).

Штогод Дзінара з навучэнцамі праводзіць справаздачныя канцэрты свайго класа кампазіцыі, дзе яны паказваюць свае новыя сачыненні. Заўсёды поўная зала ўдзячных слухачоў прыходзіць нацешыцца музыкай маладых піцерскіх талентаў пад кіраўніцтвам дасведчанага педагога Дзінары Мазітавай.

Дзінара падрыхтавала і правяла аўтарскія канцэрты сваіх навучэнцаў па кампазіцыі: Паліны Красоўскай, Марка Карніенкі, Лізы Захаравай.

Выпушчаны зборнікі твораў навучэнцаў Дзінары Мазітавай як вучняў яе класа, так і асобных навучэнцаў - Лізы Захаравай.

Сваіх навучэнцаў Дзінара падрыхтавала да паспяховага паступлення ў кансерваторыю, і яны сталі студэнтамі кансерваторый кампазітарскіх аддзяленняў: Марк Карніенка - Санкт-Пецярбургскай кансерваторыі, Паліна Красоўская - Маскоўскай кансерваторыі і Акадэміі музыкі ў ЗША.

Навучэнцаў свайго класа Дзінара старанна рыхтуе да перамог на конкурсах і да выступаў на гала-канцэртах пераможцаў фэстаў і конкурсаў:

Пясецкі Марк - I месца на адкрытым кампазітарскім конкурсе, прысвечаным Андрэю Пятрову "Бывае ўсё на свеце добра". Яго сачыненне прагучала на канцэрце лаўрэатаў, які адбыўся на сцэне Дзяржаўнай акадэмічнай капэлы (Санкт- Пецярбург, лістапад 2004 г.);

Карушына Ганна - Гран-пры VI Міжнароднага конкурсу кампазітараў "Зімовая Рыўера" (Сочы, студзень 2015 г.);

Юсібава Найля, Маскалёва Ксенія, Наzембла Вераніка - лаўрэаты II Гарадскога конкурсу юных кампазітараў (Санкт-Пецярбург, люты 2015 г.);

Густава Соф'я - удзел у майстар-класе "Музычны канструктар" па стварэнні музычных інструментаў на новай сцэне Александрыйскага тэатра (Санкт-Пецярбург, сакавік 2015 г;

Сачыненні Захаравай Лізаветы, Корушкінай Ганны, Маскалёвой Ксеніі, Ніканорава Івана і Пясецкага Марка прагучалі на Міжнародным фэсце "Ад авангарда да нашых дзён" (Санкт-Пецярбург, сакавік 2015 г.)

Корушкіна Ганна - I прэмія XXVI Міжнароднага юнацкага конкурсу імя В.А. Гаўрыліна "Я - кампазітар". Яе сачыненні прагучалі на канцэрце лаўрэатаў, які адбыўся на сцэне Дома кампазітараў Санкт-Пецярбурга (сакавік 2015 г.);

Сачыненні Захаравай Лізаветы і Нікіфарава Івана прагучалі на сцэне Дзяржаўнай акадэмічнай капэлы Санкт-Пецярбурга ў выкананні аркестра народных інструментаў "Балалайка", дырыжор - Л.М. Даўгоў (красавік 2015г);

У чэрвені 2015 г. адбыўся аўтарскі канцэрт Пясецкага Марка.

Творы Захаравай Лізаветы прагучалі на сцэне Смольнага сабора ў выкананні аркестра народных інструментаў "Балалайка" пад кіраўніцтвам А.М. Даўгова (травень 2015 г.);

На канцэрце "Калядны калейдаскоп" Моладзевага асветніцкага цэнтра Сучаснай музыкі РУСФОНД выканалі свае сачыненні навучэнцы класа кампазіцыі Дзінары Мазітавай: Міра Іванова - тры п'есы для фартэпіяна: "Палёт анёлаў", "Страшная бяда", "Цёплы вечар на Няве"; Найля Юсібава - варыяцыі для фартэпіяна, прысвечаныя Рычарду Шуману (снежань 2016 г.);

Нароўні з актыўнай педагагічнай дзейнасцю Дзінара актыўна канцэртуе і сачыняе:

У 2012 годзе як кампазітар становіцца лаўрэ-



атам III прэміі на VI Міжнародным конкурсе імя С.С. Пракоф'ева па спецыяльнасці - "Кампазіцыя" ў намінацыі "Твор, для інструмента, які саліруе, з сімфанічным аркестрам". Фінальнае праслухоўванне праходзіла ў Зале імя Глазунова Санкт-Пецярбургскай кансерваторыі імя Н.А. Рымскага-Корсакава. Цырымонія ўзнагароджання праходзіла ў Вялікай зале Санкт-Пецярбургскай філармоніі ім. Д.Д. Шастаковіча, дзе і быў выкананы яе конкурсны твор аркестрам філармоніі.

У 2012 годзе Дзінара Мазітава выступала ў такіх залах, як Люстраная зала Палаца Беласельскіх - Белаазёрскіх, Шарамецдеўскі палац, Дом кампазітараў Санкт-Пецярбурга, Санкт-Пецярбургская дзяржаўная акадэмічная капэла, Зала імя Глазунова Санкт-Пецярбургскай кансерваторыі.

Дзінара стала ўдзельнікам грандыёзнага канцэртнага выканання на адкрытым паветры "Вяселейка" І. Стравінскага, якое адбылося 8 ліпеня 2012 года ў рамках імпрэзы "Дню сям'і, кахання і вернасці" на плошчы Мастацтваў у горадзе Санкт-Пецярбургу.

У гэтым жа годзе Дзінара ўдзельнічае ў конкурсе сучаснай музыкі ў Францыі.

У Беларусі адбылася прэзентацыя дыска Дзінары Мазітавай "Песні без слоў" (г. Ліда , 2012 г.).

У гэтым жа годзе яна атрымлівае Прэмію айчынных кампазітараў Саюза кампазітараў Санкт-Пецярбурга (2012 г.).

Значнай для Дзінары стала прэм'ера "Оперы 4-х пакаленняў", над якой яна працавала ў якасці аднаго з аўтараў. 15.03.2013 г. у Санкт-Пецярбургу на Міжнародным фэсце мастацтваў "Ад авангарда да нашых дзён. Працяг - 2", "Стыхія агню" ў Дзяржаўным Эрмітажы, у Артыўме Галоўнага штаба адбылося ўрачыстае адкрыццё выставы да 100-годдзя прэм'еры футурыстычнай оперы "Перамога над сонцам". Лібрэта Аляксей Кручаных. Музыка: Міхась Мацюшкін, Ігар Рогалеў, Ігар Вераб'ёў, Леанід Рэзетзінаў, Сяргей Полазаў, Антон Танонаў, Дзінара Мазітава, Артур Зобнін, Эліна Лебедзева. Рэжысёр - пастаноўшчык - Соф'я Сіраканян.

**Дзінара Мазітава актыўна сачыняе і канцартуе, сярод яе новых сачыненняў:**

*Квінтэт "Касіяпея" для 2-х фартэпіяна, ударных і электрагітары (прысвячаецца Алегу Юр'евічу Малаву) (2009 г.);

*Марыска на дзень нараджэння чалавека, які склаў цыкл "Дарога", Чацвёртую Пражскую санату і "На пастрыжэнне нямілай", адважнага барацьбіта за праўду і любімага педагога Барыса Іванавіча Тышчанкі з пажаданнем станцаваць на свой наступны юбілей марыску! для фартэпіяна (2009 г.);

* Канцэрт для 2-х скрыпак, віяланчэлі і аркестра (2009 г.);

* "Ронда" для аргана. (2009г);

* "80 секунд на юбілей І. Г. Кусонскай: самае кароткае віншаванне з пажаданнем самага доўгага жыцця" для фартэпіяна (2010);

* "Інга" для фартэпіяна прысвячаецца І.Н. Дэкцер (2010 г.);

* "Пяць вершаў М. Цвятаевай " для скрыпкі сола (2010 г. );

* "Рудая дзяўчынка шпацыруе рудым днём" для скрыпкі і фартэпіяна (2010 г.); "Рудая дзяўчынка шпацыруе рудым днём" версія для двух фартэпіянаў (2011 г.)





* "Breathe of an abandoned church on Swietojanka street Gdansk " для фартэпіяна (2011 г.);

*"Інга" для квінтэта духавых інструментаў (2012 г.);

* "Forsvabhavo", чатыры п'есы для фартэ-піяна (2012 г.);

* Музыка да спектакля "Здань кахання" па п'есе П. Кальдарона "Дама - невідзімка" (2013 г.);

* "Forsvabhavoagain", тры п'есы для фартэ-піяна (2013 г.) і іншыя.

У 2013 годзе Дзінара бярэ ўдзел у Міжнародных фэстах: "Ад авангарда да нашых дзён", "Пецярбургская музычная вясна", "Балтыйскія фартэпіянныя дуэты", "Зямля дзяцей".

У траўні 2013 г. Дзінара ўдзельнічае ў Міжнародным майстар-класе ў ЗША - ISB Convention Shank/s Sprigs.

Дзінара Мазітава - удзельніца праграм Санкт-Пецярбургскага Дома музыкі: канцэрту "Маладыя выканаўцы Расіі (7 снежня 2011г), майстар-класа Паўла Гілілава (14-15 верасня 2011 г.) і г.д. Яна салістка Федэральнай дзяржаўнай бюджэтнай установы культуры "Дом музыкі" Санкт-Пецярбурга. У рамках Федэральнай мэтавай праграмы "Культура Расіі" ў 2013 годзе як салістка Дома музыкі выступала з канцэртам у філармоніі Екацярынбурга - Канцэрт "NEXT", Дзінара Мазітава і Яўген Рыжкоў. Санкт-Пецярбургскі Дом музыкі знаёміць слухачоў з бліскучымі музыкамі, перспектыўнымі музычнымі спецыялістамі, прадстаўляе новых удзельнікаў "музычнай зборнай Расіі".

У траўні 2013 года адбылася прэм'ера Трайнога канцэрту для дзвюх скрыпак, віяланчэлі і аркестра ў дзвюх частках Д. Мазітавай на канцэрце-адкрыцці 49-га Міжнароднага фэсту "Пецярбургская музычная вясна" ў Вялікай зале Санкт-Пецярбургскай дзяржаўнай філармоніі імя Д. Шастаковіча, у выкананні сімфанічнага аркестра Санкт-Пецярбурга, дырыжор - В. Альтшулер, салісты - М. Круцік, В. Песін, Е. Грыгор'ева.

У 2013 г. Дзінара атрымлівае стыпендыю Міністэрствы культуры РФ.

У 2013 годзе Д. Мазітавай напісана музыка да спектакля "Здань кахання" па п'есе П. Кальдарона "Дама-невідзімка". Прэм'ера адбылася 1 лютага 2013 года ў Санкт-Пецярбургскім дзяржаўным музычна-драматычным тэатры "Буфф", Санкт-Пецярбург, рэжысёр - Г. Трасцянецкі. У 2013 годзе ўсе 18 спектакляў прайшлі пад жывое выкананне аўтарам сваёй музыкі на сцэне.

У 2013годзе Дзінара становіцца чальцом Саюза музычных дзеячаў Санкт-Пецярбурга (Рэгіянальная грамадская арганізацыя кампазітараў і музыказнаўцаў "МФ Санкт-Пецярбурга", пасада і прафесія - кампазітар).

У 2013 годзе яна зноў атрымлівае Прэмію айчынных кампазітараў Саюза кампазітараў Санкт-Пецярбурга.

Безумоўна, усе дасягненні Дзінары не маглі быць не заўважанымі музычным Санкт-Пецярбургам. Урадам Санкт-Пецярбурга (23 снежня 2013 года) на ўрачыстай цырымоніі ўручэння Моладзевай прэміі Санкт-Пецярбурга ў вобласці мастацкай творчасці "За дасягненні ў вобласці музычнай творчасці" прэмія ўручана Мазітавай Дзінары Рымаўне - кампазітару.



Сёння Дзінара поўная новых планаў, прапаноў, ідэй і творчых магчымасцяў для іх рэалізацыі, як кампазітар, выканавец і выкладчык.

***Святлана Лісі.***

## *101-ыя ўгодкі БНР*

# Пра Валеек з Галавічполя і газету "Свабода"

Думаю, нам трэба паступова напісаць пра ўсіх - вядомых і невядомых, знакамітых і незнакамітых людзей, якія з канца XIX ст. пачалі наша беларускае адраджэнне. Па меры магчымасці, па Лідчыне, я раблю гэтую справу. Зараз, займаючыся Лябёдкай Іваноўскіх, знайшоў цікавую інфармацыю пра іх суседзяў - Валеек, якія пакінулі свой добры след у беларускай гісторыі.

Прафесар Гданьскага ўніверсітэта Казімір Іваноўскі (сын адваката Станіслава і ўнук Леанарда Іваноўскіх з маёнтка Лябёдка Лідскага павета) пісаў пра сваю сям'ю: *"Сям'я наша была цікавай. Мой бацька Станіслаў меў трох братоў, і кожны з іх быў розлай нацыянальнасці. Самы старэйшы Ежы, інжынер, шмат разоў займаў міністэрскія пасады, быў сенатарам ІІ-й Рэчы Паспалітай і лічыў сябе палякам. Другі - Вацлаў, хімік, прафесар Варшаўскай політэхнікі, быў беларусам. Трэці - Тадэвуш, заолаг, прафесар Ковенскага ўніверсітэта быў летувісам. Такія сямейныя падзелы не былі рэдкасцю на тэрыторыі былога ВКЛ, і асаблівай адзнакай сям'і Іваноўскіх было не гэта, а тое, што мой дзядзька Тадэвуш меў у сваяках прыёмнага радавітага кітайца - такога больш ні ў кога не было"* [1].

Вацлаў Іваноўскі (1880-1943) быў не толькі прафесарам-хімікам, але і адным з заснавальнікаў Беларускага руху - яго заслугі перад Беларуссю агульнавядомыя.

На пачатку XX ст. Ежы, Вацлаў і Тадэвуш Іваноўскія вучыліся ў Пецярбургу. Усе браты знайшлі сабе сяброўскія колы для самарэалізацыі. Ежы стаў дзеячам польскага Кола народнай асветы і ППС (Польскай Партыі Сацыялістычнай) і нават прыняў удзел у вызваленні Юзафа Пілсудскага з Пецярбургскага турэмнага шпіталя. Тадэвуш знайшоў кантакт з летувіскімі дзеячамі і пачаў вучыць летувіскую мову, вывучыў ён яе дзесьці да 1905 г. І толькі Вацлаў не мог далучыцца да беларускай арганізацыі, бо гэткай проста не існавала, і менавіта яго заслугай стала стварэнне Беларускай Рэвалюцыйнай Партыі (БРП), што паклала пачатак развіццю беларускага нацыянальнага руху.

У 1902 г. БРП распачала выдавецкую дзейнасць. Мецэнатаў не было, таму Вацлаў Іваноўскі купіў гектограф на свой заробак са студэнцкай практыкі. Першай публікацыяй БРП, надрукаванай на гэтым гектографе, стала адозва "Да інтэлігенцыі", яна выйшла ўвосень 1902 г.

Наступнай ініцыятывай Вацлава Іваноўскага стала спроба нелегальна выдаць газету "Свабода". Да ліку самых блізкіх і давераных паплечнікаў Іваноўскага належаў пецярбургскі гімназіст Вінцэнт Валейка з суседняга для Іваноўскіх фальварка Галавічполе. Маладыя людзі заняліся выданнем першага нумара "Свабоды". Ручную матрыцу "Свабоды" на восем старонак падрыхтавалі Мілер (чалец ППС, зрабіў першую старонку) і Вінцэнт Валейка (зрабіў усе астатнія старонкі). Усё гэта яны перавезлі ў Лябёдку, дзе падчас калядных вакацый 1902 г. Вацлаў і Тадэвуш Іваноўскія, а таксама Вінцэнт Валейка з братамі Антонам і Станіславам надрукавалі газету на гектографе накладам 200 асобнікаў. На тытульным аркушы часопіса значылася: "Свабода, № 1, 1903 г.". Такім чынам, першая беларуская газета XX-га ст. была надрукавана на Лідчыне.

Газета мела нешчаслівы лёс - большая частка накладу "Свабоды" была знішчана і не дайшла да чытача. У студзені 1903 г., падчасператрусу ў варшаўскай кватэры Ежы Іваноўскага быў сканфіскаваны толькі адзін асобнік газеты, і таму гісторык Юры Туронак лічыць, што хутчэй за ўсё "Свабоду" прымусіў знішчыць бацька - Леанард Іваноўскі, які прыехаў у Лябёдку на свята Божага Нараджэння і ўтаймаваў рэвалюцыйныя парывы сыноў[2].

Якія матэрыялы друкаваліся ў газеце Свабода? Юры Туронак паказаў, што на 8-мі старонках вялікага (канцылярскага) фармату быў змешчаны адзін артыкул на палітычную тэму і другі аб асобнасці беларускага народа ў параўнанні з суседзямі. Змест артыкулаў невядомы. У нумары друкаваўся верш Алаізы Пашкевіч "Мужыцкая доля" і пераклад верша Сыракомлі "Добрыя весці", які пасля рэдактарскай перапрацоўкі атрымаў трошкі іншы змест[3].

У 1905 г. Вінцэнт Валейка разам з Вацлавам Іваноўскім быў адным з сямёх сяброў-закладчыкаў беларускай выдавецкай суполкі "Загляне сонца і ў наша аконца".

Таму, я думаю, Вінцэнт Валейка і Валейкі нагул, заслугоўваюць нашай памяці.

Ранейшым уладальнікам Галавічполя[4] быў стары Станіслаў Губарэвіч, ён меў сына і дзвюх дачок -

[1] Iwanowski Kazimir. Wspomnienia z kresowej mlodosci. Bydgoszcz, 1995. S. 6.

[2] Туронак Ю. Вацлаў Іваноўскі і адраджэнне Беларусі. С. 32-40.

[3] Туронак Юры. Мадэрная гісторыя Беларусі. Вільня, 2006. С. 19.

[4] Мясцовая легенда кажа, што назва Галавічполе паходзіла ад нейкага шведскага правадыра Галавіча, які быў тут забіты. Зразумела, што імя шведа было моцна аславянена. Але гэта толькі легенда.

Станіславу, якая стала трэцяй жонкай Станіслава Іваноўскага - дзеда Вацлава Іваноўскага, і Юстыну, якая выйшла замуж за Яна Якуба Валейку герба Корвін. Сын Станіслава Губарэвіча - Стэфан (1836 г. н.) падчас паўстання лічыўся паручнікам у адпачынку (з'яўляўся кадравым афіцэрам) і далучыўся да атрада Людвіка Нарбута пасля бітвы пад Кавалькамі. Ратуючы свайго камандзіра Людвіка Нарбута, ён загінуў пад Дубічамі.

Зоф'я Кавалеўская пісала: *""Спадарства, халаднакроўна адстрэльвацца і адсоўвацца назад", - скамандаваў Нарбут. "У рассыпную!" - дадаў яшчэ, але яго голас заглушыў гул бітвы. Раптам камандзір захістаўся ... і упаў. Андрыёлі і Пілецкі кінуліся яму на дапамогу, але атрымалі раненні і вымушаны былі ўступіць месца іншым, якія ўчатырох падхапілі Нарбута, каб вынесці яго з лініі агню ў больш небяспечнае места. Частка аддзела разбеглася па лесе, а тыя хто нёс камандзіра - Пакемпіновіч, Леан Краінскі, Аляксандр Бразоўскі і Стэфан Губарэвіч, упалі на зямлю мёртвымі ..."* [5].

Сімвалічна, што родныя пляменнікі героя паўстання 1863 г., разам з Вацлавам Іваноўскім надрукавалі першую у XX ст. беларускую газету. У гісторыі нічога і ніколі не вырастае на пустым месцы - каб з'явілася нешта па-сапраўднаму каштоўнае, патрэбна вялікая культурная традыцыя.

Фальварак Галавічполе падзялілі паміж сабой Іваноўскія і Валейкі.

У Юстыны і Яна Валейкі нарадзіліся тры сыны - Вінцэнт, Антон і Станіслаў.

Пра Яна Валейку пісаў брат Вацлава, летувіс Тадэвуш Іваноўскі: *"Пазычаючы грошы панам, яўрэі маглі калі-нікалі і ашукаць. Напрыклад, сусед Іваноўскіх Валейка на вексель атрымаў у пазыку ад аднаго з мясцовых яўрэяў немалую суму грошай. Калі надышоў час плаціць, яўрэй прадставіў дакумент, і Валейка заплаціў. Тады яўрэй прынёс яшчэ адзін вексель на гэткую ж суму. Наш сусед адмовіўся плаціць і атрымаў судовы працэс. У судзе стала вядома, што вексель і подпіс Валейкі сапраўдныя. Аказалася, што падробленым векселем быў першы, але Валейка гэтага не ўбачыў і заплаціў па ім"* [6].

Цікавую інфармацыю пра Валейкаў падае тагачасны ўладальнік суседняга маёнтка Ішчална Караль Лясковіч у мемуарах, якія захоўваюцца ва Уроцлаўскай бібліятэцы Асалінскіх: *"... у 1921 г. ... маёнтак Голдава з 1 500 - 2 000 га ўспадкаваў уладальнік маёнтка Табарышкі з Віленшчыны Юзаф Скарбак-Важынскі і тры браты Валейкі. У якіх суадносінах падзялілі маёнтак Скарбак-Важынскі і Валейкі, не памятаю. Мне толькі вядома, што Важынскі сваю частку атрымаў лесам і ніколі ў Голдаве не жыў. З братоў Валейкаў Голдава атрымаў Антон і таму мусіў пабудаваць тут жылы дом. Таксама ў Голдаве сваю долю атрымаў і Вінцэнт Валейка. Станіслаў успадкаваў фальварак Галавічполе ў Васілішскай гміне і лясы. Горны інжынер Вінцэнт меў дваіх дзяцей: сына Вітольда і дачку Ядвігу, наколькі я ведаю, яны абое зараз жывуць у Варшаве* (гэта ў 1971 г. - *Л. Л.*)" [7].

Дачка ўладальніка суседняга з Голдавам маёнтка Стрэліца Яніна Бурак успамінала: *"Уладальнікам Голдава быў Антон Валейка, арыштаваны бальшавікамі 2 лістапада 1939 г., а пад Боркамі гаспадарыў інжынер Вінцэнт Валейка, які выкладаў у Дамброве Горнай"* [8]. Трэба заўважыць, што ў тым месцы Лідчыны няма населенага пункта Боркі, таму, верагодна, Яніна Бурак мела на ўвазе нейкае ўрочышча каля Голдава.

Уладальнік Голдава, Антон Валейка ў міжваенны час быў чальцом управы павятовага Звязу землеўладальнікаў, узначальваў рэвізійную камісію Шчучынскага павятовага аддзела, быў чальцомм рады Лябёдскай гміны і кіраўніком рэвізійнай камісіі малочнага кааператыва ў Дзікушках. У 1939 г. яго арыштавалі і выслалі ўглыб Расіі. Далейшы лёс невядомы[9].

Пасля падзелу маёмасці паміж братамі ў Галавічполі гаспадарыў адзін з былых друкароў газеты "Свабода" Станіслаў Валейка. Гэты быў грузны, абсалютна лысы мужчына з поўным ротам залатых зубоў. Увесь час сядзеў на гаспадарцы, бо не давяраў эканомам, і ў яго ўсё выдатна атрымлівалася - своечасова плаціў падаткі. Станіслава Валейку добра характарызаваў яўрэй-кравец з Васілішак Абрам, які сябраваў з Іваноўскімі. Неяк яго запыталі, што новага чутно ў ваколіцы. Абрам падрабязна расказаў пра ўсе навіны і закончыў гэтак:

- А пан Валейка дапамагае іншым наракаць на цяжкі час.

Станіслаў Валейка нейкі час быў удаўцом, але потым ён паўторна ажаніўся. Яго другая жонка працавала настаўніцай дзесьці на Валыні і наведвала мужа толькі падчас вакацый. Была гэта энергічная жанчына з рубенсаўскімі формамі ва ўзросце каля сарака гадоў. Валейкі да канца 1930-х гг. заставаліся сябрамі Іваноўскіх. Пляменнік Вацлава Іваноўскага Казімір успамінаў такую гісторыю: *"... у нашай ваколіцы гаспадарыў далёкі кузен нашай мамы Фэлек Аскерка, былы капітан польскага войска. Меў ён вельмі маладую і прыгожую жонку - гэта была самая маладая з нашых цётак. Як заўсёды, 15 жніўня мы адзначалі імяніны нашай мамы, і, як заўсёды, з'язджаліся сваякі, суседзі і сябры. Мы ўжо сядзелі за традыцыйным*

---

[5] Zofja Kowalewska. Dzieje powstania lidzkiego: wspomnienie o Ludwiku Narbucie. Wilno, 1934. S. 49.
[6] Ivanauskas Tadas. As apsisprendziu. Wilno, 2010. P. 100.
[7] Karol Laskowicz: (Kresowy dwor i jego sasiedzi). Opracowanie na podstawie wspomnien. // Biblioteka Zakladu Narodowego im. Ossolinskich we Wroclawiu, sygn. 15480/II. S. 84.
[8] Lida i okolice we wspomnienach pani Janiny Burakowej // Ziemia Lidzka. 1994. № 13.
[9] Karol Laskowicz: (Kresowy dwor i jego sasiedzi). Opracowanie na podstawie wspomnien. S. 139.

*пірагом з капустай, калі пачулі, што адчыніліся дзверы і нехта з ганку ўвайшоў у хату. Шляхетны Лех* (старэйшы брат Казіміра - *Л. Л.*), *які ў гэты час вучыўся ў выпускным класе, вырашыўшы, што прыехала цёця Аскерка, кінуўся ў цёмны прадпакой, каб выказаць свае гарачыя пачуцці сваякам і ў цемры моцна ўзяўся за пацалункі. Калі ўнеслі святло, дык аказалася, што спазніліся Валейкі. Пан Станіслаў быў не ў захапленні ад гэткай сардэчнасці, але яго жонка не пратэставала"*.

Станіслаў Валейка меў дзяцей толькі ад першага шлюбу, былі гэта Вітак і Дзюня. Дзюня перад самай вайной выйшла замуж за маладога афіцэра з рэдкім прозвішчам Вайнікініс, потым ён загінуў на вайне. Вітак пасля заканчэння курса права Віленскага ўніверсітэта адбываў стажыроўку юрыстам. Жыў у Вільні, быў заўзятым філатэлістам і ўражваў сяброў сваімі калекцыямі[10].

Станіслаў Валейка быў чальцомм Васілішскай гміннай рады, у 1939 г. яго арыштавалі і вывезлі ўглыб Расіі. Далейшы лёс невядомы[11].

Пра Вінцэнта Валейку вядома няшмат. Нарадзіўся 23 студзеня 1883 г. у фальварку Галавічполе, у 1903 г. скончыў Трэцюю рэальную гімназію ў Пецярбургу, а потым стаў студэнтам сталічнага Горнага інстытута. Увосень 1910 г. пасля заканчэння Горнага інстытута выехаў з Пецярбурга і 15.11.1910 г. пачаў працаваць горным інжынерам у Шчарбінаўскай шахце на Данбасе. З 1921 г. жыў у Дамброве Горнай у Польшчы, спачатку працаваў у шахтах, вядома, што ў 1923 г. займаў пасаду галоўнага інжынера, а потым працаваў дырэктарам Дзяржаўнай горна-металургічнай школы імя Станіслава Сташыца.

Юры Туронак піша, што Вінцэнта Валейку ў траўні 1940 г. арыштавала гестапа і 18.10.1940 г. ён памёр у канцлагеры Заксенгаўзен. Але захаваліся ўспаміны вязня лагера Дахаў Францішка Шоты, які быў вучнем Валейкі і напісаў пра лёс свайго настаўніка: *"Трошкі ўспамінаў пра дырэктара інжынера Валейку. Як праз сон памятаю доўгія кашмарныя дні побыту ў гітлераўскіх лагерах смерці Дахаў і Араніенбург у адным бараку з інжынерам Валейкам, апошнім дырэктарам горна-металургічнай школы. Лагерны досвед - цяжкі жыццёвы груз, не магу пазбыцца яго і сёння. Лагер вяртаецца ў фантомных снах, чакае над ложкам у выглядзе пакутлівых і жахлівых прывідаў. Калі я ўзгадваю тыя гады, дык у думках вяртаецца да мяне вобраз майго лагернага калегі інжынера Валейкі, які прайшоў тут праз пякельныя пакуты. Ён быў ужо стары, але гітлераўцы адчулі ў ім высокую душу, і ўсё самае дрэннае яго не абмінула. Біты і абшуканы пры кожнай магчымасці (а гэткіх хапала), працаваў на самых цяжкіх працах, але духоўна не зламаўся і заахвочваў жыць іншых. Быў сябрам усіх вязняў без розніцы ўзросту, нацыянальнасці і расы, хто ж яго не ведаў? Яго сэрца было адчынена для ўсіх, і вязні цягнуліся да яго па добрую параду, апеку і дапамогу, па яго аптымізм і веру ў блізкую волю. Няма яго паміж намі. Спрацаваны, збіты і хворы, ён упаў на пляцы падчас шасцігадзіннага стаяння без руху - гэтак пакаралі ўвесь лагер з-за спробы аднаго з вязняў збегчы. Здранцвелага ад холаду, яго прынеслі ў лазарэт, адкуль ужо не вярнуўся. Ніколі не забуду яго слоў, якія мне сказаў, калі яго адносілі санітары: "Я ўжо сыходжу, і смерць для мяне не будзе страшнай, але сэрца сціскае боль, што маё цела застанецца на варожай зямлі"* [12].




***Вінцэнт Валейка***

Сябар і сусед Вацлава Іваноўскага Вінцэнт Валейка быў закатаваны ў нацысцкіх лагерах Дахаў ці Араніенбург.

Антон Валейка і Станіслаў Валейка былі арыштаваны НКВД, вывезены ў Расію, дзе і прапалі.

Такі лёс братоў Валейкаў, якія стаялі разам з многімі іншымі лідзянамі ля вытокаў беларускага нацыянальнага адраджэння. Два згінулі ў засценках НКВД, трэці - у нацысцкім канцлагеры.

***Леанід Лаўрэш.***

[10] Iwanowski Kazimir. Wspomnienia z kresowej mlodosci. S. 6.

[11] Karol Laskowicz: (Kresowy dwor i jego sasiedzi). Opracowanie na podstawie wspomnien. S. 138.

[12] Szota Franciszek. O dyrektorze inz. Wincentym Wollejko // XI Zjazd absolwentow Dabrowskiej sztygarki im. Stanislawa Staszica i 200 lat najstarszej szkoly gorniczej w Polsce. Dabrowa, 2016. S. 22.

# Іван Дрозд - грамадскі дзеяч і навуковец

Іван Міхайлавіч Дрозд нарадзіўся ў 1895 г.[1] у сялянскай сям'і ў вёсцы Прэціма Арлянскай воласці Лідскага павета. З перапісу грэка-каталікоў Арлянскай царквы, вядома, што ў 1829 г. у вёсцы Прэціма жыве тры сям'і Драздоў[2].

Верагодна, як вялікая колькасць беларускіх дзеячоў, Іван Дрозд закончыў настаўніцкую семінарыю. Дакладна вядома, што ў часы Першай сусветнай вайны служыў афіцэрам[3].

У 1920 г. Беларускі нацыянальны камітэт ў Вільні накіраваў Івана Дразда для арганізацыі беларускіх школ у родную Орлю[4]. Пра вынікі яго працы кажа тое, што ў канцы 1920 - пачатку 1921 г. беларускія школы працавалі ў наступных вёсках Арлянскай гміны - Маскалях, Зачэпічах, Дзям'янаўцах, Орлі і Ліпічне[5].

У 1921 г. польскія ўлады пачалі ліквідоўваць беларускія школы на Лідчыне. У красавіку гэтага года інспектар адукацыі Лідскага павета Вус, давёў беларускім настаўнікам, што беларускіх школ у будучым 1922 г. не будзе, *"усе зачыніць, а настаўніц і настаўнікаў ён церпіць толькі часова, думаючы, што з іх выйдуць добрыя настаўнікі польскіх школ, а не беларускіх"* [6]. Справы інспектара Вуса не разыходзілася з ягонымі словамі. Увосень 1921 г. былі зачынены беларускія школы ў вёсцы Сарокі Арлянскай воласці, *"дзе жывуць выключна беларусы, а замест яе лідскі школьны інспектар п. Вус стараецца адчыніць польскую"* [7], з гэтай інфармацыі бачна, што Дрозд паспеў адкрыць беларускую школу і ў Сароках.

Іван Дрозд меў вялікі аўтарытэт сярод сваіх землякоў. Беларуская прэса паведаміла, што ўвосень 1921 г. валасная рада Арлянскай гміны Лідскага павета выбрала войтам гэтай *"воласці свядомага селяніна-беларуса з вёскі Прэціма, настаўніка Янку Дразда, але стараста павета не зацвердзіў яго на пасадзе"* [8].

Трэба сказаць, што ў тыя часы беларускія партызаны вялі сапраўдную вайну супраць польскіх уладаў, і якраз вясной 1922 г. яны перайшлі да актыўных баявых дзеянняў. Як заўжды ад ваеннага стану цярпела мірнае насельніцтва: *"Звяртаем увагу паслоў дэмакратычных партый у польскім Сейме. З в. Воля Арлянскае ... воласці палякамі забраны гр. Мікалай Павачка, якога хацелі застрэліць толькі за тое, што ён казаў, што без валасных прыказаў жаўнеры ня маюць права браць падводы адзіночнымі асобамі. Калі гр. Павачка ўказаў, што ў дэмакратычнай дзяржаве так нябывае, як яны робяць, то яго забралі як контррэвалюцыянера і адаслалі чамута ня ў Ліду, а ў Слонім, а з Слоніма пашлюць у Варшаву ці Кракаў. Дзеля таго, каб узяць на парукі, патрабуе польская ўлада залогу 60 000 марак"*[9].

Якраз у 1922 г. Іван Дрозд быў абвінавачаны ў падбухторванні сялян і арыштаваны, але настаўнік аказаўся сапраўдным зухам і ўцёк з Арлянскага паліцэйскага пастарунка ў Літву[10]. Праваслаўны святар Арлянскай царквы а. Васіль Харлап казаў, што Іван Дрозд меў кантакты з беларускім урадам Вацлава Ластоўскага ў Коўні[11]. З Коўні настаўнік перабраўся ў Менск і напісаў свайму сябру, фельчару ў Орлі і беларускаму актывісту Аляксандру Бучу, што ў Менску ён *"вучыцца ў інстытуце"* [12].

У БССР атрымаў вышэйшую адукацыю. У 1930 г. уступіў у ВКП(б). Быў жанаты. Арыштаваны 04.11.1935 г. у Горках. Падчас арышту працаваў дацэнтам кафедры палітэканоміі Горацкага сельскагаспадарчага інстытута. 27.03.1936 г. асуджаны асобай нарадай пры НКВД за *"антысавецкую агітацыю і шпіянаж"* да 3 гадоў ссылкі ў Казахстан. У канцы 1930-х г. прыгавораны да 10 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапаваны ў Волжскі канцлагер Яраслаўскай вобласці. Далейшы лёс невядомы.

У камеры менскай турмы Іван Дрозд сядзеў у адной камеры з заходнебеларускім паслом у Сойм Ігнатам Дварчаніным. Былы беларускі пасол, якога прывезлі з паўночных лагераў па нейкай справе, паведаміў *"жудасную гісторыю, як рыхтавалі іх да самапаклёпніцтва, пераконвалі, што гэта патрэбна і карысна партыі, што партыя павінна належным чынам ацаніць іх учынак. Яны перасварыліся паміж сабой... Адмовіліся размаўляць са следчым па гэтым пытанні. Прыйшоў прадстаўнік ЦК і аб'явіў, што гэта воля партыі"*, - пісаў Дрозд[13].

Іван Міхайлавіч Дрозд быў рэабілітаваны прэзідыумам Магілёўскага абласнога суда 02.02.1957 г. Асабовая справа Д. № 2411-сн захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобласці[14].

***Леанід Лаўрэш.***

[1] Маракоў Леанід. Рэпрэсаваныя літаратары, навукоўцы, работнікі асветы, грамадскія і культурныя дзеячы Беларусі. 1794-1991. Мінск, 2004. Т. 3. Кн. 1. С. 368.

[2] ДГАЛ. Ф. 634. Воп. 1. Сп. 10. Спіс парафіян Лідскага дэканату 1829 г. А. 349-367.

[3] ДАГВ. Ф. 200. Воп. 2. Спр. 21. А. 53 адв.

[4] Там жа.

[5] Ляхоўскі Уладзімір. Беларуская справа падчас польскай акупацыі 1919 - 1920 гг. // Спадчына. 1994. № 6. С. 67.

[6] Наша Думка, № 21, 27 траўня 1921.

[7] Беларускія Ведамасьці №9, 7 лістапада 1921.

[8] Там жа.

[9] Наша Думка, № 21, 27 траўня 1921.

[10] ДАГВ. Ф. 200. Воп. 2. Спр. 21. А. 343.

[11] Там жа. А. 53 адв.

[12] Там жа. А. 4.

[13] Савіч А. А. Эпісталярная спадчына М.С. Арэхвы як крыніца па гістарыяграфіі Заходняй Беларусі // Весці НАН Беларусі. Сер. гуманітар. навук. 2014. № 1. С. 61.

[14] Маракоў Леанід. Рэпрэсаваныя літаратары, навукоўцы, работнікі асветы, грамадскія і культурныя дзеячы Беларусі. 1794-1991. Мінск, 2004. Т. 3. Кн. 1. С. 368.

*Леанід Лаўрэш*

# "Невядомая вайна" XVI ст. на Лідчыне і вакол яе

*"Што ведала яна [Смерць] аб яго народзе, які жыў насупор і не так і ўзрошчваў шыпы на сваіх карэннях, а не на сцяблінах".*
***У. Караткевіч.***

360 гадоў таму на нашай зямлі бушавала, магчыма, самая спусташальная і крывавая вайна ў беларускай гісторыі - вайна паміж Рэччу Паспалітай і Расіяй, якая пачалася ў траўні 1654 г. і закончылася Андрусаўскім мірам у 1667 г.

Я ні ў якім разе не маю за мэту апісваць усю тую вайну - гэтаму трэба было б прысвяціць жыццё, я толькі вырашыў сабраць ўсё вядомае мне на сёння пра падзеі той вайны на Лідчыне.

Вайна пачалася з вялікіх цяжкасцяў і паразаў. Праціўнік меў шматразовую перавагу ў колькасці жаўнераў і пачаў наступ трыма арміямі: паўночна-заходняй (з раёна Вялікіх Лук), цэнтральнай (базавалася ў Маскве) і паўднёва-заходняй (з раёна Бранска). Да таго ж, на дапамогу царскім войскам Багдан Хмяльніцкі выслаў 20 тысяч казакоў на чале з Іванам Залатарэнкам. Агульная колькасць расійскіх войскаў складала каля 80 - 100 тысяч жаўнераў. Вялікае Княства Літоўскае ў адказ магло выставіць толькі 10 - 12 тысяч жаўнераў на чале з гетманам Янушам Радзівілам.

29 ліпеня 1654 г. царскія войскі захапілі Полацк, 25 чэрвеня ўзялі ў аблогу Смаленск і пасля штурму 29 верасня ўзялі яго. Дарэчы, некаторыя сучаснікі тых падзей лічылі найбольш вінаватым у здачы Смаленска аднаго з кіраўнікоў абароны горада - лідскага падчашага і смаленскага гарадскога суддзю Альбрэхта Галімонта.

Працытую словы архідыякана Паўла Алепскага (Антыяхійская Праваслаўная Царква) пра ўзяцце Смаленска, які ў той час вандраваў па нашых мясцінах і пакінуў кнігу цікавых успамінаў: *"Пасля прыезду да Смаленска, войскі гасудара на працягу тыдня ... ужывалі ўсе сродкі супраць умацаванага горада. ... нарэшце прабіта сцяна, і войска рыхтавалася да штурму, як знянацку камендант здаў горад. Пасля ўзяцця Смаленска ў ім знайшлі шмат яўрэяў. Іх усіх - з-за таго што не ўмелі хрысціцца - пазналі, і ўсіх, па загаду цара сабралі ў асобнае месца ... тых, якія хрысціліся, пакінулі жывымі, а тых, хто адмовіўся, пасадзілі ў драўляныя зрубы і спалілі. Усе касцёлы былі разбураны ... Такім чынам Бог дараваў гасудару сваю міласць. Смаленск быў узяты ... і царскія войскі потым узялі больш за 94 гарады і замкі ... прычым пры гэтым паўсюдна забілі Бог ведае колькі яўрэяў, арыян, католікаў, кідаючы іх дзяцей ў бочках у Днепр - без усялякага жалю і спачування. Усіх мужчын яны пасеклі на кавалкі ... а жанчын і дзяцей уводзілі ў рабства. Гэтак раней казачна багатая краіна, якая магла паспрачацца з лепшымі абласцямі Грэцыі, зараз сталася пустыняй і грудай руінаў, дзе не сустрэнеш ні вёскі, ні жыхара на працягу пятнаццаці дзён дарогі уздоўж і папярок. Нам сказалі, што больш за 100 000 чалавек зведзена ў палон, так што 7 ці 8 хлопчыкаў прадаваліся за дынарый ці нават менш. У гарадах, які здаліся добраахвотна, пакінулі толькі тых, хто прыняў праваслаўную веру ... гарады, якія былі ўзяты зброяй, цалкам спустошаны і разрабаваны, а хаты і ўмацаванні зраўняны з зямлёй"* [1].

Адзін за другім браліся і знішчаліся старажытныя беларускія гарады: Друя, Дзісна, Дуброўна, Віцебск і іншыя. З-за здрады без бою здаўся Магілёў.

Але са жніўня 1654 г., на працягу 11 месяцаў, у глыбокім тыле ворага мужна вытрымліваў аблогу і штурмы Стары Быхаў. Горад баранілі мясцовая шляхта, 18 харугваў гараджан, сяляне Быхаўскага графства, 1000 чалавек наёмнай пяхоты, асобнае фарміраванне з 1000 яўрэяў - яны ведалі, што чакае іх і іхнія сем'і, калі горад будзе ўзяты, і вырашылі, што лепей, як і належыць мужчынам, памерці ў бітве.

Толькі ў верасні 1654 г. гетман Януш Радзівіл сабраў войска і пачаў дзейнічаць. Але нашага войска мелася толькі 6 тысяч чалавек. Тым не менш у студзені 1655 г. войскі ВКЛ дэблакіравалі Стары Быхаў (у траўні 1655 г. нашы былі прымушаны адыйсці і горад зноў трапіў у аблогу. Гэты горды горад так і не здаўся - на пачатку 1656 г. аблога была спынена ў сувязі з Віленскім перамір'ем 1656 г., бо цар чакаў, калі яго абяруць каралём на трон Рэчы Паспалітай). Далей, у лютым 1655 г. нашы войскі часткова вызвалілі Магілёў. Аднак з поўначы ўдарылі казакі і захапілі Бабруйск і Глуск. Адначасова пачаўся франтальны наступ з усходу, і войска ВКЛ пачало адступленне.

19 красавіка 1654 г. лідскі соймік ухваліў фармаванне дзвюх павятовых харугваў казацкага строю. Для гэтага было вырашана выплаціць лідскаму падкамораму Кунцэвічу па 9 злотых з дыма, менавіта Кунцэвіч фармаваў лідскія харугвы[2].

3 ліпеня царскія войскі захапілі Менск - шлях на Вільню быў адкрыты. Абараніць сталіцу было немагчыма, а дапамогі з Польшчы можна было не чакаць

[1] Аболенский Иван. Московское государство при царе Алексее Михайловиче и Патриархе Никоне, по запискам архидьякона Павла Алеппского. Киев, 1876. С. 148-149.

[2] Plosinski Jacek. Wyprawa kniazia Semena Urusowa na Brzesc (listopad - grudzien 1655 г.) // Mazowieckie Studia Humanistyczne. Lowicz, 2003. R. IX. № 1-2. S. 14.



***Знішчэнне Вільні***

*лаўках і рынках Масквы, і мы былі здзіўлены і ўражаны, калі бачылі срэбныя талеркі, срэбныя замкі і цвікі .. і срэбныя пласціны на карэтах. Цана рускіх грошай упала ... з-за колькасці іх у абароце. ... Што ж датычыць чырвонай і жоўтай медзі, званоў, знятых з храмаў дык яны былі ў продажы на рынках Масквы круглы год. Тут прадаваліся разныя гадзіннікі, кубкі, упрыгожаныя камянямі ружжы і інш. Палонных было больш за ўсялякі попыт на іх. Акрамя таго цар зняў і перавёз у Маскву сем купалаў з палаца Радзівіла, якія былі пакрыты золатам, мноства калон чырвонага і іншых колераў мармуру, мноства падлог і абедзенных сталоў, якіх у Маскве раней не бачылі"* [3].

Шэсць гадоў старажытная сталіца Вялікага Княства Літоўскага знаходзілася ў руках акупантаў, пакуль у 1661 г. войскі гетмана Міхала Паца не выбілі іх з Вільні. Была цалкам знішчана Віленская акадэмія - наш першы ўніверсітэт. Выкладчыкі збеглі ў Кёнігсберг ці яшчэ далей. У 1661 г. была зробленая спроба аднавіць дзейнасць Віленскай акадэміі, але адрадзілася яна толькі пасля 1674 г.

Пасля захопу Вільні, пратэстант Януш Радзівіл шукаючы паратунку, падпісаў з пратэстанцкай Швецыяй Кейданскую ўнію, па якой Вялікае Княства Літоўскае пераходзіла пад пратэктарат Швецыі. Гэтую унію не падтрымала каталіцкая частка шляхты, але гэтая унія дала два гады, каб назбіраць войска.

- ужо ў сакавіку 1655 г. супраць яе пачала вайну Швецыя. Перад здачай Вільні да Януша Радзівіла далучылася паспалітае рушанне, ад Лідскага павета прыйшлі дзве конныя харугвы - па сто вершнікаў у кожнай.

Расійскае войска ўступіла ў Вільню 8 жніўня 1655 г. Горад быў захоплены войскамі князя Чаркаскага і казакамі гетмана Залатарэнкі. Расправы над мірнымі жыхарамі ўражвалі відавочцаў сваім фантастычным дзікунствам. Падпаленая Вільня гарэла 17 дзён. Пад шаблямі акупантаў і ў агні загінулі ад 10 да 25 тысяч месцічаў.

Той самы праваслаўны архідыякан Павел Алепскі, які знаходзіўся ў расійскім войску пісаў: *"Пасля ўзяцця горада* (Вільні - *Л.Л.*) *... было зроблена вялікае збіццё і рабунак. Усе багацці - золата, срэбра, каштоўныя камяні, розныя запасы і розныя каштоўныя рэчы - усё гэта было падвергнутае неапісальнаму рабаванню. Горад жа гэты быў вельмі багаты, бо са старажытных часоў у яго не ўступала нага ворага. Усе багацці на нашых вачах потым прадаваліся ў*

Такім чынам вораг быў ужо недалёка ад Ліды. Як развіваліся падзеі далей?

Улетку 1655 г. рускія войскі з краёў акружылі незанятую яшчэ тэрыторыю Беларусі, дзе працягвалі сваю працу мясцовая ўлада і войска. Тэрыторыя на захад і поўдзень ад Вільні на пачатку жніўня яшчэ не была акупавана. На гэтую тэрыторыю была накіравана казацкае войска Івана Залатарэнкі - на пачатку ён пайшоў на захад ад Вільні, да Нёмана[4]. 18 жніўня Залатарэнка пісаў цару з-пад Трокаў: *"Па ўказу вашай царскай вялікасці ... пайшлі мы з-пад Вільні з войскам ... да Нёмана супраць ворагаў ... вашай царскай вялікасці, брата майго Васіля Нікіфаравіча, палкоўніка ..., паслаў з некалькімі тысячамі людзей за Нёман ... непрыяцельскага войска за Нёманам многа"* [5].

У адказ цар загадаў *"літоўскага войска за*

[3] Аболенский Иван. Московское государство при царе Алексее Михайловиче и Патриархе Никоне, по запискам архидьякона Павла Алеппского. С. 164.

[4] Мальцев А. Н. Россия и Белоруссия в середине XVII века. Москва, 1974. С. 98.

[5] Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России. Т.14. С. 787-788.

*Нёманам шмат ... ты гетман наш з войскам хутка ідзеш і промысел над літоўскімі людзьмі ўчыніш, наколькі міласэрны Бог дапаможа. Вам неабходна ісці за Нёман з табарам, вы пойдзеце ... і загоны ў розныя бакі будзеце дасылаць ... Табе [неабходна] ... ісці за Нёман к Берасцю і там прамышляць, колькі міласэрны Бог дапамогі падасць"* [6].

Хутка цар другі раз загадвае Залатарэнку ісці ў раён Берасця і дзейнічаць там разам з войскамі А. М. Трубяцкога[7]. Залатарэнка адказаў, што ён ужо дзейнічае *"па абодва бакі ракі Нёман"* і не пакіне Прынёманне, покуль цалкам не вынішчыць і не абрабуе Мерач, Алькенікі, Аліту, Радунь, Эйшышкі, Ліду, Іўе, Ліпнішкі, Любчу і г. д.[8]

Ліда, яе наваколлі былі спустошаны, але больш-менш падрабязная інфармацыя пра гэта да нашага часу не з'явілася ў навуковым абароце. Знайсці можна толькі асобныя дробкі. Напрыклад, вось што можна даведацца з дакументаў Маламажэйкаўскай (Мураванкаўскай) царквы пра тое, што рабілася вакол яе. Расейскае войска з'явіліся ў ваколіцах Мажэйкава пасля захопу Вільні, і пра вялікую небяспеку параха[9] Варатынскага папярэдзіў манах-базыльянін Раман Рожыц, які сам уцякаў з разрабаванай і спаленай сталіцы ў Быценьскі манастыр, а потым - у Пінск, дзе раней служыў парахам. Базыльянін па дарозе заехаў у Маламажэйкаўскую плябанію і распавёў аб падзеях у краі. Ён раіў хаваць самую каштоўную царкоўную маёмасць у базыльянскіх манастырах. Не вядома, ці паслухаў Варатынскі манаха, але наступствам рабункаў казакамі стала поўнае згаленне царквы. Засталіся толькі некаторыя святарскія рызы ўніяцкага ўзору, тры срэбныя грубапазалочаныя чашы з прыборамі (па сведчанні дзячка Філона Варатынскага, адна з гэтых чаш была закладзена Фядосіем Варатынскім нейкаму Гладавіцкаму, бо святар меў патрэбу ў грашах, каб выплаціць падаткі для вядзення вайны ў памеры 10 коп літоўскіх грошаў), срэбны пазалочаны крыж і вельмі старажытнае рукапіснае Евангелле ў багатай вокладцы з пяццю срэбнымі абразкамі па краях. Дзячок пісаў, што іншыя набажэнскія кнігі, раскіданыя па полі, ён падабраў непадалёку ад царквы пасля ад'езду казакоў, але яны ўсе былі сапсаваныя, напрыклад, Апостал не меў пачатку і канца, знайшліся толькі чатыры кнігі Міней і г.д. А пасля паразы войска ВКЛ пад Слонімам у 1656 г. быў спалены будынак плябаніі, а святар Фёдар (ці Фядосі) Варатынскі закатаваны *"от людей царя Московского"* [10] .

У інвентары Зблянскай царквы ад 1671 г. запісана, што царкоўныя дакументы *"падчас інвазіі вераломнага непрыяцеля маскоўскага, забраны пры розных яго фартунах"* [11]. Таксама падчас "маскоўшчыны" загінуў каралеўскі фундуш цэркваў у Лідзе, аб чым пасля вайны зроблены запіс у кнігах Лідскага гродскага суда[12]. Фундушы Турэйскай царквы былі *"да Масквы забраны"* [13] і г. д.

У канцы 1655 г. ковенскі земскі суддзя Стэфан Мядэкша праехаў па беларускім Панямонні і запісаў, што тут скрозь *"трупаў па дарогах поўна, вёскі, мястэчкі, сядзібы папаленыя, бедную хатку цяжка пабачыць цэлай"* [14].

У заяве землеўладальніка Лідскага павета Яна Лісоўскага пра крыўды ад палкоўніка маскоўкіх войск Льва Сыціна, які сілай завалодаў яго жонкай Кацярынай, сярод іншага, пра ваколіцы Ліды: *"... не толькі ў Вільні, але ва ўсіх паветах і ваяводствах Віленскім, Троцкім, паветах Ашмянскім і Лідскім людзі павыцінаны, і ў нішто агнём (усё) зруйнавана, такі меўся царскі вырак ..."* [15].

У верасні 1655 г. казакі зруйнавалі Навагрудак, Нясвіж, Мір, Карэлічы, Стоўбцы і інш., сам жа Іван Залатарэнка не спяшаўся рухацца на поўдзень і знаходзіўся ў Свіслачы[16].

Яшчэ са жніўня войскі Трубяцкога ішлі з-пад Старога Быхава ў напрамку Слуцк - Берасце, і менавіта на аб'яднанне з імі павінен быў спяшацца Залатарэнка. 23 жніўня Трубяцкі пасля сутычкі з нейкім малым воінскім аддзелам каля Слуцка падышоў да горада. Камандзір слуцкага гарнізона Ф. Петарсан і магістрат адмовіліся здаць горад, і Трубяцкі, каб не траціць час, пайшоў далей, да яшчэ неразрабаванага Слоніма[17].

Я як ужо пісаў вышэй, покуль невядомы дакументы, якія б апісвалі падзеі вакол Ліды, але даўно ўжо надрукаваны ліст Трубяцкога да цара, з якога мы даведваемся пра "подзвігі" гэтага ваяводы вакол Слоніма непасрэдна ад яго самаго, цытую фрагменты даклада князя Аляксея Трубяцкога цару: *"26 жніўня пайшлі мы з-пад Слуцка к Слоніму. Ідучы дарогай, вёскі і мястэчкі, хлеб і сена, і ўсялякі конскі корм па абодва бакі мы палілі, а людзей забівалі і бралі ў палон, і ўсё цалкам, без астатку, руйнавалі, і ў розныя бакі паліць і руйнаваць пасылалі. ... у горадзе Мыш, літоўскіх людзей, якіх там засталі, пабілі і многіх ў палон ўзялі, і гарадок Мыш выпалілі і цалкам зруйнавалі. ... А ідучы да гарадка Мыш, мой таварыш, баярын і ваявода,*

[6] Там жа. С. 789-790.
[7] Там жа. С. 797-798.
[8] Мальцев А. Н. Россия и Белоруссия в середине XVII века. Москва, 1974. С. 98.
[9] Парах - у грэка-католікаў настаяцель храма.
[10] Лаўрэш Л. Л. Маламажэйкаўская царква: гістарычны нарыс. Гродна, 2017. С. 32-33.
[11] НГАБ ф. 694, Воп. 5, Спр. 140. Зблянская царква. Інвентар 1671 г. Арк. 97.
[12] Архіў Жыровіцкай семінарыі. Архіў Лідскага благачыння. Ф. 1. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 117.
[13] ДГАЛ. Ф. 634. Воп. 1. Спр. 53. Арк. 119.; НГАБ. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 41244. Арк. 10.
[14] Сагановіч Генадзь. Невядомая вайна: 1654-1667. Мінск, 1995. С. 70.
[15] АВАК. Т. XXXIV. Вильна, 1909. С. 388.
[16] Мальцев А. Н. Россия и Белоруссия в середине XVII века. С. 98.
[17] Там жа. С. 99.



***Карціна Пітара Брэйгеля Старэйшага. Трыумф смерці***

*князь Юры Аляксеевіч Даўгарукі і акольнічы Сямён Арцем'евіч з тваімі ратнымі людзьмі заходзіў у горад Ляхавічы і пасады і слабоды каля гэтага горада папалілі і, якіх літоўскіх людзей засталі, ... тых пабілі і ў палон узялі. ... заходзілі да гарадка Сталовічы і літоўскіх людзей, якіх засталі, забілі і ў палон ўзялі і гарадок Сталовічы выцялі і выпалілі і цалкам зруйнавалі. Палонных тут узялі літоўскіх людзей і шляхты 32 чалавекі, лепшых пакінуў а астатніх загадаў забіць. ... Па тваім царскім указе я загадаў ісці вайной ад Клецка да Слоніма па месцах, дзе не было вайны, і загадаў ім тыя месцы ваяваць і людзей забіваць і ў палон браць і вёскі, мястэчкі, хлеб, сена і розны конскі корм паліць і цалкам руйнаваць. ... І па тваім царскім указе мае таварышы з тваімі ратнымі людзьмі, ідучы да Слоніма, мястэчка Мір .... гарады, мястэчкі, і вёскі ... выпалілі, а людзей забілі і ў палон узялі і цалкам зруйнавалі. А калі прыйшлі да Слоніма, літоўскіх людзей, якіх тут засталі - выцялі, горад Слонім са слабадой і Жыровіцкі кляштар ... і слабаду каля яго і іншыя ўніяцкія кляштары і цэрквы выпалілі, людзей забілі і ў палон ўзялі. ... і вакол Слоніма на 20 вёрст усё выпалілі і зруйнавалі. ... І назад, ад Слоніма ішлі дарогамі, дзе не было вайны, і тыя месцы ваявалі і палілі, людзей забівалі і ў палон бралі і цалкам руйнавалі"*. Царская рэзалюцыя на дакуменце: *"22 верасня 1655 г. Ад гасудара, цара і вялікага князя Аляксея Міхайлавіча, усёй вялікай і малой і белай Расіі самаўладцы, баярам нашым і ваяводам, князю Аляксею Мікітавічу Трубяцкому з таварышамі. 20 верасня вы пісалі нам, што Божай міласцю і дапамогай Прачыстай Багародзіцы і малітвамі ўсіх святых ... пад Слуцкам і ў іншых месцах шмат літоўскіх людзей пабілі і ў палон узялі ... гарады і вёскі выпалілі а людзей забілі і цалкам зруйнавалі. І мы, вялікі гасудар, вас, баяр і ваявод нашых ... за службу ўзнагароджваем і хвалім ..."* [18].

Гэта толькі фрагменты з аднаго са зборнікаў дакументаў, які я цытую ў гэтым артыкуле. Зборнік быў надрукаваны ў XIX ст., але лёгка знаходзіцца ў інтэрнэце і з'яўляецца для аматараў гісторыі вельмі цікавай кнігай. Адзначу, што зборнікі дакументаў, якія друкаваліся ў Расійскай імперыі, рабіліся з мэтай, як сказалі бы сёння, "піяру" сваёй гісторыі і павінны былі паказваць цывілізацыйную ролю імперыі. Таму туды адбіраліся самыя "мірныя" дакументы. Але ўсяроўна ў выдаўцоў гэтага тома атрымалася "кніга жахаў", і таму, калі чытаеш тыя дакументы і памятаеш, што забівалі не чыіх-небудзь, а менавіта тваіх продкаў, становіцца млосна.

У ліпені 1655 г. цар Аляксей Цішайшы забараніў князю Якаву Чаркаскаму "зашмат" забіваць людзей і паліць населеныя пункты[19]. Што такое "за-

[18] Акты Московского государства. 1635 - 1659. Т. 2. Санкт-Петербург, 1894. С. 437-439.
[20] Там жа. С. 420.

шмат" растлумачана не было.

У верасні з нагоды таго, што цар сам сабе прысвоіў тытул *"Вялікі князі Літоўскі і Белай Расіі, Валынскі і Падольскі"* [20] ён на адзін дзень, 3 верасня, забараніў браць у палон і забіваць беларусаў[21].

5 верасня 1655 г. "цішайшы" цар загадвае ваяводзе Пятру Чаркаскаму *"людзей па гэты бок Нёмана не забіваць і ў палон не браць"* [22], *"на той бок"* (на поўдзень ад Нёмана) гуманізм цара не распаўсюджваўся. 14 верасня ён зноў забараняе князю Якаву Чаркаскаму забіваць і паліць[23].

Прайшоў год, і ў жніўні 1656 г. цар робіць чарговую вымову князю Чаркаскаму за празмерную жорсткасць: *"Вашага палку ратныя людзі дарогай вёскі і мястэчкі паляць і людзей забіваюць ад гэтага спусташэння ўсё сталася пуста, і нашым ратным людзям на восені ... хлеб спячы не будзе дзе"* [24]. Цар зноў забараняе паліць і забіваць. Яго надзвычайны "гуманізм" тлумачыцца тым, што, як бачым, чыжынцам ужо не стала чаго есці.

Сама вялікая колькасць забаронаў забіваць мірных жыхароў, красамоўна кажа пра тое, як выконваліся гэтыя загады.

У адказ, у Беларусі, распачаўся пажар партызанскай вайны супраць акупантаў. Толькі нашы продкі-партызаны тады называліся словам "шышы", а не французскім словам "партызан". Шышы - назва людзей, якія ваявалі супраць царскіх войскаў, у афіцыйных дакументах Маскоўскай дзяржавы існуе з сярэдзіны XVII ст. Тэрмін з'явіўся ў крыніцах аб паўстанні ў Пскоўскім павеце 1650 г.

У час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654-1667 гг. адразу пасля ўступлення царскай арміі на тэрыторыю ВКЛ разгарнуўся шырокі народных рух самаабароны. Шышы - у асноўным беларускія сяляне, іх атрады звычайна налічвалі каля 300-500 чалавек, а камандавалі атрадам звычайна шляхціцы, якія прафесійна ведалі ваенную справу. Ад пачатку вайны шышы актыўна непакоілі маскоўскіх заваёўнікаў, напрыклад, у ліпені 1654 г. 3-тысячны атрад партызан з вёскі Каленікі напаў на войска ваяводы Трубяцкога каля Мсціслава і нанёс яму сур'ёзную шкоду[25].

Прызначаны царом "віленскі ваявода" Міхал Шахоўскі пісаў у кастрычніку 1655 г. цару: *"... паслаў я табе, гасудару, з запіскамі луцкіх казакаў ... 13 (кастрычніка) гэтыя казакі ... вярталіся ў Вільню ... за 60 вёрст ад Вільні, пасля мястэчка Ашмяны, іх спынілі літоўскія людзі, стралялі па іх з ружжа, з іх 3 чалавек і 2 кані падстрэлілі. 18 кастрычніка я паслаў табе, гасудару, з Вільні ... капітана Івана Каратнёва, а з ім супраць тых ... людзей адправіў паручніка Парфёна Шубіна з салдатамі. І 29 кастрычніка капітан Каратнёў с паручнікам Парфёнам Шубіным прыслаў у Вільню з Ашмянскага павета вёскі Шастакі селяніна Пятрушку Шастака і з ім з іншых вёсак 9 чалавек, ды жанчыну, а узяў ён тых мужыкоў ... у вёсцы Шастакі і ў іншых вёсках. Яшчэ паручнік Парфён Шубін прывёў у Вільню 10 чалавек сялян Ашмянскага павета вёскі Куляшы - Мішку Куляша з сябрамі, злапаў ён тых мужыкоў за ракой Ашмянай, у вёсках ... Гэтыя сяляне ў Вільны катаваныя і Пятрушка Каратнёў сазнаўся. Што "на дарозе ... казакоў з запіскай да цябе, гасудар, не прапусціў і страляў у іх". А Мішка Кулеш пасля катавання павініўся, што з шляхціцам Станіславам Дакурнам па дарозе ездзілі і тваіх гасударавых людзей 4 чалавека зарубілі, а без яго, дык Станіслаўка з сябрамі зарубілі яшчэ чалавек з 15. ... селянін Мікалай Яндал пасля катавання вініўся, ... што з лаўнікам Крыштафам Лаўрэнавым і з шляхціцам Самойлам і Радутай, разам іх было 40 чалавек, тваіх людзей зарубілі 5 чалавек. ...."* [26]. І такіх дакументаў шмат.

Аднак, як заўсёды, людзі вялі сябе па-рознаму, і абставіны ва ўсіх бывалі розныя.

На пачатку лістапада 1655 г. рускі корпус з некалькіх тысячаў чалавек на чале з князем С. А. Урусавым і ваяводам Баратынскім выйшаў з Коўні на поўдзень, каб захапіць Берасце. Па дарозе пад Белымі Пяскамі яны разбілі частку палка Жыгімонта Слушкі. Далей пайшлі, падзяліўшыся: меншыя сілы - праз Адэльск, Крынкі - да Заблудава, а галоўныя сілы рушылі праз Нараў і Орлю, мінулі Высокае і 23 лістапада з'явіліся каля ракі Лясной за некалькі кіламетраў ад Берасця. Тут іх разбілі жаўнеры Паўла Сапегі. Рускае войска пачало ўцякаць. Тады Сапега абышоў непрыяцеля ды перакрыў яму дарогу. Пры канцы лістапада адбылася бітва, якая, паводле звестак маскоўскіх ваяводаў, скончылася іхняй перамогай. Тым не менш левае крыло войска Урусава было разбітае, а сам ён са штандарам ратаваўся ўцёкамі. Пасля гэтай бітвы Урусаў і Баратынскі адступалі па цяжкой дарозе праз Белавежскую пушчу. Каля Новага Двара на Ваўкавышчыне пры выхадзе з пушчы нейкую частку іх войска яшчэ раз разбіла лідская, ваўкавыская і гарадзенская шляхта на чале з берасцейскім ваяводам Кунцэвічам. Пабітыя царскія палкі пайшлі на Слонім і адтуль вярнуліся ў Вільню[27].

Якуб Кунцэвіч узначальваў паспалітае рушэнне Лідскага, Гарадзенскага і Ваўкавыскага паветаў, і падчас паходу пад Берасце і разгрому рускага войска паміж ім і Урусавым усталяваўся кантакт. Яшчэ на першым этапе паходу на Берасце, 9 лістапада 1655 г., калі наша войска разам са шляхтай Кунцэвіча было

[20] Акты Московского государства. 1635 - 1659. Т. 2. С. 432.
[21] Там жа.
[22] Там жа. С. 434.
[23] Там жа.
[24] Там жа. С. 527.
[25] Сагановіч, Г. Шышы // Вялікае Княства Літоўскае. Т. 2. Мінск. 2007. С. 765.
[26] Акты Московского государства. 1635 - 1659. Т. 2. Санкт-Петербург, 1894. С. 458-459.
[27] Сагановіч Генадзь. Невядомая вайна: 1654-1667. Мінск, 1995. С. 54.

разбіты пад Белымі Пяскамі, паміж Кунцэвічам і Урусавым пачалося папярэдняе абмеркаванне аб пераходзе яго на бок цара[28].

Менавіта пасля гэтых падзей князь Урусаў выканаў распараджэнне цара, які загадаў скласці спіс шляхты, якая падпарадкавалася яго ўладзе. Ён перапісаў толькі шляхту і духавенства, хоць князю было загадана перапісаць таксама мяшчан і "павятовых людзей", якія перайшлі пад "высокую руку" цара.

Яшчэ 4 верасня 1655 г. цар звярнуўся з лістом да жыхароў Віленскага павета а 17 - 19 верасня да Слуцкага і 4 кастрычніка да астатніх акупаваных паветаў, каб *"они нашие, г-ские, милости к себе поискали и были под нашею г-скою рукою. А мы ... их пожалуем нашим г-ским милостивым жалованьем свыше королевского, и прав их и волностей нарушить не велим."*[29]

Трэба разумець, што адбывалася. У выніку ваенных дзеянняў лета 1655 г. межы рускіх уладанняў дасягнулі заходніх межаў Вялікага Княства і распаўсюдзіліся да ўпадзення Віліі ў Нёман каля Коўні. На поўдні царскія войскі занялі тэрыторыю сярэдняга цячэння Нёмана разам з Гародняй і паўночныя часткі паветаў, якія прылягалі да Нёмана: Ваўкавыскі, Слонімскі і Наваградскі.

Далейшаму прасоўванню рускіх войскаў на захад перашкаджалі аддзелы левага крыла літоўскага войска, якія на чале з Казімірам Хвалібогам Жаромскім адышлі спачатку з-пад Вільні на Панары, Трокі і Гародню, а затым 23 жніўня ў Вяржболаў і стварылі тут ваенную канфедэрацыю на чале з Жаромскім як маршалкам, заявіўшы пра сваю вернасць каралю Яну Казіміру. У гэтых аддзелах налічвалася каля 2 тысяч прафесійных салдат. Трыма днямі пазней пад Гародняй сабралася гарадзенскае шляхецкае апалчэнне і заявіла аб сваёй вернасці Яну Казіміру. Пад націскам рускіх, Жаромскі адышоў на поўдзень ад Гародні, да Крынак, а потым у раён Новага Двара ў Ваўкавыскім павеце Наваградскага ваяводства. Да 28 верасня Жаромскі накіраваліся да Камянца, каб усталяваць сувязь з групай войскаў, якія сабраліся каля Берасця пад камандаваннем віцебскага ваяводы Паўла Сапегі. Такім быў загад караля Яна Казіміра, які даслаў Сапегу акт прызначэння яго рэгіментарам[30] войскаў Вялікага Княства Літоўскага[31].

Пасля цяжкіх баёў, пачынаючы з кастрычніка 1655 г. Лідская павятовая харугва і паспалітае рушэнне разам з аналагічнымі гарадзенскімі аддзеламі знаходзіліся за левым берагам Нёмана, у беларускім Падляшшы[32].

Сістэма кіравання, прывезеная рускім людзьмі з Маскоўскага царства ў нашы гарады засноўвалася не на Магдэбургскім праве і наогул не на праве, а на грубай сіле. Новыя мясцовыя органы рускай улады - "съезжая и судная избы" - толькі ажыццяўлялі разгляд скаргаў і чалабітных, адрасаваных рускаму цару. Лепшым спосабам заняць якое-небудзь месца ў новай сістэме з'яўлялася даносніцтва, выведванне, здрада свайму атачэнню і таму асяроддзю, у якім чалавек сфармаваўся. Руская ўлада карэнным чынам памяняла сістэму жыццёвых каардынатаў. Жыхар ВКЛ кожны дзень рабіў выбар паміж сваім родным асяроддзем і інстынктыўным жаданнем прыстасавацца да новых умоў, каб выжыць, а для гэтага трэба было супрацоўнічаць з новай уладай. Забароненыя рускімі ўладамі ўніяты, якія складалі большасць беларускага насельніцтва, праз масавае прымусовае хрышчэнне ў значнай колькасці былі пераведзены ў праваслаўе, але, каб абараніць сваю веру, за спіной новых уладаў пісалі лісты сваім царкоўным іерархам і чакалі свайго часу[33].

Тое, што адбылося можна было ацаніць адназначна: здарылася катастрофа такога маштабу, якой да гэтага ніколі не было. Таму шляхта мела апакаліптычныя настроі. У кожнага была сям'я, дзеці і маёмасць. А гэта была не тая вайна, калі можна было збочыць і адсядзецца ў хаце. Тут выбар быў - ці смерць, ці спроба ўратавання. Да таго ж каталіцкай шляхце не было куды бегчы - на захад ад яе, у Мазовіі і Падляшшы ўжо былі шведы-пратэстанты - з імі заключыў унію пратэстант Януш Радзівіл, і яго падтрымлівала пратэстанцкая шляхта (заўважу, што Беларусь у той час у значнай ступені была пратэстанцкай краінай). Таму вялікая частка лідскай шляхты выбрала шлях паразумення з прыхаднямі, але, як гэта хутка стала зразумела, да паратунку такі шлях не вёў.

Рускі ваявода С. А. Урусаў павінен быў дамагчыся ад беларусаў прынясення прысягі цару. Для гэтага ён заключыў асобнае пагадненне з Я. Кунцэвічам і шляхтай трох паветаў, і гэтае пагадненне потым зацвердзілі царскія ўлады. Шляхта на чале з Кунцэвічам узяла абавязацельствы перайсці на бок цара і вылучыла закладнікаў[34].

Удзельнік тых падзей Вальтар (Вальтэр) Корф апісваў іх свайму бацьку, венданскаму старасту Мікалаю Корфу, у асобным лісце. Ён паведаміў, што ў ноч з 1 на 2 снежня ў Мсцібава, дзе стаяла частка войска ВКЛ, прыбыў пасол ад Урусава і перадаў, што шляхце ахвяруецца захаванне даўніх вольнасцяў узамен на

[28] Заборовский Л. В. Великое княжество Литовское и Россия во время польского Потопа (1655- 1656 гг.): Документы, исследование. Москва, 1994. С. 121. (Заўвага №125)

[29] Там жа. С. 78-80.

[30] Вышэй за рэгіментара былі польны і вялікі гетманы ВКЛ.

[31] Памятники истории Восточной Европы. Источники 15-17 вв. Том 4. Крестоприводная книга шляхты Великого княжества Литовского 1655 г. Москва-Варшава, 1999. С. 17-19.

[32] Plosinski Jacek. Wyprawa kniazia Semena Urusowa na Brzesc (listopad - grudzie? 1655 r.). S. 14.

[33] Герасимова И. В. Вильна под властью русского царя (1655-1661): судьба города и горожан. Автореферат диссертации на соискание ученой степени кандидата исторических наук. Санкт-Петербург, 2012. С. 19.

[34] Заборовский Л. В. Великое княжество Литовское и Россия во время польского Потопа (1655- 1656 гг.): Документы, исследование. Москва, 1994. С. 128. (Заўвага № 179)



**Якуб Тэадор Кунцэвіч**

прыняцце пратэкцыі рускага цара. Пасля гэтага да Урусава былі высланы пяць паслоў пад кіраўніцтвам троцкага цівуна Льва Самуэля Агінскага і менскага земскага пісара Крыштафа Валадковіча. Пасля перамоваў, 6 снежня 1655 г. (26 лістапада па старым стылі) да рускага войска каля Свіслачы прыбылі ліцвіны. Корф піша: "*На раніцы, г. з. 6 снежня са Мсцібава прыехаў пан Кунцэвіч, палкоўнік, з трыма паветамі* (харугвамі ад паветаў - *Л.Л.*), *якія паставіў у полі, сам з некалькімі дзесяткамі вершнікаў паехаў да ... Урусава, які спыніўся ў плябаніі. ... і падаў цару дамову аб здачы (deditionem). Пасля цырымоній ад Лідскага павета пан Кунцэвіч, лідскі падкаморы, і пан Кураш, лідскі харунжы, цалавалі крыж у асобным пакоі, паўтараючы за дзякам, які чытаў. Ад Ашмяны падкаморы ашмянскі Зяновіч, ад Гародні харунжы гарадзенскі пан Кярдэй і падсудак гарадзенскі пан Александровіч, ад Полацка пан Сакалінскі і шляхты з ім нямала, ад Ваўкавыска маршалак ваўкавыскі пан Карп і пан Асініскі, ваўкавыскі харунжы, ад Менска пан Валадковіч, менскі пісар, і ўся шляхта, колькасцю больш за тысячу*" [35].

У той жа дзень была падпісана дамова з 17 пунктаў. Умовы пагаднення падпісаны С. А. Урусавым, Я. Кунцэвчіам. А. Нарбутам (лідскі войскі) і пяццю шляхціцамі.

Калі аналізаваць артыкулы дамовы (гл. дадаткі) дык бачна, што гэта не капітуляцыя. Напрыклад, падпісанты патрабавалі вызваліць палонную шляхту (артыкул 13.), што не было задаволена царскімі ўладамі і, што цікава, патрабавалі каб літоўская шляхта і шляхта Кароны маглі вольна здабываць маёмасць у Кароне і ВКЛ (артыкул 15.). Таксама яны патрабавалі вяртання ў склад ВКЛ Жамойці і Інфлянтаў і, што самае цікавае наша шляхта не забылася страты Украіны падчас Люблінскай уніі і патрабавала вяртання ў склад ВКЛ ваяводстваў, якія ўваходзілі ў Украіну - практычна шляхта жадала адмены Пераяслаўскай рады і рускага Земскага сабора і патрабавала вяртання Украіны (артыкул 7.)! Таксама шляхта патрабавала склікання Сойму ВКЛ (артыкул 10.)

Гэта не магло выклікаць прыхільнасці з боку акупантаў. Цар згадзіўся (як хутка стала зразумела толькі на паперы) з захаваннем шляхецкай вольнасці (артыкул 2.), старых установаў, юрыдычных здзелак (артыкул 3.), а таксама захавання ўсіх пасад і чыноў (артыкул 9.)[36].

Важным быў апошні пункт дамовы - яўрэйскае насельніцтва ВКЛ цалкам вынішчалася, і таму шляхта патрабавала, каб: "*Также татары и жиды чтоб против прав старожитных данных были попрежнему*"[37]. Гэты апошні пункт уратаваў шмат жыццяў жыхароў ВКЛ.

Пасля агульнай прысягі ў Мсцібаве, у розны час прысягнула частка шляхты Лідскага, Гарадзенскага, Слонімскага, Наваградскага, Ваўкавыскага, Ашмянскага, Аршанскага і Троцкага паветаў. Усіх прысягнуўшых маскоўскія дзякі ўнеслі ў адмысловую кнігу[38].

У Лідскім павеце 1655 г. 412 чалавек (з іх 394 шараговыя шляхціцы) прысягнулі цару. Сярод лідскіх шляхціцаў мелася шмат службовых асобаў на чале з падкаморым Якубам Тэадорам Кунцэвічам, які атрымаў пасаду палкоўніка лідскага, гарадзенскага і ваўкавыскага. Разам з ім прысягнулі цару стараста Міхал Францкевіч Радзімінскі, харунжы Ян "Лынкінаў" (?) Курчаў, войскі Казімір Круневіч сын Яна, чашнік Якуб Віскоўскі сын Андрэя, падстолі Мікалай сын Яна Радашэўскага і інш.[39]

Мы не маем успамінаў пра тыя падзеі з боку

[35] Plosinski Jacek. Wyprawa kniazia Semena Urusowa na Brzesc (listopad - grudzien 1655 r.). S. 22-23.

[36] Мальцев А. Н. Россия и Белоруссия в середине XVII века. С. 143-145.

[37] Заборовский Л. В. Великое княжество Литовское и Россия во время польского Потопа (1655-1656 гг.). С. 103-106.

[38] Памятники истории Восточной Европы. Источники 15-17 вв. Том 4. Крестоприводная книга шляхты Великого княжества Литовского 1655 г. Москва-Варшава, 1999. С. 15-17.

[39] Там жа. С. 20. (Спіс прысягнуўшых у Лідскім павеце, можна вывучыць на сайце pawet.net .)

лідскай шляхты, таму я прывяду тэкст з цікавейшых мемуараў Багуслава Казіміра Маскевіча[40] пра тое, як цару прыся-гала навагрудская шляхта - думаю розніца была невя-лікая:

*"Хаванскі, ... выслаў іншага баярына, Івана Аляксеевіча Зелянова, для прыняцця прысягі ад наваградскай шляхты. ...*

*Die 14 februarii той Зеляноў загадаў усёй шляхце сабрацца раніцой для складання прысягі ў Барысаглебскай царкве.*

*... шляхціцы ... пайшлі з ім у царкву. Калі прыйшлі, паставілі перад царскай брамай пульпіт[41] і паклалі на яго Евангелле. Пасля гэтага Зеляноў чытаў тэкст прысягі, запісанай на двух аркушах наступнымі словамі:*

*"Я N., присягаю Богу Всемогущему, в Троице Святей единому, и осудареви цареви и великому князю Алексею Михайловичу, всея Великия, и Малыя, и Белыя Руси самодержцу (далей пералічваюцца ўсе царскія тытулы), и его благоверной царице и великой княгине Мирии Ильиничной, и благоверному осударю царевичу и великому княжичу Алексею Алексеевичу" etc. Тут дадае, што абяцае цалкам адрачыся ад польскага караля, не выяўляць да яго прыязнасці, не стасавацца з ім ні пісьмова, ні праз людзей, не папярэджваць яго, ваяваць супраць яго, таксама не пераходзіць на бок іншаземнага манарха ні хрысціянскага, ні турэцкага цара, ні шведскага, ні французскага і г. д., але ва ўсім быць верным цару, ва ўсім паслухмяным (і за кожным разам пералічваліся тытулы). Гэтай прысягай Хаванскі хацеў аддаць [нашу] дзяржаву ў вечнае падданства маскоўскаму цару. Але тое як ваўку пацеры. Нарэшце, у канцы прысягі былі розныя праклёны, каб той, хто складае прысягу, спужаўшыся, не здраджваў цару. Вось якія былі formalia[42] ў канцы: "А буду я обьявляться великому осудару своему цару etc. против обвещания своего проступить (в которым слове не будет в сей записи написано вышей сего) и я за тое кламство[43] и проступление да буду отлучон и непрощен от Светыя единосущныя Тройцы, единого Бога, в сих славимого в нынешнем веке и в будущем. Затресуся, яко Кайн, еще и на земли, и да отверзется земля и пожрет мя, яко Дафана и Авирона[44], и да восприиму проказу Гезиеву[45] и удавленне Иуды и суд иму и смерть Анании и жены его Сафиры[46], и часть моя в нынешнем веке и в будущемъ будет с небожными Евузитами[47], и жилище мое да будет в вечном огни с дьяволом сатаной и ангелы его".*

*Хаця за той прысягай сачыў асабіста Іван Аляксеевіч* (Зеляноў - *Л. Л.*)*, аднак жа чутно было ў натоўпе нараканне, і ўсе замест прысягі чыталі пра сябе пацеры або толькі мармыталі. Цяжэй было з тымі, якія прыехалі пазней і прысягалі асобна, бо павінны былі выразна прамовіць кожнае слова прысягі, якая складалася ў замку, у пакоі капітана Міны Стафанавіча Шылава, перад маскоўскім папом.*

*Пасля прысягі Зеляноў раздаваў усім карткі, даючы атэстацыю, што такі і такі склаў прысягу, маёмасць яго такая і такая etc. За тую картку бралі 6 грошаў або, хто што мог даць.*

*Таго ж дня Зеляноў папярэдзіў усіх, каб шляхта збіралася з майном у Наваградак, бо каго разведка застане ў доме, не будзе літасці."* [48]

Эпідэмія з'явілася ў Беларусі яшчэ на пачатку вайны і, верагодна, прыйшла з тэрыторыі Масквы, дзе ў 1654 г. быў вялікі мор. Эпідэмія суправаджалася страшэнным голадам. Увесну 1656 г. рэшткі несабранага збожжа папсавалі палявыя мышы. У 1658 г. эпідэмія ўспыхнула з новай сілай.

Падчас эпідэміі чумы, якая доўжылася з траўня 1657 па студзень 1658 г., жыхары Вільні і рускія ўлады вырашалі праблему выжывання кожны па-свойму. Рускі ваявода Вільні адгарадзіўся ад астатняга насельніцтва і амаль не вырашаў праблем горада, а займаўся, перш за ўсё, выкананнем царскіх указаў. Рэчы і хаты

[40] Багуслаў Казімір Маскевіч (каля 1625 - 1683), нарадзіўся в. Сервеч Наваградскага павета, беларускі мемуарыст і жаўнер. Адукацыю атрымаў у Наваградскім калегіюме, з 1643 па 1644 г. знаходзіўся пры двары князя Багуслава Радзівіла, пасля 1644 г. перайшоў з кальвінізму ў каталіцызм. З 1646 г. на службе ў Іераміі Міхала Вішнявецкага, пад яго кіраўніцтвам ваяваў з украінскімі казакамі (1646 - 1648). У 1649 г. вызваляў поўдзень Беларусі ад казацкіх атрадаў. У 1655 г. абраны дэпутатам у Трыбунал ВКЛ. Пасол на Соймы 1668, 1673, 1674 гг. З 1668 г. знаходзіўся на службе ў К. і М. Пацаў.

Аўтар двух дзённікаў. У першым, які ахоплівае перыяд 1643-1649 гг., апісаны баявыя дзеянні Вішнявецкага, М. Патоцкага, М. Каліноўскага, Я. Радзівіла супраць войскаў Багдана Хмяльніцкага на Украіне і ў Беларусі. У ім утрымліваецца шмат партрэтных і пейзажных замалёвак. У другім апісваецца паход царскага ваяводы Івана Хаванскага ў Беларусь у пачатку 1660 г. і яго разгром аб'яднанымі сіламі гетманаў П. Я. Сапегі і С. Чарнецкага ў бітве пад Палонкай. Дзённікі Маскевіча з'яўляюцца каштоўнай гістарычным крыніцай. Гл: Дыярыушы XVII стагоддзя (1594 - 1707 гады) : Самуэль Маскевіч, Багуслаў Маскевіч, Піліп Абуховіч, Міхал Абуховіч, Тэадор Абуховіч / Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Цэнтр даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры, Інстытут літаратуразнаўства імя Я. Купалы. Мінск, 2016.

[41] Аналой.

[42] Фармулёўкі.

[43] Хлусню.

[44] Дафан і Авірон, сыны Эліава. У выніку пакарання за бунт супраць Майсея "раззявіла зямля вусны свае і праглынула іх і дамы іхнія... і сышлі яны з усім, што належала ім, жывыя ў апраметную, і накрыла іх зямля, і згінулі яны" (Кніга Лікі, 16:32, 33).

[45] Гаворка пра Гіезія, слугу прарока Елісея, пакаранага праказай за нявер'е (4-я кніга Царстваў, 5:20).

[46] Ананія і Сафіра за хлусню былі пакараныя раптоўнай смерцю (Кніга Дзеяў Апостальскіх, 5:1-11).

[47] Евузіты - жыхары Евузы, пазнейшага Ерусаліма (Кніга Ісуса, сына Нава, 10 і 11).

[48] Дыярыуш [Багуслава Казіміра] Маскевіча пра вайну з Масковіяй, якая адбывалася ў Вялікім Княстве Літоўскім, і яе завяршэнне яв. ям. п. Паўлам Сапегам, вялікім гетманам ВКЛ, і яв. ям. п. Чарнецкім, рускім ваяводам (1659-1660) // Дыярыушы XVII стагоддзя (1594-1707 гады). Мінск, 2016. С. 199-201.

памерлых гараджан апынуліся ў яго руках, і грошы за арэнду і продаж працягвалі папаўняць царскую казну. Віленскія жыхары арганізавалі ахову горада і выехалі ў паветы, шукаючы сабе прытулак у адносна здаровых месцах. Рускія салдаты, якія выйшлі ў паветы, каб чакаць заканчэння эпідэміі, карміліся за кошт набегаў на бліжэйшыя вёскі. У Віленскай цвердзі засталося толькі 800 рускіх салдат. Вядомы выпадкі, калі заражаных хваробай "ратных людзей" выкідвалі паміраць за сцены Віленскага замка і не клапаціліся пра іх далейшы лёс[49].

Беларусы ратаваліся, хто як мог, шмат хто ўцякаў ад гвалту і смерці ў глухія вёскі, але царская адміністрацыя знаходзіла і сілай іх вяртала ў гарады і мястэчкі пад свой кантроль. Як бачым, разбегалася і сталіца ВКЛ - Вільня, і цар загадаў ваяводу Шахоўскаму вяртаць шляхту, месцічаў і сялян, абяцаючы ім ранейшую зямлю, а калі тыя не прыйдуць у Вільню - высылаць на іх войска і кідаць у віленскі астрог. З-за вялікай колькасці непахаваных трупаў людзей і жывёл масавыя эпідэміі ўзмацняліся[50].

Яшчэ на пачатку 1656 г. кіраўнічыя колы Рэчы Паспалітай распрацавалі праграму выратавання дзяржавы, сярод іншага, планавалася падпісаць мірную дамову з рускім царом. У чэрвені 1658 г. вільняне і жы-хары суседніх паветаў, верагодна яшчэ верылі ў тое, што руская ўлада прыйшла надоўга. Гэта пацвярджаецца просьбай жыхароў Вільні да цара дараваць ім свабоду ад падаткаў на 20 гадоў наперад. Пераломным момантам стаў зрыў руска-польскіх перамоваў і, як наступства, бой пад Вільняй рускіх і літоўскіх войскаў 11 кастрычніка. Важным было тое, што, пасля гэтага мясцовае насельніцтва ўпершыню змагло згуртавацца супраць рускіх уладаў. Гэтыя падзеі змянілі стаўленне жыхароў Вільні і прылеглых да яе паветаў да рускай улады - людзі адчулі часовасць акупацыі, і з гэтага часу сталіца знаходзілася ў сітуацыі ўсё нарастаючага ваеннага напружання. Фактычна царская адміністрацыя кіравала Вільняй толькі да сярэдзіны 1660 г. Потым рускія войскі былі заблакаваныя ў Віленскім замку а ўлада ў горадзе паступова пачала вяртацца ў рукі віленскага магістрата. З гэтага часу пачалося паступовае аднаўленне ранейшых інстытутаў улады ВКЛ[51].

Пачынаючы з 1659 г. амаль уся Беларусь была ахоплена паўстаннямі "шышоў" супраць царскіх войскаў, і руская адміністрацыя практычна страціла кантроль над акупаванай тэрыторыяй. 9 сакавіка 1659 г. войскі Паўла Сапегі вызвалілі Гародню, маскоўская залога капітулявала. Вядома, што яшчэ да капітуляцыі рускае войска ў горадзе галадала - горад быў цалкам блакаваны мясцовым насельніцтвам. Гародня стала першым вызваленым беларускім горадам у нашай частцы Беларусі[52].

Зімой 1658-59 гг., царскі ўрад распачаў новую вялікую наступальную аперацыю. Кіраўніком гэтай кампаніі прызначаны ваявода і князь Іван Хаванскі, ён павінны быў вярнуць страчаныя гарады, заняць незахопленыя пасля першага этапу вайны цвердзі і зноў падпарадкаваць сабе краіну[53]. Відавочца тых падзей Багуслаў Казімір Маскевіч запісаў пра канец 1659 г.: *"Пачалі наезды на заваяваныя паветы, ... на Гарадзенскі, Віленскі. Ашмянскі, Лідскі ..."* [54]. На пачатку лістапада адбылася выправа моцнага аддзела рускага войску з Вільні ў бок Радуні. Нашы войскі, якія стаялі ў Лідскім павеце, своечасова даведаліся пра выправу і цалкам разграмілі рускі атрад[55].

У студзені 1659 г. Хаванскі перамагае войска ВКЛ пад Мядзелам. Пасля гэтай бітвы, на працягу больш за паўгода, ішло збіранне войскаў і падрыхтоўка да далейшых дзеянняў[56].

Хаванскі зноў выступіў у паход 18 кастрычніка 1659 г. і ўжо 19 лістапада дасягнуў Вільні, акупаванай яшчэ некалькі гадоў таму. Але да 1659 г. шляхта Віленскага, Гарадзенскага і Наваградскага ваяводстваў, фактычна *"отложилась"* ад царскай улады. Напрыклад віленская шляхта адмаўлялася ваяваць супраць *"сваіх братоў"* з літоўскага войска і пастаўляць прыпасы ў Вільню ці Хаванскаму[57].

Прыбыўшы 19 лістапада ў Вільню, Хаванскі злучыў прыведзеныя ім сілы з тымі, якія ўжо раней былі перакінутыя ў гэты горад з Полацка. Каб падпарадкаваць бунтоўнае насельніцтва ён пачаў знішчальныя рэйды на Віленшчыне - ягоныя войскі нечаканым нападам спустошылі значную частку Вількамірскага павета, атрады Хаванскага лютавалі ў Лідскім і Ашмянскім паветах. Паліліся шляхецкія двары, забівалася насельніцтва, шмат шляхты ў кайданках было зведзена ў Вільню і кінута ў замкавую вязніцу.

Агульны наступ пачаўся ў апошнія дні лістапада.

Расейскія аддзелы скіраваліся ў бок Лідскага павета, праз які праходзіла дарога на Гародню. Аднак у нас стаяла харугва вугорскай пяхоты і драгунаў Сапе-

[49] Герасимова И. В. Вильна под властью русского царя (1655-1661) ... С. 15.

[50] Сагановіч Генадзь. Невядомая вайна: 1654-1667. Мінск, 1995. С. 71.

[51] Герасимова И. В. Вильна под властью русского царя (1655-1661) ... С. 16.

[52] Сагановіч Генадзь. Невядомая вайна: 1654-1667. С. 88.

[53] Сагановіч Генадзь. Невядомая вайна: 1654-1667. С. 87.

[54] Dyjariusz moskiewskiej wojny w Wielkim Ksiestwie bedacej i uspokojenie onej przez jw. jmp. Pawla Sapiehe wraz z jw. jmp. Czarnieckim wojewode ruskim nastapione, w: Pomniki dziejow Polski wieku siedemnastego, Tom 1 1840, wydal August Podg?rski, S. 162.

[55] Kossarzecki Krzysztof. Kampania roku 1660 na Litwie. Zabrze, 2005. S. 91.

[56] Курбатов О.А. "Литовский поход 7168 года" князя И.А. Хованского и битва при Полонке // Славяноведение. 2003. № 4. С. 26-27.

[57] Там жа. С. 28.

гі, накіраваных, напэўна, яшчэ летам 1659 г. з мэтай блакады Вільні і прыкрыцця Лідскага павета ад маскоўскіх вылазак. Іх падтрымлівала некалькі харугваў паспалітага рушэння лідскай шляхты і наймітаў. Гэтымі аддзеламі, камандаваў усе той самы Якуб Тэадор Кунцэвіч, які, здаецца, да таго часу ўжо зразумеў, што дамовы з царом каштуюць танней, чым папера, на якой яны напісаны.

Рускае войска пайшло на Ліду. Традыцыйнай дарогай з Вільні на Гародню і далей на Варшаву з Кракавам з'яўляўся стары Каралеўскі тракт[58], які на Лідчыне ішоў праз Радунь і Васілішкі - г. зн. абмінаў Ліду і Мыто. А каб прайсці каля Ліды, трэба было рухацца з Вільні на Жырмуны. Адтуль старым Мытлянскім гасцінцам[59], каля Крупава, праз Заполле ісці на Мыто і адтуль выходзіць на той самы Каралеўскі тракт. Пайсці з Вільні на Ліду Хаванскага магло прымусіць толькі жаданне яшчэ раз знішчыць наш горад.

Пасля гарматнага абстрэлу і аблогі рускае войска ўзяло Лідскі замак. Усе драўляныя будынкі замка былі спалены (і больш ужо не аднаўляліся), а калодзежы засыпаны[60]. Адам Кіркор напісаў пры тыя падзеі: *"Замак узяты Хаванскім і спустошаны, а горад спалены і цалкам разбураны"* [61].

Нашы аб'яднаныя сілы не баранілі Ліду, а мелі намер загарадзіць шлях расейскім войскам на пераправе цераз раку Дзітву каля вёскі Мыто. У яе ваколіцах збудавалі земляны форт.

Нагадаю, што для пераправы цераз раку Дзітву з даўніх часоў будавалі масты. Самы стары з іх ужо існаваў у 1392 г., ён быў пабудаваны на шляху з Жырмунаў да Васілішак, насупраць пазнейшай Дзітвы Тальвашоўскай (зараз - Рулевічы). Мост на вялікай дарозе з Васілішак да Ліды пры Дзітве Пратасаўскай ці Мыто вядомы з канца XV ст.[62]

Сутычка, напэўна, не з усёй рускай арміяй, а з нейкай яе часткай адбылася на золку 27 лістапада 1659 г.[63]

Багуслаў Маскевіч запісаў: *"Ішоў тады Хаванскі Лідскім краем да Гародні, не паварочваючы на Наваградак, бо яму даклалі што ў Наваградку 20 000 войска, хаця нас было некалькі сотняў паспалітага рушэння. ... Калі Хаванскі ішоў Лідскім паветам, сабраўся на яго Лідскі павет і заступіў яго на мыце дзе дарэмна спрабавалі не дапусціць пераходу непрыяцеля і бараніць пераправу, калі ў іх гэта не атрымалася, бо непрыяцель пераправіўся цераз брод каля іх і наехаў на іх. Яны яму больш не праціўіліся, толькі венгерская пяхота пана Пасудзеўскага, гэта значыць гетманская надворная і драгуны капітана ... шчасліва сышла за Нёман. Адкрыўшы сябе дарогу, непрыяцель пайшоў наўпрост на Гародню"* [64].

Пра падзеі той вайны ёсць цікавы артыкул рускага гісторыка Курбатава А. В.[65], які, нягледзячы на шэраг тыповых прапагандысцкіх ацэнак і падыходаў, спасылаецца ў сваёй працы на рапарты камандзіраў рускіх войскаў. Вось як ён апісвае падзеі каля Мыто: *"На захад ад горада* (Ліды) *на пераправе цераз р. Дзітву ў в. Мыто, ўмацаваўся ў "острожку" на чале мясцовай шляхты палкоўнік Я. Кунцэвіч. Аднак, Хаванскі "посмеялся над ними": даведаўся пра брод і ў ноч на 17 лістапада 1659 г. пераправіўся цераз раку ў іншым месцы і выйшаў на ліцвінаў з тылу. Шляхта, даведаўшыся пра гэта, "больше не сопротивлялась", земляны гарадок быў узяты, і толькі дзве хоругвы (надворныя гайдуцкая Сапегі і драгунская), страціўшы 22 чалавекі палоннымі, праравяліся за Нёман"* [66].

Такім чынам царскія камандзіры не кінуліся на непасрэдны штурм пазіцый, але пераправілі войскі ў іншым месцы і абышлі земляны форт. Потым ударылі ззаду па заспетых знянацку ліцвінаў і цалкам рассеялі абаронцаў форта. Паводле Маскевіча, у пагоню за адступіўшымі за Нёман ў напрамку Наваградка гетманскай вугорскай пяхотай пад камандаваннем ротмістра Крыштапа Пасудзеўскага і драгунамі рушыла пэўная частка маскоўскіх сілаў. Аднак галоўная частка царскай арміі пайшла на Гародню.

8 снежня Хаванскі ўзяў Гародню[67].

На пачатку снежня пэўная частка маскоўскіх войскаў скіравалася на Коўню. Вёў яе, напэўна, Хаванскі, якога у дакументах называюць "палкоўнікам". Магчыма, гэта быў адзін з сыноў Івана Хаванскага, якія ўдзельнічаў пры бацьку ў вайне з Рэччу Паспалітай[68].

Дзякуючы успамінам Багуслава Маскевіча, мы ведаем героя той вайны на Лідчыне - Фердынанда Рора.

Маскевіч напісаў, што ў чэрвені 1660 г. Фердынанд Рор, дзяржаўца (арандатар) Беліцы, якая ў той час належала пратэстанту, князю Багуславу Радзівілу,

---

[58] Гл: Szymielewicz Michal. Trakt krolewski // Ziemia Lidzka. 1936. № 2.

[59] Гл: Uszakiewicz Stanislaw. Mytlanski gosciniec i dworska droga // Ziemia Lidzka 2001. №2(45).

[60] Трусаў А. Мінулае і сучаснасць Лідскага замка // Лідскі летапісец. 2007. № 2(38). С. 21-22.

[61] Киркор А., Кондратович Л., Кукольник П. Черты из истории и жизни литовского народа. Вильно, 1854. С. 13.

[62] Szymielewicz Michal. Rzeka Dzitwa.// Ziemia Lidzka,1936 г., № 1.

[63] Касажэцкі Кшыштаф. Кампанія 1660 году ў Літве. 2011. С. 109-110.

[64] Dyjariusz moskiewskiej wojny w Wielkim Ksiestwie bedacej i uspokojenie onej przez jw. jmp. Pawla Sapiehe wraz z jw. jmp. Czarnieckim wojewode ruskim nastapione. S. 164.

[65] Гл: Курбатов О.А. "Литовский поход 7168 года" князя И.А. Хованского и битва при Полонке // Славяноведение. 2003. № 4. С. 25-40.

[66] Там жа. С. 28.

[67] Там жа.

[68] Касажэцкі Кшыштаф. Кампанія 1660 году ў Літве. С. 110.

*"жывучы ў Беліцы і маючы маскоўскую грамату*[69]*, сабраў сто чалавек і перахапіўшы маскву за Нёманам*[70]*, перабіў іх. Між іншым узяў Івана Якаўлевіча Кушалёва*[71]*, які ехаў у Гародню ад Хаванскага. Пра гэта даведаўся Хаванскі і паслаў дзве рэйтарскія*[72] *харугвы лапаць яго, як шыша і спаліць Беліцу, а лідскую шляхту рабаваць і выразаць. Але яны яго не злапалі, толькі парабаваўшы дамы шляхты, вярнуліся. ...*

*Вярнуліся да Хаванскага тыя, якіх дасылалі злапаць Рора. Хаванскі спытаў іх каменданта, ці спаліў і выразаў ты ўсіх за Нёманам? Той адказаў, што не. Тады загадаў перарэзаць яму шыю і Хаванскага ледзь упрасілі не рабіць гэтага.*

*Пасля гэтага паслаў іншага, падпалкоўніка Васіля Багданавіча Данілава з тысячай чалавек злапаць Рора з паплечнікамі і Лідскі павет выразаць і спаліць. Але папярэджаная Ліда і Рор з паплечнікамі разбегліся. Аднак, яны, што маглі, спалілі і, каго злапалі з шляхты і сялян, выразалі"* [73].

Вось і ўсё, што Багуслаў Казімір Маскевіч напісаў пра Фердынанда Рора.

Гісторык Кшыштаф Касажэцкі паведаміў, што на пачатку чэрвеня Рору ўдалося знішчыць маскоўскі аддзел, які суправаджаў з Гародні ў лагер пад Ляхавічамі (дзе з той час знаходзіўся Хаванскі з войскам) абоз з гарматамі і порахам[74]. Моцна занепакоены Хаванскі загадаў пільна назіраць за ваколіцамі Вільні, абяцаючы сваю дапамогу тамтэйшай залозе, калі б там актывізаваліся дзеянні літоўскіх войскаў[75].

Яшчэ на пачатку лета 1660 г. да гетмана Паўла Сапегі дайшоў ліст караля Яна Казіміра з інфармацыяй, што да караля прыбылі паслы Слонімскага павета. Яны заявілі пра вернасць каралю і Рэчы Паспалітай. Абяцалі таксама, што, калі толькі каралеўскія войскі ўвойдуць на іхнія землі, яны далучацца да іх. Падобныя заявы прыйшлі каралю ад шляхты Лідскага, Гарадзенскага і Ваўкавыскага паветаў. Удзячны кароль загадаў гетману, каб войскі, калі яны апынуцца на тэрыторыі гэтых паветаў, не лічылі тамтэйшых жыхароў здраднікамі, не прыціскалі, не знішчалі і не рабавалі. Кароль прасіў папярэдзіць войска, што яшчэ прыйдзе час на расправу са здраднікамі, але вялікая колькасць людзей надалей застаецца вернай каралю і, апынуўшыся пад маскоўскай няволяй, чакае ратунку і вызвалення[76].

Вядома і прозвішча аднаго з такіх здраднікаў-рабаўнікоў з Лідчыны, якім кароль абяцаў расправу пасля вайны - гэта Мікалай Няцецкі (сусед Рора, уладальнік Няцечы). Выкарыстоўваючы паўсюднае замяшанне, гэты чалавек займаўся звычайным бандытызмам і разбоем, прычым найбольш ахвотна рабаваў безабаронныя шляхецкія двары. Мікалай Няцецкі сабраў у Лідскім павеце ватагу бандытаў (у тым ліку і сялян) колькасцю каля 150 чалавек. На чале банды, на пачатку 1660 г., ён ішоў за маскоўскімі войскамі Хаванскага праз Лідскі і Гарадзенскі паветы і рабаваў вёскі і мястэчкі, у якіх нешта яшчэ засталося рабаваць пасля Хаванскага. Што цікава - падчас нападаў ягоныя людзі ўдавалі сабе за маскоўскіх жаўнераў і таму адмыслова гарлапанілі на вуліцах па-расейску! Скончыўшы свой рабаўніцкі рэйд, Мікалай Няцецкі частку здабычы падзяліў паміж сваімі людзьмі, а рэшту забраў сабе ў Няцеч. У 1660 г. Фердынанд Рор звярнуўся у суд з пратэстацыяй супраць бандыта і здрадніка, і праз нейкі час даказаў сваю правату[77].

Тут трэба расказаць усё, што я знайшоў пра Фердынанда Рора.

З вядомых гісторыкаў-генеолагаў, пра Фердынанда Рора пісаў толькі Урускі: *"Фердынанд Рор, троцкі падстолі і сумілішскі староста, электар 1669 г. ад Троцкага ваяводства"* [78]. У 1664 г. Фердынанд Рор займаў пасаду беліцкага старасты ў князя Багуслава Радзівіла[79]. У гістарычнай літаратуры можна знайсці фрагменты перапіскі на палітычныя тэмы паміж Рорам і князем Багуслава Радзівілам[80].

З Падымнага рэестра Віленскага ваяводства бачна, што Фердынанд Ян Рор у 1680 г. трымаў Няцечу ў Ельненскай парафіі каля Беліцы. Верагодна, атрымаў яе пасля таго, як у судзе даказаў віну Мікалая Няцецкага. Рор у 1666 г. з'яўляўся троцкім падстоліем, шмат гадоў спрачаўся з Уладзіславам Расахацкім за тытул

[69] У "Крестоприводной книге Великого Княжества Литовского 1655 г.", сярод шляхты Лідскага павета Фердынанда Рора няма, таму не зразумела, пра якую маскоўскую грамату ідзе размова.

[70] Магчыма, для навагрудца Маскевіча, "за Нёманам" - гэта на лідскім баку. Але ёсць меркаванні, што гэты бой адбыўся на поўдзень ад Нёмана.

[71] Кушалеў - з кастрычніка 1658 па сакавік 1659 г. - варонежскі ваявода. Гл: Списки городовых воевод и других лиц воеводского управления Московского государства XVII столетия. Москва, 2010. С. 67.

[72] Рэйтары (ням.: Reiter - "вершнік") - від наёмнай кавалерыі.

[73] Dyjariusz moskiewskiej wojny w Wielkim Ksiestwie bedacej i uspokojenie onej przez jw. jmp. Pawla Sapiehe wraz z jw. jmp. Czarnieckim wojewode ruskim nastapione. S. 203-205.

[74] Kossarzecki Krzysztof. Kampania roku 1660 na Litwie. Zabrze, 2005. S. 188.

[75] Касажэцкі Кшыштаф. Кампанія 1660 года ў Літве. 2011. С. 175.

[76] Касажэцкі Кшыштаф. Кампанія 1660 году ў Літве. С. 188.

[77] Касажэцкі Кшыштаф. Кампанія 1660 году ў Літве. С. 175.

[78] Rodzina. Herbarz szlachty polskiej Seweryna Uruskiego. Warszawa, 1931. T. XV. S. 248.

[79] Administracja i zycie codzienne w dobrach Radziwillow XVI-XVIII wieku. Pod redakcje Urszuli Augustyniak. Warszawa, 2009. S. 276.

[80] Andrzej B. Zakrzewski. Sejmiki Wielkiego Ksiestwa Litewskiego XVI-XVIII w. Warszawa, 2000. S. 105.; 124.

стольніка і ўжо як стольнік з 1691 г. фігуруе ў дакументах. Памёр Фердынанд Ян Рор каля 1698 г.[81]

Цікавую інфармацыю падаў адзін з апошніх уладальнікаў маёнтка Ішчалны Кароль Лясковіч. У маёнтку, да Другой сусветнай вайны, захоўваўся архіў, і сярод папер архіва мелася перапіска ўладальніка маёнтка Ішчалны Яна Паўпяты з сваім сябрам Фердынандам Рорам. Лясковіч - чалавек, які глыбока вывучаў гісторыю свайго маёнтка, у 1970-х гг. напісаў свае ўспаміны і прывёў толькі тую інфармацыю, якую яшчэ помніў. Вось што ён напісаў: *"Партызанскай барацьбой на Лідчыне кіраваў дзяржаўца Беліцы Фердынанд Рор, сардэчны сябар Яна Паўпяты. У архівах Ішчалны да 1939 г. захавалася вялікая перапіска паміж імі. Аддзел Рора вызначаўся вялікай рухомасцю. Маючы дакладную інфармацыю ад суайчыннікаў, Рор ведаў пра рух войск Хаванскага і бліскавічна мяняў свае месцы пастою. Маскалі былі бязлітаснымі. Яны не толькі зраўнялі з зямлёй Беліцу, але рабавалі і палілі маёнткі і вёскі, а насельніцтва забівалі. Бяда таму, хто не паспеў схавацца і на каго пала помста цара за непаслушэнства.*

*Трэба сказаць, што Рор плаціў той жа манетай. Захопленых маскалёў вешаў, садзіў на палю і, каб даведацца сакрэтаў, пытаў. Падобна, так жа караў і здраднікаў. Разам з Рорам быў яго верны сябар Ян Паўпята, рукі якога таксама маглі быць у крыві ворагаў. Магчыма, пры канцы жыцця гэта і прывяло яго да хрысціянскага пакаяння і пакоры.*

*У момант пахавання Паўпяты Ішчална знаходзілася ў руках ордэна босых кармелітаў, якія, як было вядома з судовага працэсу пляменнікаў памерлага Паўпяты з ордэнам кармелітаў, рэдагавалі яго тастамант*[82]*. Але няма ніякага сумневу, што пабожнае жаданне дабрадзея ордэна было скрупулёзна выканана.*

*Паўпяту пахавалі пад дзвярамі невялікага драўлянага касцёла* (Ішчалнянскага - *Л. Л.*). *Не вядома, ці ў XVIII ст. пры пабудове новага, мураванага і значна большага касцёла, знайшлі гэтую магілу? Калі знайшлі, дык што з ёй зрабілі? Пакінулі на старым месцы ці перанеслі, а калі перанеслі дык куды? Перанеслі ў піўніцу, пабудаваную пад новым алтаром, ці згодна з яго воляй: "Каб вернікі, ідучы на набажэнства, маю магілу таптталі нагамі" - пахавалі пад новым парогам? Старыя хронікі касцёла загінулі, а новыя пра тое маўчаць"* [83].

Як бачым, Паўпята і, магчыма, яго сябар Рор, як сапраўдныя хрысціяне, нават забойствы падчас вайны з бязлітасным ворагам не лічылі геройствам.

Людзі такога кшталту ў нашы часы ўжо не сустракаюцца.

Мне ўдалося знайсці прозвішчы толькі гэтых дваіх лідзян - герояў той вайны: Фердынанда Яна Рора і Яна Паўпяты. Але, дзякуй і за гэта.

18 чэрвеня 1660 г. вялізны корпус Івана Хаванскага быў разбіты пад Ляхавічамі. 28 чэрвеня аб'яднанае беларускае і польскае войска П. Сапегі і С. Чарнецкага каля мястэчка Палонка зноў разбіла расійскую армію Хаванскага. Пазней, 3 ліпеня, гэтае ж аб'яднанае войска вызваліла Менск і тэрыторыю Беларусі да ракі Беразіна. 8 кастрычніка 1660 г. беларускія і польскія войскі адбілі каля Чавусаў наступленне расійскай арміі і вымусілі яе адступіць да Смаленска.

1 лютага 1661 г. адбылося паўстанне ў Магілёве, гараджане вынішчылі 7-тысячны гарнізон расійскіх стральцоў, шмат жаўнераў і трох ваявод узялі ў палон. Пазней, у красавіку таго ж года, паўстанні ўспыхнулі ў Дзісне, Себяжы і Гомелі. 3 лістапада 1661 г. пацярпела паразу група расійскіх войск на чале з Хаванскім і Ардын-Нашчокіным пад Вільняй каля вёскі Кушлікі. На тры дні пазней войскі Вялікага Княства Літоўскага на чале з С. Чарнецкім разбілі каля Глыбокага расейцаў (больш за 18 000 чалавек) на чале з тым жа Іванам Хаванскім. 2 снежня войскі ВКЛ вызвалілі Вільню. Пасля гэтага варожыя бакі не мелі ні сіл, ні сродкаў для актыўнага працягу вайны. Але ўжо ў 1664 г. казацкія і расійскія войскі аблажылі гарады Пінск і Магілёў, і ў Магілёве быў спалены замак.

Пасля доўгіх перамоў 30 студзеня 1667 г. заключана Андрусаўскае перамір'е (вёска Андрусава на мяжы Мсціслаўскага і Смаленскага ваяводстваў). Мірныя перагаворы цягнуліся амаль што 4 гады. Дэлегацыю Расіі прадстаўляў пасол А. Ардын-Нашчокін, Рэчы Паспалітай - жамойцкі староста Ю. Глябовіч. Паміж бакамі адбылося 39 сустрэч.

Андрусаўскае перамір'е падпісана тэрмінам на 13,5 гадоў. Расія атрымала Смаленшчыну, Чарнігаўшчыну, Левабярэжную Украіну і Кіеў. Землі Беларускага Падзвіння, а гэта Віцебшчына, Полаччына, вярталіся ў склад Вялікага Княства Літоўскага. Тэрыторыя Княства паменшылася з 370 да 312 тысяч км$^2$.

Вайна мела драматычныя вынікі для нашай дзяржавы. Беларускія землі апынуліся ў стане экана-

[81] Metryka Litewska. Rejestry podymnego Welkiego Ksiestwa Litewskiego. Wojewodztwo wilenskie, 1690 r. Warszawa, 1989. S. 208.

[82] Кароль Лясковіч пісаў: *"Пасля шматгадовага знаходжання ў татарскай няволі вярнуліся дахаты два пляменнікі Паўпяты. Не мелі яны ўласнага маёнтка, бо, верагодна, ён пайшоў на выкуп з палону, і таму жылі ў сваякоў у Полацкім ваяводстве. Не пабаяліся яны ні праклёнаў памёршага дзядзькі, ні Страшнага суда і распачалі судовы працэс з кармелітамі. Абвінавацілі іх у тым, што тастамант быў адрэдагаваны і аблудным чынам падсунуты паміраючаму, а сведкі падкуплены. Не памятаю як ішоў працэс, але трыбунал прызнаў тастамант несапраўдным, і маёмасць перайшла да родных. Аднак браты не аселі ў Ішчалне, можа баяліся, што дух дзядзькі будзе ім помсціць, і прадалі маёмасць"*- Гл: Karol Laskowicz: (Kresowy dwor i jego sasiedzi). Opracowanie na podstawie wspomnien. // Biblioteka Zakladu Narodowego im. Ossolinskich we Wroclawiu, sygn. 15480/II. S. 8.

[83] Karol Laskowicz: (Kresowy dwor i jego sasiedzi). Opracowanie na podstawie wspomnien. // Biblioteka Zakladu Narodowego im. Ossolinskich we Wroclawiu, sygn. 15480/II. S. 165-166.

мічнай разрухі, колькасць насельніцтва скарацілася ў 2 разы, аслабла каралеўская ўлада, значна пашырыліся правы магнатаў. Дзяржава ўступіла ў паласу працяглага крызісу, з якога ўжо, не выйшла да канца свайго існавання. У 1696 г. была адменена дзяржаўнасць беларускай мовы.

Усё, што вядома пра Фердынанда Рора я падаў вышэй, а зараз, раскажу яшчэ пра некалькіх асоб той трагедыі.

Якуб Тэадор Кунцэвіч (1596-1666) - прадстаўнік літоўскага шляхецкага роду Кунцэвічаў герба "Лебедзь". Сын Мацея Кунцэвіча, уладальніка Ганушышак. Яму належалі Каняўскае і Дубіцкае старостывы ў Лідскім павеце (1627 г.)

У 1632 года Якуб Тэадор Кунцэвіч быў абраны паслом ад Лідскай зямлі на канвакацыйны сойм. У тым жа годзе на элекцыйным сойме падтрымаў кандыдатуру Уладзіслава IV Вазы на каралеўскі пасад. У 1639, 1646, 1649, 1652 і 1654 гг. Якуб Кунцэвіч абіраўся паслом на соймы.

Займаў шэраг дзяржаўных пасад у ВКЛ, у тым ліку пісара (1635-1638), харунжага (1638-1652) і падкаморыя (1652-1661) лідскага. У 1661 г. Якуб Тэадор Кунцэвіч быў прызначаны кашталянам менскім, 11 чэрвеня 1661 г. ён атрымаў пасаду кашталяна жамойцкага. У 1664 г. стаў ваяводам берасцейскім і сенатарам Рэчы Паспалітай.

Якуб Кунцэвіч быў тройчы жанаты. Яго першай жонкай стала Алена Сапега, дачка кухмістра вялікага літоўскага Мікалая Міхайлавіча Сапегі (памерла ў 1611 г.) і Багданы Масальскай, удавы каняўскага старасты Рамана Валовіча, ад шлюбу з якой не меў нашчадкаў. Другі раз ажаніўся з Альжбетай Сапегай, ад шлюбу з якой меў сына Яна Валяр'яна. У трэці раз ажаніўся з Феліцыянай Крысцінай Войнай, для якой у 1664 г. атрымаў права на сумеснае валоданне Каняўскім і Дубіцкі старостамі. У трэцім шлюбе меў сына Дамініка[84].

Цікавы лёс меў князь Іван Хаванскі, чалавек, які ў 1569 г. спаліў і разрабаваў Ліду і Лідчыну а потым, лапаючы Рора, рабіў гэта яшчэ некалькі разоў. Падчас Стралецкага бунту 1682 г. ён быў прызначаны царэўнай Соф'яй кіраваць стральцамі, якія выступілі на яе баку, аднак князь пачаў гуляць ва ўласную гульню і выкарыстоўваў сваю пасаду, каб цісн уць на ўрад. Гэты этап стралецкага бунту атрымаў назву "Хаванщчына". Пасля таго, як Соф'я і яе прыхільнікі выехалі з Масквы, Хаванскі прыбыў на перамовы з ёй у сяло Вааздзвіжанскае, дзе быў пакараны смерцю разам са сваім сынам князем Андрэем.

А сёння тая вайна намі цалкам забытая.

# *Дадаткі*

## 26 ноября (6 декабря). Статьи соглашения С.А. Урусова с Я. Кунцевичем и шляхтой при нем с последующими резолюциями царских властей[85].

*Перевод с полского писма з договорных статей, каковы дал боярин и воеводы княз Семен Ондреевичь Урусов с товарыщи шляхте трех поветов, которые ц. в-у (царскай вялікасці - Л. Л.) добили челом на вечное подданство.*

*1. В начале вера святая католическая римская чтоб не нарушена ни в чем пребывала, костелы и кляшторы[86] вцеле сохранены и духовные люди при маятностях, против строеней, мирским и законником записаные, ненарушено против крепостей своих пребывати имеют.*

*И всякой какова ни есть набоженства и веры люди християнские чтоб при вере своей и костелах пребывали.*

*Помета: По той статье в.г., е.ц. в-о (*цар *- Л. Л.) пожаловал, веры их ни в чом нарушить не велел, и духовенство их во всем против сей статьи быти попрежнему.*

*2. Волности шляхетцкие, которые кровью предков наших нажиты, как при королех, государех наших из давных времен нам додержаны были и вцеле пребывала.*

*3. Трибуналы, земства и городы в судах своих чтоб убавленья не имели, и тотчас суды градцкие для справедливости святой мочь свою взять против уставы правной имеют. А все записи и договоры чтоб в своей силе и всякие договорные крепости пребывать имеют.*

*Помета: По той статье ц. в-о пожаловал, велел бытии попрежнему.*

*4. Добра земские шляхетцкие чтоб вечно при дедичах пребывали. И жолнери станами и проходами по правом нашим не отягощали.*

*Помета: По той статье ц. в-о пожаловал, велел быти по их правам.*

*5. Добра королевские и Речи Посполитой чтоб при всех владетелях нынешних пребывали, опричь тех, которые бы, от нас отступя, иного государя обрали.*

*6. Войску княжства Литовского заплата во всем по извычаю плачена была тем, которые при нас пре-бывать и единого государя имети будут.*

*Помета на полях л. 2: На воско збирать поборы против прежнего, как было при королех.*

*7. Части земель, чрез войну от нас оторваные,*

---

[84] Wasilewski Tadeusz. Jakub Teodor Kuncewicz // Polski Slownik Biograficzny, 1971, T. XVI. S. 180-181.

[85] Заборовский Л. В. Великое княжество Литовское и Россия во время польского Потопа (1655- 1656 гг.): Документы, исследование. Москва, 1994. С. 103-106.

[86] Маюцца на ўвазе не толькі рыма-каталіцкія касцёлы і кляштары, але і грэка-каталіцкія - *Л. Л.*

*как княжство Жемоитцкое, земля Инфлянская, повет Вилкомирский, Упитцкий и Брясловский, и иные воеводства, которые при предках наших до княжства належали, чтоб привращены были.*

*Помета на полях: Ц. в-о идет сам, а они б, служа в. г-ю, оных земель людей презывали под ц. в-а высокую руку и государским жалованьем обнадеживали.*

*8. Оборону крепкую и надежную от короля свейскиго чтоб есмя имети могли и от иных всех посторонних неприятелей.*

*Помета на полях: Ц. в-о идет сам, а вы подите на-встречу.*

*9. Достоинства, чести, уряды, чтоб при тех же людех были, которые ныне суть в державе их, и на пришлые времена чтоб народу нашего людем роздавано было.*

*Помета на полях: Тому быть.*

*10. Сойм всяким чином Великого княжства Литовского чтоб на подлинном месте был сложен, на котором бы ново доброволне обрайном государю права свои до подтвержения дали. И по извычкю предков наших в обираньи княжат литовских строение с приналежным действом сохранили.*

*11. Шляхта, жители княжства Литовского, братья наша, которые ныне за границу княжства Литовского до Коруны Полской выехали, а на тот Сойм нам сложенью естли бы возвратитися назад не хотели, тогда их маятности людем народу нашего вечно розданы быти имеют. А ныне до того времени сродники их тут остались, ими заведывали и пожитки из них имели.*

*Помета на полях: Той статье быть так, а срод-ником до сойму не роздавать.*

*12. Для надежные обороны от небезстрашия наступаючого, которое очима быти видим, чтоб как скорее на границы княжства Литовского от Коруны, Жмойди и Инфлянт замки, места на местах, пристойных и оберегателных до обороны, укреплены были арматою и людми добре обереженые. Откуду бы мы имели надежу обороны безстрашия своего.*

*Помета на полях: Городы и всякие крепости в городех делать тутошними и уездными людми и те места оберегать.*

*13. Вязнев всех, которые ни есть в неволю забраные, волно освободить и чтоб до своих маятностей приворочены были, а с нами заодно сызново обраново тешились государя.*

*Помета на полях: О той статье ц. в-а указ будет с сойма, а иные многие и отпущены.*

*14. Их милость Панове жители воеводства Полотцкого, воеводства Минского, Мстиславского, Витебского и иных розных завоеваных поветов, которые бы ни есть оттуды, додерживая веры и правды королю, государю своему, или войску е. к-й м-и, или где ни есть на розных местех, сохраняючи здоровья свои мешкали, и чтобы до маятностей своих поворочены были, хотя бы кому иному отданы были, чтоб ис родичства своего кожной радовался и новому государю верно за то служил.*

*15. Жители княжства Литовского, что за границею в Коруне имели свои державы, також против советства кождому жителей корунных здесь в ВКЛ, волно было маятности добывать. Для того ж ныне за отменою счастья военного которой бы ни есть из жителей ВКЛ или корунных похотер либо до княжства Литовского или ис княжства Литовского переносщца до Коруны, чтоб ему волно было там заставать, допродавши маятности свои, где захочет. В то время имеет обрать себе, государя и при его воли заставать имеет быть. Понеже все углы и стены Речи Посполитой ровно наступило несчастье, един другово потом ни в чем обидеть не имеет.*

*А естли бы при княжстве Литовском осталый имел быти обижен, ис позосталых добр после тех, которые при Коруце суть пребывают, Задание. А естли бы тех Добр не заставало, тогда из добр королевских.*

*Помета на полях: Той статье не быть.*

*16. На тех, которых добра во время войны нынешней огнем в попел обращены, просить чтоб особное призрение е.ц.м. имети изволил. И дотуду покамест до своих счастей придут, чтоб хлеба прокормления иметь могли.*

*17. Также татаров и жиды чтоб против прав старожитных данных были попрежнему.*

*Подпис руки князя Урусова словенским языком тою речью.*

*164-го году ноября в 26-й ден били челом в. г-ю... а е.ц.в-а боярину и воеводам князю Семену Ондреевичю Урусову с товарыщи полковник Якуб Федор Кунцевичь со многим рыцерством и шляхтою трех поветов и иных многих поветов в подданстве у свейского короля быти не хотят, а похотели быть в. г-я, е.ц. в-а под высокою рукою.*

*А о сем у них ц. в-а милость объявляем, чтоб вер их, и прав, и волностей ни в чем нарушить не вилит. А мещаном и приезжим людем к домовствам своим, и татаром, и жидом ц. в-у дани, и оброки, и всякие подати платить так давать, как они плотили полскому королю. А о полоняниках полковнику Якубу Федору Кунцевичю вилит бить челом г-ю, е.ц. в-у.*

*Боярин и воевода княз Семен Ондреевич Урусов.*

*Тех договорных статей, от князя Урусова подпи-саных, чтоб поверили, что есть слово в слово переписано правдиве, рукою моею подписываю.*

*Якуб Федор Кунцевич подкоморей литцкий, полковник е.ц. в-а милости, г-я м. м-го нижайшее подножие рукою.*

*Адам Нарбут рукою.*
*Касимец Каминский рукою.*
*Миколай Янжиць.*
*Адам Бобровичь.*
*Казимер Рослевичь.*
*Якуб Пентковичь.*

Яраслаў Куркоўскі

# Піяры ў Воранаве і Лідзе (1735 - 1845)

*(Заканчэнне. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

## Дадатак № 1

### Успаміны Дома лідскіх піяраў. Напісаў кс. Вайшвіла, апошні рэктар лідскіх піяраў, *рукапіс б. Асалінскіх 3667/III (mf BN nr 8804)* [1]

*У ніжэй пададзеным фрагменце аўтар апісвае арганізацыю школы і навучання ў звычайным піярскім асяродку Літоўскай правінцыі:*

“Дом школы быў драўляны, як і ўсе тутэйшыя пабудовы, і дастатковы па памерах, каб прыняць усіх вучняў. Адзіныя ўваходныя дзверы былі павернуты да калегіюма[2], каб прэфект і настаўнікі праз свае вокны маглі бачыць усіх тых, хто выходзіць і ўваходзіць. Праз тыя дзверы школы вучні ўваходзілі ў вялікія сені, якія зваліся калідорам і які займаў усю даўжыню школы. Такое памяшканне было патрэбна, бо тут збіралася ўся школа і месцічы падчас публічных выступаў, тут агалашаліся распараджэнні, датычныя вучняў, пасля штогадовых экзаменаў, перад ад'ездам вучняў дахаты, тут нават ставіліся тэатральныя пастаноўкі. З калідора меліся ўваходы ў класы, якіх было два - у адным і другім канцы дома, падзеленыя сярэдняй сцяной. У класах стаялі простыя лавы, а насупраць уваходных дзвярэй мелася драўляная кафедра настаўніка. Толькі ў адным класе над кафедрай вісеў абраз Найсвяцейшай Панны Ласкавай - ён быў адзінай аздобай школы.

Дамкі ў горадзе, якія здымалі вучні, былі зручныя, аднаасобныя, стаялі ўдалечыні ад мітусні і непрыстойных месцаў, якія маглі стаць перашкодай у навуках; у гэтых дамах больш не было дазволена жыць нікому акрамя гаспадароў, а наведаць іх маглі толькі бацькі ці сваякі вучняў, іншыя - толькі, калі мелі ў гэтым пільную патрэбу. Школьнае кіраўніцтва назірала, каб у пакоях падтрымлівалася чысціня і парадак; каб не было нічога, што магло нанесці шкоду здароўю або пагражаць добрым норавам.

У кожным доме былі прызначаныя прэфектам, так званыя дырэктары - старэйшыя дома і настаўнік - бліжэйшы дазорца, пад наглядам і вартай якога знаходзіліся ўсе тутэйшыя вучні. Дырэктар сам быў вучнем вышэйшага класа; права кіраўніцтва малодшымі ён атрымліваў праз поспехі ў навуках і добрыя паводзіны. Яму належала берагчы вучняў, як зрэнку вока; трымаць іх у межах правіл, спіс якіх, зацверджаны прэфектам, заўсёды знаходзіўся перад вачыма, бо вісеў на сцяне ў пакоі вучня. Таксама старэйшы тлумачыў і паўтараў з малодшымі новыя лекцыі, навучаў і выхоўваў іх у дабрыні, бараніў ад ўсяго дрэннага і хібнага, прывіваў прынцыпы рэлігіі і маралі, старшынстваваў у хатніх набажэнствах, суправаджаў малодшых у касцёл і школу і на адваротным шляху, адказваў за ўсе іх правіны. Кіраўнік школы старанна назіраў за тым, каб усё дакладна і строга выконвалася, часта наведваў вучняў і сачыў, каб усё было добра.

Без пісьмовага дазволу ніводнаму вучню не дазвалялася выходзіць з дома, дзе ён жыў нават для сустрэчы з іншымі вучнямі, жыўшымі ў самых блізкіх дамах; у выпадку супольнай прагулкі вучняў за горад патрэбны быў дазвол прэфекта, тады з вучнямі ішоў сам прэфект ці хтосьці з настаўнікаў.

Расклад часу на працягу дня вісеў у жытле кожнага з вучняў на сцяне, расклад наступны:

6-00, раніца. Пад'ём, малітва, паўтор навук, сняданак.

7-00. Імша, пасля яе адразу ў клас.

8-00 - 10-00. Заняткі. Пасля заняткаў вяртанне дахаты, падрыхтоўка да заняткаў.

12-00. Абед, пасля абеду кароткі адпачынак і паўтор урокаў.

2-00 - 4-00. Заняткі. Пасля заняткаў вяртанне дахаты і паўтор урокаў. Падвячорак, падрыхтоўка да заняткаў.

7-00. Вячэра, пасля вячэры кароткі адпачынак, падрыхтоўка да заняткаў.

9-00. Пасля малітвы - адпачынак.

Аўторкамі і чацвяргамі, у другой палове дня, заняткаў у школе не было. Замест гэтага вучні паўтаралі навукі ў сябе на кватэры, займаліся пісьмом, рыхтавалі практыкаванні, разам гулялі на школьным двары і пры тым заўсёды знаходзіліся пад наглядам прэфекта, настаўнікаў і дырэктараў.

З першым званком, за палову гадзіны на пачатку заняткаў, у свае класы прыходзілі ўсе вучні, каб здаць аўдытарам тое, што было зададзена раней. Аўдытары, разам з выбранымі імі сябрамі выслухоўвалі адказы вучняў і запісвалі ў так званую "эрату", якую аўдытар

[1] Wspomnienie Domku Pijarow Lidzkich. Napisal Ks. Jozafat Wojszwillo Ostatni Rektor Pijarow Lidzkich, rkps B. Ossolinskich // Z dziejow ziemi lidzkiej. Warszwa, 1997. S. 88-92.

[2] Зараз гэта адміністрацыйны будынак царквы.

павінен мець і ўпісваць туды ўласнай рукой лепшага вучня, так званага імператара. Меліся і аўдытары аўдытараў, якія ў сваю чаргу выслухвалі гэтых абраных. Усе ўзроўні набываліся вучнямі добрай працай і поспехамі ў навуках.

Тых, хто адказваў добра, ў "эраце" пазначалі "si", што значыла "зух" ці "умее", тых, хто дэманстраваў дрэнныя веды, пазначалі літарамі "nb", г.з. "non bene" - “нядобра”. Тых, хто не мог пераказаць матэрыял ці нават не чытаў яго, пазначалі "nr" - non recitavit, што значыла - “не падрыхтаваўся”. Тых, хто нічога не вывучыў, пазначалі літарамі "ns" - nescit, "не ведае". Тых жа, хто наогул не прыйшоў ці спазніўся, пазначалі "0". Такім чынам адным поглядам на "эрату" было бачна стаpанне або нядбайнасць дзяцей.

Настаўнік, прыйшоўшы ў клас, кленчыў на найніжэйшую прыступку перад кафедрай і пачынаў малітву: *"Veni Sancte Spiritus!"* [3] якую потым прамаўлялі вучні: *"Repie tuorum corda fidelium, et tui amoris ignem in eis accende"*. Потым настаўнік: *"Emitte Spiritum tuum et creabuntur"*. Вучні: *"Et renovabis faciem terrae"*. Настаўнік: *"Oremus. Deus, qui corda fidelium Sancti Spiritus illustratione docuisti. Da nobis in eodem Spiritu recta sapere, et de eius semper consolatione gaudere. Per Dominum nostrum Iesum Christum Filium tuum, qui tecum vi vit et regnat in unitate eiusdem Spiritus Sancti Deus per omnia saecula saeculorum"*. Вучні: *"Амен"*. Потым ўсе разам *"Sub tuum praesidium confugimus sancta Dei Genetrix! Nostras deprecationes ne despicias in necessitatibus, sed a periculis cunctis libera nos semper, Virgo gloriosa et benedicta"* [4].

Пасля гэтай малітвы настаўнік займаў месца на кафедры і праглядаў "эраты", пільных вучняў заахвочваў добрым словам, а дрэнных па-бацькоўску павучаў і ўжываў сродкі, якія схілялі да выпраўлення. Настаўнікі ў класах не аб'мяжоўваліся выкладаннем сваіх прадметаў і тлумачэннем іх, але моцна імкнуліся ўшляхетніць сэрца, натхніць да сапраўднай пабожнасці, любові, рэлігіі і цноты, каб выхаваць жывых членаў Касцёла і гонар грамадства. Праца гэта была няспынная, забірала ўвесь час, які нельга марнаваць у справе выхавання. Ведалі, як рабіць гэта пры выкладанні асобных навук, рабілі гэта нават у гадзіны забаў і адпачынку, выхоўвалі пры кожнай справе, карыстаючыся ёй на дабро вучням. Словам, старанна і безупынна пераўтваралі дзетак у добрых анёлкаў. Такія былі намеры, такая мэта, такі дух, такое прызначэнне пабожных школ пры ордане Св. Юзафа Каласантага.

Першынство ў класе можна было атрымаць толькі праз школьныя заслугі, гэта значыць, за добрыя паводзіны і добрыя поспехі ў навуках. Нічога іншага не ўлічвалася. Сірата, які жыў з жабрацтва і апранаўся ў зашмальцаваны капот, куртачку ці бякешу, альбо шарачковы шляхціц, калі добра вучыліся і паводзілі сябе, займалі першае месца ў класе, а бліскучы і вышчаны паніч - апошняе, калі ён не быў годны больш вышэйшага праз сваю маральнасць і поступ у навуках.

Імператар і аўдытары мяняліся штомесяц, каб ніхто не быў па-за гэтай добрай сістэмай. Кожны мог заняць кантралюючую пасаду і той, які сёння кантраляваў, заўтра сам быў кантраляваны. Таму пагроза страціць сваю ступень была пільным стымулам да вучэння, да пастаяннай асцярожнасці, каб не сапсаваць меркаванне пра сябе. Сярод вучняў нават былі такія, якія жадалі сапхнуць вучняў з вышэйшым узроўнем, каб адпомсціць. З часам яны так захапляліся спаборніцтвам, што значна паляпшалі свае вынікі.

У класе і касцёле панавала ціша, вучні паводзілі сабе спакойна і сціпла, і самы малы праступак адмыслова цэнзар заносіў у сшытак і перадаваўся прэфекту ці настаўніку. Таму парушальніка не абмінала кара, адпаведная правапарушэнню, і такім чынам падтрымлівалася строгая дысцыпліна і прыстойны парадак.

Лекцыя пачыналася і заканчвалася з малітвай. Калі школьны званок адзначаў канец заняткаў, настаўнік выходзіў з-за кафедры, кленчыў там, дзе рабіў гэта перад пачаткам лекцыі, і казаў: *"Tu autem Domine miserere nobis"*, вучні адказвалі: *"Deo gratias"*. Потым настаўнік: *"Oremus. Animus tibi gratias Omnipotens Deus pro universis beneficiis tuis. Qui vivis et regnas cum Deo Patre in Unitate Spiritus Sancti Deus, per omnia saecula saeculorom"*. Вучні: *"Amen"*. Настаўнік: *"Benedicamus Domino"*. Вучні: *"Deo gratias"*. Настаўнік: *"Et fidelium animae per misericordiam Dei requiescant in pace"*. Вучні: *"Amen"*. Усе разам: *"Sub tuum praesidium..."* [5]. Пасля чаго вучні парамі выходзілі са школы разам з настаўнікам, які праводзіўшы іх, вяртаўся дадому.

---

[3] *"Прыйдзі, Дух Святы!"*. - лац.

[4] *"O lux eatissima, reple cordis intima tuorum fidelium"* - “О блажэннае Святло нябёсаў, напаўняй сэрца Тваіх верных прыхільнікаў; *"Et tui amoris ignem in eis accende"* - і запалі ў іх агонь Тваёй любові; *"Emitte Spiritum tuum et creabuntur"* - Пусці ў сябе стваральчы дух; *"Et renovabis faciem terrae"* - Ты абнаўляеш твар зямлі; *"Oremus. Deus, qui corda fidelium Sancti Spiritus illustratione docuisti. Da nobis in eodem Spiritu recta sapere, et de eius semper consolatione gaudere. Per Dominum nostrum Iesum Christum Filium tuum, qui tecum vi vit et regnat in unitate eiusdem Spiritus Sancti Deus per omnia saecula saeculorum"* - Памолімся. Божа, Святым Тваім Духам Ты напоўніў ўсіх вернікаў; Тым самым Духам даруй нам пазнанне ісціны і вечнае ў ёй суцяшэнне. Праз Госпада нашага, Твайго Сына, Госпада нашага Ісуса Хрыста, Які валадарыць з разам і адначасна з Табой, і сілай Святога Духа, Бог, на вякі вякоў; *"Sub tuum praesidium confugimus sancta Dei Genetrix! Nostras deprecationes ne despicias in necessitatibus, sed a periculis cunctis libera nos semper, Virgo gloriosa et benedicta"* - Пад апеку Тваёй міласэрнасці / Мы звярнуліся, Багародзіца. /Ня адхілі нашы просьбы, / Якія Табе прыносім/ У сваіх патрэбах, але выратуй нас ад небяспекі, [Ты] адзіная чыстая і дабраславёная”. - *лац.*

[5] *"Tu autem Domine miserere nobis"* - “Госпадзе, памілуй нас; *"Deo gratias"* - Хвала ўсявышняму; : *"Oremus. Animus tibi gratias Omnipotens Deus pro universis beneficiis tuis. Qui vivis et r?gnas cum Deo Patre in Unitate Spiritus Sancti Deus, per omnia saecula saeculorom"* - Памолімся. Падзякуем Усемагутнаму Богу, за ўсе яго дабрадзействы. Ён жывы і валадарыць з Богам Айцом у адзінстве Духа Святога, Бога, на вякі вякоў; , *"Benedicamus Domino"* - Дабраславім Госпада; *"Deo gratias"* - Падзякуем Госпаду; *"Et fidelium animae per misericordiam Dei requiescant in pace"* - Хай душы верных з ласкі Госпада спачываюць у міры; *"Sub tuum praesidium..."* - Пад абаронай”. - *лац.*

Апісаў толькі пачатак і канец урока але і падчас урока рабіліся набажэнствы і малітвы, гэта паказвае, што ў гэтых школах усё пачыналася, рабілася і заканчвалася ў імя Бога і для яго святой хвалы.

Катэхізатар працаваў, каб моцна прывіць рэлігійныя законы, схіліць да таго, каб вучні іх палюбілі і да смерці жылі згодна з гэтымі дабраславёнымі законамі Хрыста і яго Касцёла. Такім чынам, праз нябесную навуку рабіліся намаганні, каб вучні былі жыхарамі нябёсаў і таму выраслі самымі высакароднымі і карыснымі членамі грамадскасці - менавіта такімі станавіліся добрыя вучні і вызнаўцы Хрыста.

Было 4 класы, кожны клас меў толькі аднаго настаўніка, назвы браліся ад выкладанага прадмету. І так: пачатковы, ці 1 клас называўся "Infima" [6], 2-гі - "Gramatyka", 3-ці - "Poezja", 4-ты - "Retoryka". Ва ўсіх класах выкладанне было на лаціне, толькі тлумачэнні рабіліся на роднай мове, для чаго сэнс навук перакладаўся з лаціны, у старэйшых класах вучні ўжо пісалі на лаціне складаныя тэксты. Для таго і маліліся на лаціне - старэйшыя ўжо разумелі, а малодшыя вучылі мову.

Былі нават уведзены ўзоры вусных лацінскіх размоў у хаце і школе, узоры называліся "Quid est dictum?" [7]. Яны вымагалі паўтарэння таго, што прамаўлялася, гэта добра стымулявала ўвагу вучняў і прыносіла свой плён.

Экзамены адбываліся пры канцы кожнага месяца, іх ўзначальваў рэктар, на экзаменах вызначаўся прагрэс вучняў у навуках. Штогадовы ж экзамен рабіўся ў прысутнасці грамадства перад ад'ездам на летні адпачынак.

Усе вучні штодзённа слухалі святую імшу, стоячы на каленях, уставалі толькі на Евангелле, а ў нядзелі і па святах слухалі дзве імшы, казанні і катэхізмы. У касцёл уваходзілі парамі, кожны стаяў на сваім месцы, укленчваў у гонар Збаўцы падчас Найсвяцейшых сакрамантаў, а потым уставаў. Ніжэйшыя класы стаялі бліжэй да ўвахода, а вышэйшыя далей. Усе сціпла чакалі выхад каплана і імшу. Перад імшой прэфект ці настаўнік - старшы ў касцёле, пачынаў: *"Tantum ergo Sacramentum"* [8]. Пры гэтым усе вучні падалі на калені і схіляліся перад Найвышэйшым Сакрамантам і прамаўлялі гэты гімн. Потым старэйшы казаў: *"Panem de coelo praestitisti eis"* [9]. Вучні: *"Omne delectamentum in se habentem"* [10]. Старэйшы: *"Oremus. Deus, qui nobis sub sacramento mirabili passionis tuae memoriam reliquisti ..."* [11]. Вучні: *"Amen"*. Потым слухалі святую імшу, кожны, пабожна молячыся па кніжцы. Пасля імшы старшы казаў: *"Tu autem Domine miserere nobis"* [12], - і заканчваў набажэнства той самай малітвай разам з вучнямі, як і пасля заняткаў у школе. Пасля малітвы вучні ўставалі і парамі выходзілі з касцёла прама ў класы, першымі ішлі пачатковыя класы, за імі старэйшыя. Споведзі былі штомесяц, а перад Вялікаднем некалькі дзён адбываліся рэкалекцыі.

Пры школе мелася касцельнае брацтва Найсвяцейшай Панны Ласкавай вядомае пад назвай садалістаў[13]; усе вучні лічылі для сябе гонарам быць імі. Абавязкам было адпраўляць малое набажэнства Н. Панны (Officium parvum) і выконваць міласэрныя ўчынкі, практыкавацца ў пабожнасці. Паміж сабой выбіралі прэфекта, віца-прэфекта і тых, хто апекаваўся хворымі. Прэфект падчас урачыстасці Н.П. Ласкавай у касцёле, са святочна ўбранай малой кафедры казаў на памяць прамову, якую звычайна пісаў ці правіў настаўнік рыторыкі, і пасля няшпараў[14] запрашаў на святочны сход вучняў і знакамітых садалістаў. Бацькі лічылі за гонар, калі гэта быў іх сын.

Садалісты ў нядзелю і на свята спявалі ў касцёле пра Н. Панну, у вольны час - і ў школе, асобна старэйшы клас і асобна малодшы. Гэтыя два адзелы, ці, дакладней, два набажэнствы, мелі розныя назвы: першы называўся "большая малітоўня" (oratorium maius), а другі - "меншая малітоўня" (oratorium minus). Настаўнік, які ўзначальваў першую, называўся "старшынём большай малітоўні" (Praeses oratorii maioris), а другі - "старшыня меншай малітоўні" (Praeses oratorii minoris). Кожны з іх выдаваў і падпісваў патэнты садалістаў.

Увесну, калі станавілася цёпла, у кожную сераду ажно да вакацый, пасля паўднёвай лекцыі ўсе садалісты ў касцёле, укленчыўшы перад алтаром Н.П. Ласкавай, спявалі літаніі да яе, а пры канцы *"Sub tuum praesidium confugimu ..."* [15] і

*"Deus aeterne! Unus aeterne!*
*Indignas nostras preces non sperne!"* [16]

Я пералічыў толькі выхаванне і навучанне школьнай моладзі, а таксама набажэнствы з духоўным выхаваннем, добра знаёмыя вучням піяраў, якія яшчэ жывуць. Іх жывое сведчанне не падлягае сумневу, і кожны можа галасна пацвердзіць, што ўсё вышэйнапісанае - праўда.

*Дадатак № 1 пераклаў і пракаментаваў*
***Леанід Лаўрэш.***

[6] Ніжэйшы, *лац.*

[7] *"Quid est dictum?"* - Што гэта такое. - *лац.*

[8] *"Tantum ergo Sacramentum"* - Гэта святая тайна - *лац.*, гімн які выконваецца перад "Святымі Дарамі".

[9] *"Panem de coelo praestitisti eis"* - Ты даў нам хлеб нябесны" - лац.

[10] *"Omne delectamentum in se habentem"* - Які змяшчае ў сябе ўсю радасць - *лац.*

[11] *"Oremus. Deus, qui nobis sub sacramento mirabili passionis tuae memoriam reliquisti ..."* - Памолімся. Божа, які пакінуў нам у незвычайным сакраманце ўспамін ... - *лац.*

[12] *"Tu autem Domine miserere nobis"* - Госпадзе, памілуй нас - *лац.*

[13] Каталіцкае таварыства свецкіх людзей.

[14] Няшпары - чытанні малітваў нараспеў.

[15] *"Sub tuum praesidium confugimu ..."* - О, блажэннае Святло нябёсаў ... - *лац.*

[16] *"Deus aeterne! Unus aeterne! Indignas nostras preces non sperne!"* - Адвечны Бог, адзіны несмяротны, не пагарджай малітвамі вернікаў! - *лац.*

## Дадатак № 2

### Персанальны склад грамады[195]

### Веранова

**1736/37**

1. Ян Багуцкі - начальнік;
2. Тодар Баркоўскі - адміністратар парафіі, настаўнік.

**1737/38**

1. Ян Багуцкі - начальнік;
2. Багуслаў Заблоцкі - місіянер у Талочыне;
3. Канстанты Чарнецкі - вышэйшыя класы, дэпазітар;
4. Зыгмунт Азямблоўскі - місіянер у Геранёнах;
5. Войцех Скаўронскі - місіянер у Геранёнах;
6. Тодар Баркоўскі - пачатковы клас.

**1738/39**

1. Ян Багуцкі - начальнік;
2. Багуслаў Заблоцкі - місіянер у Талочыне;
3. Канстанты Чарнецкі - місіянер у Геранёнах;
4. Марцалін Дубоўскі (Дамбоўскі) - паэзія, рахунказвод;
5. Хрыстафор Шымак - рыторыка, дэпазітар;
6. Зыгмунт Апольскі - граматыка;
7. кл. Ваўрынец Чагялевіч (Чахялевіч) - пачатковы клас.

**1739/40**

1. Ян Багуцкі - начальнік;
2. Юлій Юзаф Галавач (Гловач);
3. Канстанты Чарнецкі - місіянер у Геранёнах;
4. Хрыстафор Шымак - вышэйшыя класы;
5. Тодар Чарневіч;
6. Зыгмунт Апольскі - місіянер у Геранёнах;
7. кл. Стэфан Ваўрынскі - пачатковы клас.

**1740/41**

1. Ян Багуцкі - начальнік;
2. Кірыл Вяльгош - віца-старшыня, рахунказвод, архівіст;
3. Алексы Аўсяны - прэфект, вышэйшыя класы, дэпазітар
4. Канстанты Чарнецкі - місіянер у Геранёнах;
5. Якуб Фэкеле - місіянер у Геранёнах;
6. Тодар Чарневіч - ніжэйшыя класы.

**1741/42**

1. Ян Багуцкі - начальнік;
2. Генрых Шачынскі - віца-начальнік, дарадца Дома, дэпазітар;
3. Канстанты Чарнецкі - місіянер у Геранёнах;
4. Якуб Фэкеле - місіянер у Геранёнах;
5. Кароль Седлікоўскі;
6. Эразм Іздэбскі - прэфект, паэзія, рыторыка, гісторык Дома;
7. кл. Якуб Фішар - граматыка, ніжэйшыя класы;
8. бр. Матэвуш Макаўчык.

**1742/43**

1. Гіпаліт Жагліцкі - рэктар;
2. Марцалін Дубоўскі (Дамбоўскі) - віца-рэктар, дарадца Дома, старшыня будаўніцтва касцёла;
3. Якуб Фэкеле - місіянер у Геранёнах;
4. Леапольд Лігенжынскі - місіянер у Геранёнах;
5. Кароль Седлікоўскі - гісторык Дома, рахунказвод;
6. Эразм Іздэбскі - прэфект, паэзія, рыторыка;
7. кл. Ануфры Вайлкоўскі - пачатковае навучанне;
8. бр. Матэвуш Макаўчык.

**1743/44**

1. Гіпаліт Жагліцкі - рэктар;
2. Генрык Шачынскі - віца-рэктар, дарадца Дома, прэфект;
3. Якуб Фэкеле - місіянер у Геранёнах;
4. Каспер Трашчкоўскі (Тшашчкоўскі);
5. Геранім Мадзялеўскі - дарадца Дома, дэпазітар;
6. Інакенты Банеўскі - паэзія, рыторыка, рахунказвод;
7. Ануфры Вайлкоўскі - граматыка;
8. Цыпрыян Станкевіч - місіянер у Геранёнах;
9. кл. Дамінік Анцэвіч - пачатковае навучанне;
10. бр. Матэвуш Макаўчык;
11. бр. Ян Канты Францэвіч.

**1744/45**

1. Гіпаліт Жагліцкі - рэктар;
2. Генрык Шачынскі - віца-рэктар, дарадца Дома, адказны за выдаткі;
3. Якуб Фэкеле - місіянер у Геранёнах, дарадца Дома;
4. Хрызолаг Ляневіч, місіянер у Геранёнах;
5. Геранім Мадзялеўскі - прэфект, рахунказвод, архівіст;
6. Алексы Палашэўскі - паэзія, рыторыка, гісторык Дома, дэпазітар;
7. кл. Стэфан Ваўжынскі - граматыка;
8. кл. Стэфан Гансеўскі - пачатковы клас;
9. бр. Антоні Лукашэвіч;
10. бр. Рафал Каменскі.

**1745/46**

1. Гардыян Войцех Скаўронскі - рэктар;
2. Гіпаліт Жагліцкі - віца-рэктар, дарадца Дома, прафесар маральнай тэалогіі, адказны за выдаткі, архівіст;
3. Францішак Павельскі - місіянер у Геранёнах;
4. Хрызолаг Ляневіч - місіянер у Геранёнах;
5. Геранім Мадзялеўскі - дарадца Дома, прэфект, рахунказвод, паэзія, рыторыка;
6. Міхал Шалюта - ніжэйшыя класы;
7. Ігнацы Сабанскі - дэпазітар, гісторык Дома, вучань маральнай тэалогіі;

[195] Апрацавана на падставе рукапісу B. Ossol. 3667/III (mf BN nr 8804), s. 167-192; матэрыялаў Хмая (CH-47) з архіва ПАН у Варшаве; *Dziejow obrad domowych*, Арх. поль. прав. піяраў у Кракаве, sygn. Col. Lid. 1; *Raportow*... Фармаванне не звыклых рэлігійных і духоўных функцый. Скарачэнні: kl - клерык, br - брат. Астатнія манахі мелі капланскае пасвячэнне.

8. кл. Людвік Заборскі - вучань маральнай тэалогіі;
9. кл. Стэфан Гансеўскі - вучань маральнай тэалогіі;
10. кл. Ян Вогель - вучань маральнай тэалогіі;
11. бр. Антоні Лукашэвіч;
12. бр. Рафал Каменскі.

**1746/47**

1. Гардыян Войцех Скаўронскі - рэктар;
2. Гіпаліт Жагліцкі - віца-рэктар, дарадца Дома, прафесар маральнай тэалогіі, адказны за выдаткі, архівіст;
3. Францішак Павельскі - місіянер у Геранёнах, дарадца Дома;
4. Эўстахі Мічунскі - рахункавод;
5. Яцак Залескі - прэфект, вышэйшыя класы, гісторык Дома;
6. Антоні Астроўскі - вучань маральнай тэалогіі;
7. кл. Ксаверы Гэйкінг - вучань маральнай тэалогіі;
8. кл. Дамінік Анцэвіч - вучань маральнай тэалогіі;
9. кл. Стэфан Гансеўскі - вучань маральнай тэалогіі;
10. кл. Уладзіслаў Швяйкоўскі - вучань маральнай тэалогіі;
11. бр. Антоні Лукашэвіч;
12. бр. Рафал Каменскі.

**1747/48**

1. Гардыян Войцех Скаўронскі - рэктар;
2. Гіпаліт Жагліцкі - віца-рэктар, дарадца Дома, гісторык Дома, архівіст;
3. Мікалай Брадоўскі - дарадца Дома, дэпазітар;
4. Яцак Залескі - прэфект, вышэйшыя класы;
5. Францішак Павельскі - місіянер у Геранёнах;
6. Кірыл Вяльгош - місіянер у Геранёнах;
7. Зыгмунт Азямблоўскі;
8. Эўстацы Куроўскі - прафесар маральнай тэалогіі, рахункавод;
9. Ануфры Вайкоўскі - вучань маральнай тэалогіі;
10. Антоні Астроўскі - вучань маральнай тэалогіі;
11. кл. Аўгустын Петрусевіч - вучань маральнай тэалогіі;
12. кл. Антоні Кломфас - вучань маральнай тэалогіі;
13. кл. Ян Вогель - ніжэйшыя класы;
14. бр. Ян Канты Францэвіч.

**1748/49**

1. Леан Людвік Галавінскі - рэктар;
2. Клеменс Галавінскі - асістэнт правінцыі, прафесар святой тэалогіі, дарадца Дома, дэпазітар;
3. Гіпаліт Прыбылецкі (Пшыбылецкі) - дарадца правінцыі, віца-рэктар, архівіст;
4. Францішак Павельскі - місіянер у Геранёнах;
5. Канстанты Празафовіч - прафесар дагматычнай тэалогіі, дарадца Дома;
6. Стэфан Ваўжынскі - вышэйшыя класы;
7. Антоні Куяловіч - місіянер у Геранёнах;
8. Якуб Фэкеле;
9. Казімір Крашэўскі - вучань тэалогіі;
10. кл. Мацей Тукала - вучань тэалогіі;
11. кл. Міхал Кутрынскі (Кентжынскі) - вучань тэалогіі;
12. кл. Банавентура Ярманскі - вучань тэалогіі;
13. кл. Павел Шырма - вучань тэалогіі;
14. кл. Антоні Кломфас - ніжэйшыя класы;
15. бр. Себасцян Шалеўскі;
16. бр. Рафал у Мерачы.

**1749/50**

1. Леан Людвік Галавінскі - рэктар;
2. Віктарын Квяткевіч - віца-рэктар, дарадца Дома, адказны за выдаткі, архівіст;
3. Мікалай Брадоўскі - адміністратар парафіі;
4. Францішак Павельскі - місіянер у Геранёнах;
5. Стэфан Гансеўскі - місіянер у Геранёнах;
6. Якуб Фішар - вышэйшыя класы;
7. Якуб Фэкеле;
8. Інакенты Бянеўскі;
9. кл. Уладзіслаў Швяйкоўскі - ніжэйшыя класы;
10. кл. Вацлаў Навіцкі - вучань маральнай тэалогіі;
11. кл. Матэвуш Градэцкі - вучань маральнай тэалогіі;
12. бр. Матэвуш Макаўчык.

**1750/51**

1. Леан Людвік Галавінскі - рэктар;
2. Клеменс Галавінскі - асістэнт правінцыі, дарадца Дома, дэпазітар;
3. Мікалай Брадоўскі - адміністратар парафіі;
4. Францішак Павельскі - місіянер у Геранёнах;
5. Стэфан Гансеўскі - місіянер у Геранёнах;
6. Бенедыкт Шубарт - прафесар маральнай тэалогіі, дарадца Дома, рахункавод, прэфект;
7. Севярын Кутрынскі (Кентрынскі) - вышэйшыя класы;
8. Банавентура Ярманскі - настаўнік княжны Радзівіл, дачкі крайчага ВКЛ;
9. Інакенты Бянеўскі - тэолаг князя Радзівіла;
10. кл. Феліцыян Хлявінскі - ніжэйшыя класы;
11. кл. Уладзіслаў Швяйкоўскі - вучань маральнай тэалогіі[196];
12. кл. Ігнацы Гадлеўскі - вучань маральнай тэалогіі;
13. кл. Кароль Яркула - вучань маральнай тэалогіі;
14. бр. Антоні Лукашэвіч;
15. бр. Матэвуш Макаўчык.

**1751/52**

1. Клеменс Галавінскі - рэктар;
2. Леан Галавінскі - асістэнт правінцыі, віца-рэктар, дарадца Дома, архівіст;
3. Віктарын Квяткевіч - прафесар дагматычнай тэалогіі, сакратар Дома, рахункавод;
4. Інакенты Ман - прафесар аскетычнай тэалогіі, прэфект дарадца Дома, дэпазітар;
5. Антоні Куяловіч - місіянер у Геранёнах;
6. Войцах Камароўскі - вучань тэалогіі, адказны за выдаткі;

[196] У паведамленнях няма інфармацыі пра тое, хто выкладаў гэтую маральную філасофію. Нельга пры гэтым цалкам выключыць, што ў гэтым школьным годзе быў гэта нехта з па-за Ордэна піяраў.

7. Дамінік Грабоўскі, вучань тэалогіі;
8. Адам Талочка - вучань тэалогіі;
9. Банавентура Ярманскі - настаўнік сына князя Радзівіла;
10. Павел Шырма - рыторыка;
11. Якуб Фэкеле;
12. Інакенты Бянеўскі;
13. кл. Гервазы Аскерка - ніжэйшыя класы;
14. кл. Тадэвуш Лянг - вучань тэалогіі;
15. кл. Геранім Гарабурда - вучань тэалогіі;
16. бр. Павел Цадроўскі.

**1752/53**

1. Клеменс Галавінскі - рэктар;
2. Леан Галавінскі - асістэнт правінцыі, прафесар тэалогіі, архівіст, адказны за выдаткі;
3. Інакенты Ман - прафесар аскетычнай тэалогіі, прэфект дарадца Дома, дэпазітар;
4. Ануфры Вайлкоўскі - ніжэйшыя класы, адміністратар парафіі;
5. Антоні Астроўскі - паэзія, рыторыка, рахункавод, гісторык Дома;
6. Віктарын Квяткевіч - місіянер у Геранёнах;
7. Стэфан Гансеўскі - місіянер у Геранёнах;
8. Банавентура Ярманскі - настаўнік сына князя Радзівіла, крайчага ВКЛ;
9. Якуб Фэкеле;
10. Андрэй Гумкоўскі - вучань тэалогіі;
11. кл. Людвік Любанскі - вучань тэалогіі;
12. кл. Тадэвуш Лянг - вучань тэалогіі;
13. кл. Баніфацы Урублеўскі - вучань тэалогіі;
14. кл. Геранім Гарабурда - вучань тэалогіі;
15. бр. Павел Цадроўскі.

**1753/54**

1. Клеменс Галавінскі - рэктар;
2. Леан Галавінскі - асістэнт правінцыі, прафесар тэалогіі, архівіст, адказны за выдаткі;
3. Віктарын Квяткевіч - місіянер у Геранёнах;
4. Стэфан Гансеўскі - місіянер у Геранёнах;
5. Інакенты Ман - прафесар аскетычнай тэалогіі, прэфект дарадца Дома, дэпазітар;
6. Антоні Астроўскі - паэзія, рыторыка, рахункавод, гісторык Дома;
7. Банавентура Ярманскі - настаўнік сына князя Радзівіла, крайчага ВКЛ;
8. Рафал Файлгабер - вучань тэалогіі;
9. Якуб Фэкеле;
10. кл. Гервазы Аскерка - вучань тэалогіі;
11. кл. Міхал Францкевіч - вучань тэалогіі;
12. кл. Францішак Хлябоўскі - ніжэйшыя класы.

**1754/55**

1. Клеменс Галавінскі - рэктар;
2. Аўрэлій Аўгустын Грышкевіч - віца-рэктар, дарадца Дома, архівіст, дэпазітар;
3. Віктарын Квяткевіч - місіянер у Геранёнах;
4. Стэфан Гансеўскі - місіянер у Геранёнах;
5. Эўстахі Куроўскі - рахункавод;
6. Антоні Астроўскі - паэзія, рыторыка, прэфект;
7. Стэфан Ваўжынскі - ніжэйшыя класы;
8. Банавентура Ярманскі - настаўнік сына князя Радзівіла, крайчага ВКЛ;
9. Якуб Фэкеле;

**1755/56**

1. Ян Багуцкі - начальнік;
2. Аўрэлій Аўгустын Грышкевіч - віца-рэктар, дарадца Дома, архівіст, дэпазітар;
3. Віктарын Квяткевіч - місіянер у Геранёнах;
4. Стэфан Ваўжынскі - місіянер у Геранёнах;
6. Антоні Астроўскі - паэзія, рыторыка, прэфект, дарадца Дома, гісторык Дома;
7. Матэвуш Градэцкі - ніжэйшыя класы;
8. Якуб Фэкеле;
9. бр. Марцін Аніхімоўскі.

**1756/57**

1. Нікадэм Казікоўскі - начальнік;
2. Аўрэлій Аўгустын Грышкевіч - капелан жмудскага біскупа;
3. Якуб Фішар;
4. Міхал Шалюта;
5. Стэфан Ваўжынскі - місіянер у Геранёнах;
6. Францішак Асман - місіянер у Геранёнах;
8. Якуб Фэкеле - настаўнік класа;
9. бр. Марцін Аніхімоўскі.

**1757/58**

1. Ёахім Радамыскі - рэктар;
2. Аляксандр Хлявінскі - віца-рэктар, дарадца Дома, адказны за выдаткі, архівіст, гісторык Дома;
3. Гіпаліт Прыбылецкі (Пшыбылецкі) - місіянер у Геранёнах;
4. Інакенты Бянеўскі - рахункавод, дэпазітар;
5. Стэфан Ваўжынскі - місіянер у Геранёнах;
6. Францішак Асман - місіянер у Геранёнах;
8. Якуб Фэкеле - настаўнік чытання;
9. бр. Антоні Лукашэвіч.

**1758/59**

1. Ёахім Радамыскі - рэктар;
2. Караль Седлікоўскі - віца-рэктар, адказны за выдаткі;
3. Гіпаліт Пшыбылецкі - рахункавод;
4. Цэзары Вышамірскі - дэпазітар;
5. Алексы Аўсяны - місіянер у Геранёнах;
6. Матэвуш Градэцкі - місіянер у Геранёнах;
7. Інакенты Бянеўскі;
8. Якуб Фэкеле;
9. бр. Антоні Лукашэвіч.

**1758/59**

1. Ёахім Радамыскі - рэктар;
2. Цэзары Вышамірскі - віца-рэктар, адказны за выдаткі, дарадца Дома;
3. Гіпаліт Прыбылецкі (Пшыбылецкі) - дарадца Дома;
4. Алексы Аўсяны - місіянер у Геранёнах;
5. Інакенты Бянеўскі - місіянер у Геранёнах;
6. Матэвуш Градзецкі - адміністратар парафіі;

7. Якуб Фэкеле;
8. бр. Антоні Лукашэвіч.

### Ліда

**1756/57**

1. Антоні Астроўскі - начальнік;
2. Юзаф Кутрынскі (Кентжынскі) - дарадца Дома, прэфект, паэзія, рыторыка, архівіст, рахункавод;
3. Юзаф Віславух - настаўнік меншай і большай граматыкі, адказны за выдаткі, гісторык Дома.

**1757/58**

1. Антоні Астроўскі - начальнік;
2. Дамінік Грабоўскі - прэфект, гісторык Дома, архівіст, адказны за выдаткі;
3. Мікалай Тупальскі - паэзія, рыторыка;
4. Юзаф Гермер - граматыка;
5. Фларыян Крушэўскі - пачатковае навучанне.

**1758/59**

1. Антоні Астроўскі - начальнік, прэфект;
2. Людвік Любанскі - паэзія, рыторыка, гісторык Дома, адказны за выдаткі, рахункавод;
3. Юзаф Гермер - граматыка;
4. кл. Феліцыян Мартыноўскі - пачатковае навучанне, дэпазітар;
5. бр. Бенедыкт Петрашкевіч.

**1759/60**

1. Антоні Астроўскі - начальнік;
2. Юзаф Гермер - прэфект, дарадца Дома, адказны за выдаткі;
3. Пётр Вярхоўскі - паэзія, рыторыка, гісторык Дома;
4. Матэвуш Прайтар - граматыка, дэпазітар;
5. кл. Якуб Петрусевіч - пачатковае навучанне;
6. бр. Бенедыкт Петрашкевіч.

**1760/61**

1. Антоні Астроўскі - рэктар;
2. Юзаф Гермер - прэфект, дарадца Дома, адказны за выдаткі, архівіст;
3. Мікалай Тупальскі - прэфект, паэзія, рыторыка, гісторык Дома, рахункавод;
4. Стэфан Ваўжынскі - місіянер у Геранёнах;
5. Інакенты Бянеўскі - місіянер у Геранёнах;
6. Ёахім Радамыскі - начальнік у Веранове;
7. Гіпаліт Прыбылецкі (Пшыбылецкі) - у Веранове;
8. Матэвуш Градэцкі - у Веранове;
9. бр. Антоні Лукашэвіч - у Веранове;
10. кл. Антоні Ўнутоўскі (Унентоўскі) - граматыка, дэпазітар;
11. кл. Барталамей Міхалевіч - пачатковае навучанне;
12. бр. Бенедыкт Петрашкевіч.

**1761/62**

1. Антоні Астроўскі - рэктар;
2. Ёахім Радамыскі - начальнік у Веранове;
3. Міхал Шалюта - віца-рэктар, архівіст, адказны за выдаткі, дарадца Дома;
4. Ваўрынец Чагялевіч (Чахялевіч) - у Веранове;
5. Аляксандр Вольмер - прэфект , паэзія, рыторыка, гісторык Дома, адказны за выдаткі;
6. Марцін Знандар - граматыка, рахункавод;
7. Юстын Мільжэўскі - місіянер у Геранёнах;
8. Ануфры Вайлкоўскі - місіянер у Геранёнах;
9. кл. Дыянізы Гурыновіч - пачатковае навучанне;
10. бр. Антоні Лукашэвіч;
11. бр. Бенедыкт Петрашкевіч.

**1762/63**

1. Антоні Астроўскі - рэктар;
2. Ёахім Радамыскі - начальнік у Веранове;
3. Міхал Шалюта - віца-рэктар, архівіст, адказны за выдаткі, дарадца Дома;
4. Ваўрынец Чагялевіч (Чахялевіч) - у Веранове;
5. Аляксандр Вольмер - прэфект, паэзія, рыторыка, гісторык Дома, дэпазітар;
6. Стэфан Ваўрынскі - рахункавод;
7. Марцін Знандар - граматыка;
8. Уладзіслаў Швяйкоўскі - у Веранове;
9. Ануфры Вайлкоўскі - місіянер у Геранёнах;
10. кл. Міхал Жагждро (Загздро) - пачатковае навучанне;
11. бр. Антоні Лукашэвіч;
12. бр. Бенедыкт Петрашкевіч.

**1763/64**

1. Войцех Камароўскі - рэктар;
2. Ёахім Радамыскі - начальнік у Веранове;
3. Людвік Любанскі - віца-рэктар, дарадца Дома, архівіст, адказны за выдаткі;
4. Нікадэм Казікоўскі;
5. Ваўрынец Чагялевіч (Чахялевіч) - місіянер у Геранёнах;
6. Стэфан Ваўрынскі - рахункавод;
7. Уладзіслаў Швяйкоўскі - у Веранове;
8. Аляксандр Вольмер - прэфект , паэзія, рыторыка, гісторык Дома, дэпазітар;
9. Марцін Знандар - пракуратар Дома;
11. кл. Міхал Жагждро (Загздро) - граматыка;
12. кл. Вінцэнты Хадасевіч - пачатковае навучанне;
13. бр. Антоні Лукашэвіч - у Веранове.

**1764/65**

1. Войцех Камароўскі - рэктар;
2. Ёахім Радамыскі - начальнік у Веранове;
3. Людвік Любанскі - віца-рэктар, дарадца Дома, архівіст, адказны за выдаткі;
4. Нікадэм Казікоўскі;
5. Ваўрынец Чагялевіч (Чахялевіч) - місіянер у Геранёнах;
6. Стэфан Ваўрынскі - рахункавод;
7. Уладзіслаў Швяйкоўскі - у Веранове;
8. Аляксандр Вольмер - прэфект, паэзія, рыторыка, гісторык Дома, дэпазітар;
9. Ян Вогель - місіянер у Геранёнах;
10. Марцін Знандар;
11. кл. Леан Кулеша - граматыка;
12. кл. Вінцэнты Хадасевіч - пачатковае навучанне;

13. бр. Антоні Лукашэвіч - у Веранове.

**1765/66**

1. Войцех Камароўскі - рэктар;
2. Ёахім Радамыскі - начальнік у Веранове;
3. Людвік Любанскі - віца-рэктар, дарадца Дома, архівіст, рахункавод;
4. Нікадэм Казікоўскі;
5. Ануфры Вайлкоўскі;
6. Ваўрынец Чагялевіч (Чахялевіч) - місіянер у Геранёнах;
7. Ян Вогель - місіянер у Геранёнах;
8. Уладзіслаў Швяйкоўскі - у Веранове;
9. Аляксандр Вольмер - прэфект, гісторык Дома, адказны за выдаткі;
10. Леан Кулеша - паэзія, рыторыка, гісторык Дома, дэпазітар;
11. кл. Вінцэнты Хадасевіч - пачатковае навучанне;
12. кл. Марц'ян Станевіч - граматыка;
13. бр. Антоні Лукашэвіч - у Веранове.

**1766/67**

1. Войцех Камароўскі - рэктар;
2. Ёахім Радамыскі - начальнік у Веранове;
3. Аляксандр Вольмер - віца-рэктар, адказны за выдаткі, прэфект, архівіст, дарадца Дома;
4. Ваўрынец Чагялевіч (Чахялевіч) - місіянер у Геранёнах
5. Ануфры Вайлкоўскі - місіянер у Геранёнах;
6. Уладзіслаў Швяйкоўскі - у Веранове;
7. Ян Вогель - місіянер у Геранёнах;
8. Лукаш Радзікевіч - рахункавод;
9. Баніфацы Урублеўскі - дарадца Дома, пракуратар Дома;
10. Ян Яцуніч - паэзія, рыторыка, дэпазітар, гісторык Дома;
11. кл. Дыянізы Гурыновіч - пачатковае навучанне;
12. кл. Леан Шалюта - граматыка.

**1767/68**

1. Казімір Яблонскі - рэктар;
2. Ёахім Радамыскі - начальнік у Веранове;
3. Аляксандр Вольмер - віца-рэктар, адказны за выдаткі, прэфект, архівіст, дарадца Дома;
4. Нікадэм Казікоўскі - рахункавод, дарадца Дома;
5. Ваўрынец Чагялевіч (Чахялевіч) - місіянер у Геранёнах
6. Ануфры Вайлкоўскі - місіянер у Геранёнах;
7. Уладзіслаў Швяйкоўскі - рахункавод школьнай касы;
8. Ян Вогель - місіянер у Геранёнах;
9. Лукаш Радзікевіч - місіянер у Геранёнах;
10. Андрэй Свіршчэўскі - паэзія, рыторыка, дэпазітар Дома і школы;
11. кл. Леан Шалюта - граматыка.
12. кл. Міхал Харкевіч - пачатковае навучанне.

**1768/69**

1. Казімір Яблонскі - рэктар;
2. Аляксандр Вольмер - віца-рэктар, адказны за выдаткі, прэфект, архівіст, дарадца Дома;
3. Нікадэм Казікоўскі - рахункавод Дома, дарадца Дома;
4. Уладзіслаў Швяйкоўскі - школьны рахункавод;
5. Ян Вогель - місіянер у Геранёнах;
6. Даніэль Тарашкевіч - місіянер у Геранёнах;
7. Лукаш Радзікевіч - у Веранове;
8. Марцін Бжазіцкікі - паэзія, рыторыка, дэпазітар, гісторык Дома;
9. Пётр Снітко - пачатковае навучанне;
10. кл. Мікалай Корф - граматыка.

**1769/70**

1. Аляксандр Вольмер - рэктар;
2. Ян Вогель - віца-рэктар, адказны за выдаткі, архівіст;
3. Нікадэм Казікоўскі - рахункавод, дарадца Дома;
4. Уладзіслаў Швяйкоўскі;
5. Міхал Кутрынскі (Кентжынскі) - дэпазітар Дома;
6. Лукаш Радзікевіч - місіянер у Геранёнах;
7. Даніэль Тарашкевіч - місіянер у Геранёнах;
8. Ян Пажэрскі - прэфект, паэзія, рыторыка, гісторык Дома;
9. Дыянізы Гурыновіч - граматыка, дэпазітар школы;
10. Пётр Снітко - місіянер у Геранёнах;
11. кл. Багуслаў Кулеша - пачатковае навучанне;
12. бр. Антоні Лукашэвіч.

**1770/71**

1. Аляксандр Вольмер - рэктар;
2. Ян Вогель - віца-рэктар, адказны за выдаткі, архівіст;
3. Нікадэм Казікоўскі - рахункавод, дарадца Дома;
4. Уладзіслаў Швяйкоўскі;
5. Міхал Кутрынскі (Кентжынскі) - дэпазітар Дома;
6. Лукаш Радзікевіч - у Веранове;
7. Хрыстафор Белазор - місіянер у Геранёнах;
8. Дыянізы Гурыновіч - граматыка;
9. Пётр Снілко - місіянер у Геранёнах;
10. кл. Антоні Мікуцкі - красамоўства;
11. кл. Багуслаў Кулеша - пачатковае навучанне;
12. бр. Антоні Лукашэвіч.

**1771/72**

1. Аляксандр Вольмер - рэктар;
2. Ян Вогель - віца-рэктар, адказны за выдаткі, архівіст;
3. Лукаш Радзікевіч - у Веранове;
4. Уладзіслаў Швяйкоўскі;
5. Ян Яцыніч - місіянер у Геранёнах;
6. Хрыстафор Белазор - дэпазітар;
7. Пётр Снілко - місіянер у Геранёнах;
8. Антоні Мікуцкі - прэфект, паэзія, рыторыка, рахункавод, гісторык Дома;
9. Францішак Янкоўскі - граматыка;
10. кл. Ян Французевіч - пачатковае навучанне;
11. бр. Антоні Лукашэвіч.

**1772/73**

1. Аляксандр Вольмер - рэктар;
2. Міхал Туркоўскі - віца-рэктар, дарадца Дома, прэфект, адказны за выдаткі, архівіст;
3. Уладзіслаў Швяйкоўскі;

4. Лукаш Радзікевіч - у Веранове;
5. Хрыстафор Белазор - дэпазітар;
6. Андрэй Свіршчэўскі - паэзія, рыторыка, выкладанне ў нядзельныя дні маральнай навукі, гісторык Дома;
7. Францішак Янкоўскі - граматыка, рахункавод;
8. кл. Ян Французевіч - пачатковае навучанне, "у прадугледжаны гадзіны арыфметыку і геаметрыю даваць будзе"[197];
9. бр. Антоні Лукашэвіч.

**1773/74**

1. Аляксандр Вольмер - рэктар;
2. Міхал Туркоўскі - віца-рэктар, дарадца Дома, прэфект, адказны за выдаткі, архівіст;
3. Уладзіслаў Швяйкоўскі;
4. Ян Вогель - у Веранове;
5. Міхал Кутрынскі (Кентжынскі) - дарадца Дома;
6. Хрыстафор Белазор - дэпазітар;
7. Міхал Харкевіч - паэзія, рыторыка, выкладанне ў нядзельныя дні маральнай навукі, гісторык Дома;
8. Францішак Янкоўскі - граматыка;
9. Раймунд Жашоўскі - пачатковае навучанне, "у прадугледжаныя гадзіны" арыфметыка і геаметрыя.

**1774/75**

1. Аляксандр Вольмер - рэктар;
2. Хрыстафор Белазор - віца-рэктар, дарадца Дома, архівіст;
3. Уладзіслаў Швяйкоўскі;
4. Міхал Кутрынскі (Кентжынскі) - дарадца Дома;
5. Лукаш Радзікевіч - місіянер у Веранове;
6. Яцак Касоўскі - прэфект, паэзія, рыторыка, дэпазітар, гісторык Дома, выкладанне маральнай навукі ў нядзелю;
7. Даніэль Тарашкевіч - граматыка, адказны за выдаткі;
8. Раймунд Жашоўскі - пачатковае навучанне, "у прадугледжаныя гадзіны" арыфметыка і геаметрыя.

**1775/76**

1. Аляксандр Вольмер - рэктар;
2. Казімір Яблонскі - віца-рэктар, дарадца Дома, адказны за выдаткі, архівіст;
3. Уладзіслаў Швяйкоўскі;
4. Міхал Кутрынскі (Кентжынскі) - дарадца Дома;
5. Лукаш Радзікевіч;
6. Даніэль Тарашкевіч - граматыка, дэпазітар;
7. Яцак Касоўскі - прэфект, паэзія, рыторыка, рахункавод, гісторык Дома, выкладчык маральнай навукі;
8. Раймунд Жашоўскі - пачатковае навучанне, "у прадугледжаныя гадзіны" геаметрыя;
9. бр. Стэфан Кружэўскі (Кранжэўскі).

**1776/77**

1. Аляксандр Вольмер - рэктар;
2. Казімір Яблонскі - віца-рэктар, дарадца Дома, адказны за выдаткі, архівіст;
3. Уладзіслаў Швяйкоўскі;
4. Тадэвуш Дунін - дэпазітар;
5. Дыянізы Гурыновіч - прэфект, паэзія, рыторыка, рахункавод, гісторык Дома, выкладчык маральнай навукі;
6. Тамаш Францоўскі - "у прадугледжаныя гадзіны" граматыка, геаметрыя;
7. кл. Ігнацы Янкоўскі, пачатковае навучанне;
8. бр. Стэфан Кружэўскі (Кранжэўскі).

**1777/78**

1. Аляксандр Вольмер - рэктар;
2. Казімір Яблонскі - віца-рэктар, дарадца Дома, адказны за выдаткі, архівіст;
3. Уладзіслаў Швяйкоўскі;
4. Тадэвуш Дунін - дэпазітар;
5. Дыянізы Гурыновіч - прэфект, паэзія, рыторыка, рахункавод, гісторык Дома, выкладчык маральнай навукі;
6. Тамаш Францоўскі - "у прадугледжаныя гадзіны" граматыка, геаметрыя;
7. кл. Ігнацы Янкоўскі, пачатковае навучанне;
8. бр. Стэфан Кружэўскі (Кранжэўскі).

**1778/79**

1. Аляксандр Вольмер - рэктар;
2. Казімір Яблонскі - віца-рэктар, дарадца Дома, адказны за выдаткі, архівіст;
3. Уладзіслаў Швяйкоўскі;
4. Тадэвуш Дунін - дэпазітар;
5. Бярнард Памярнацкі - прэфект, паэзія, рыторыка, дарадца Дома, выкладчык маральнай навукі, гісторык Дома;
6. Тамаш Францоўскі - "у прадугледжаныя гадзіны" граматыка, геаметрыя;
7. кл. Людвік Францасон, пачатковае навучанне;
8. бр. Стэфан Кружэўскі (Кранжэўскі).

**1779/80**

1. Аляксандр Вольмер - рэктар;
2. Казімір Яблонскі - віца-рэктар, дарадца Дома, адказны за выдаткі, архівіст;
3. Тадэвуш Дунін - дарадца Дома, рахункавод;
4. Ёахім Храптовіч;
5. Дыянізы Гурыновіч;
6. Ксаверы Янкоўскі - прэфект, паэзія, рыторыка, выкладчык маральнай навукі, гісторык Дома, дэпазітар;
7. Тамаш Францоўскі - граматыка, геаметрыя;
8. кл. Тамаш Пул'яноўскі, пачатковае навучанне;
9. бр. Мацей Кёніг.

**1780/81**

1. Аляксандр Вольмер - рэктар;
2. Казімір Яблонскі - віца-рэктар, дарадца Дома, адказны за выдаткі, архівіст;
3. Ёахім Храптовіч;
4. Тадэвуш Дунін - дарадца Дома, рахункавод;
5. Ксаверы Янкоўскі - прэфект, паэзія, рыторыка, выкладчык маральнай навукі, гісторык Дома, дэпазітар Дома;
6. Тамаш Францоўскі - граматыка, геаметрыя;

[197] Рукапіс B. Ossol. 3667/III (mf BN nr 8804), s. 178.

7. кл. Тамаш Пул'яноўскі, пачатковае навучанне;
8. бр. Мацей Кёніг.

**1781/82**

1. Аляксандр Вольмер - рэктар;
2. Дыянізы Гурыновіч - віца-рэктар, прэфект, дарадца Дома, адказны за выдаткі, архівіст;
3. Казімір Яблонскі - дарадца Дома;
4. Ёахім Храптовіч;
5. Тадэвуш Дунін - дэпазітар;
6. Язафат Мірскі - паэзія, рыторыка, выкладчык маральнай навукі, гісторык Дома, дэпазітар Дома;
7. Юзаф Меер - граматыка, геаметрыя;
8. кл. Дамінік Серафіновіч - пачатковае навучанне;
9. бр. Мацей Кёніг.

**1782/83**

1. Аляксандр Вольмер - рэктар;
2. Дыянізы Гурыновіч - віца-рэктар, прэфект, дарадца Дома, адказны за выдаткі, архівіст[198];
3. Казімір Яблонскі - дарадца Дома;
4. Ёахім Храптовіч;
5. Тадэвуш Дунін - рахункавод;
6. Язафат Мірскі - паэзія, рыторыка, выкладчык маральнай навукі, гісторык Дома, дэпазітар Дома;
7. кл. Аўгустын Вярсоцкі - II клас;
8. кл. Гжэгаш Янкевіч - I клас;
9. бр. Мацей Кёніг.

**1783/84**

1. Аляксандр Вольмер - рэктар;
2. Дыянізы Гурыновіч - віца-рэктар, прэфект, дарадца Дома, адказны за выдаткі, архівіст;
3. Баніфацы Урублеўскі - у Моўчадзі;
4. Ёахім Храптовіч;
5. Тадэвуш Дунін - дарадца Дома, рахункавод;
6. Андрэй Свіршчэўскі;
7. Павел Выгоўскі - прэфект, III клас, дэпазітар;
8. кл. Каласанты Статкевіч - II клас і матэматыка;
9. кл. Ваўрынец Адамовіч - I клас;
10. бр. Пётр Эловіч;
11. бр. Мацей Кёніг.

**1784/85**

1. Аляксандр Вольмер - рэктар;
2. Хрызастом Лямэх (Лямэш) - віца-рэктар, прэфект, дарадца Дома, адказны за выдаткі, архівіст;
3. Баніфацы Урублеўскі - у Моўчадзі;
4. Тадэвуш Дунін - дарадца Дома, рахункавод;
5. Ёахім Храптовіч;
6. Павел Выгоўскі - прэфект, III клас, дэпазітар, гісторык Дома;
7. Кароль Горват - II клас;
8. кл. Ваўрынец Адамовіч - I клас;
9. бр. Мацей Кёніг.

**1785/86**

1. Аляксандр Вольмер - рэктар;
2. Яцак Красоўскі - віца-рэктар, дарадца Дома, адказны за выдаткі, архівіст;
3. Баніфацы Урублеўскі - у Моўчадзі;
4. Антоні Унутоўскі (Ўнантоўскі);
5. Геранім Шаставіцкі;
6. Павел Выгоўскі - прэфект, III клас, дарадца Дома, рахункавод, гісторык Дома;
7. Кароль Горват - II клас;
8. Станіслаў Аўсяны - дэпазітар;
9. кл. Антоні Любоцкі - I клас[199];
10. бр. Мацей Кёніг.

**1786/87**

1. Аляксандр Вольмер - рэктар;
2. Яцак Красоўскі - віца-рэктар, дарадца Дома, адказны за выдаткі, архівіст;
3. Баніфацы Урублеўскі - у Моўчадзі;
4. Ксаверы Елец;
5. Геранім Шаставіцкі;
6. Павел Выгоўскі - прэфект, III клас, дарадца Дома, рахункавод, гісторык Дома;
7. Кароль Горват - II клас, дэпазітар;
8. кл. Каятан Дзержаноўскі - I клас;
10. бр. Мацей Кёніг.

**1787/88**

1. Аляксандр Вольмер - рэктар;
2. Яцак Красоўскі - віца-рэктар, дарадца Дома, адказны за выдаткі, архівіст;
3. Баніфацы Урублеўскі - у Моўчадзі;
4. Аўгустын Жылевіч - тэолаг графа Баржымоўскага;
5. Павел Выгоўскі - віца-прэфект, III клас, рахункавод, гісторык Дома;
6. Кароль Горват - дэпазітар;
7. Казімір Талібскі - II клас;
8. кл. Антоні Юхновіч - I клас;
9. бр. Мацей Кёніг.

**1788/89**

1. Аляксандр Вольмер - рэктар;
2. Бартламей Міхалевіч - віца-рэктар, дарадца Дома, адказны за выдаткі, архівіст;
3. Баніфацы Урублеўскі - у Моўчадзі;
4. Аўгустын Жылевіч - настаўнік у Баржымоўскіх;
5. Павел Выгоўскі - віца-прэфект, III клас, рахункавод, гісторык Дома;
6. Кароль Горват - дэпазітар;
7. кл. Ваўрынец Адамовіч - II клас;
8. кл. Рамуальд Ажаскоўскі - I клас;
9. бр. Мацей Кёніг.

**1789/90**

1. Аляксандр Вольмер - рэктар;
2. Бартламей Міхалевіч - віца-рэктар, дарадца Дома, адказны за выдаткі, архівіст;
3. Баніфацы Урублеўскі - у Моўчадзі;
4. Аўгустын Жылевіч - настаўнік у Баржымоўскіх;
5. Павел Выгоўскі - віца-прэфект, III клас, дэпазітар;
6. Кароль Горват - рахункавод;
7. кл. Ваўрынец Адамовіч - II клас;

[198] Летам (чэрвень - ліпень) 1783 г. прэфектам быў ужо А. Свіршчэўскі, *Raporty...*, s. 122.

[199] Анзельм Любаскі, Raporty..., s. 171.

8. кл. Рамуальд Ажаскоўскі - I клас;
9. бр. Мацей Кёніг.

**1790/91**

1. Аляксандр Вольмер - рэктар;
2. Бартламей Міхалевіч - віца-рэктар, дарадца Дома, адказны за выдаткі, архівіст;
3. Кароль Горват - рахункавод;
4. Адрыян Шалевіч - настаўнік у Нарбутаў;
5. Тамаш Пул'яноўскі;
6. Бярнард Парубскі (Парэмбскі) - віца-прэфект, III клас, дарадца Дома, гісторык Дома;
7. Банавентура Казаноўскі - II клас;
8. кл. Антоні Чахніцкі - I клас;
9. бр. Мацей Кёніг.

**1791/92**

1. Аляксандр Вольмер - рэктар;
2. Бартламей Міхалевіч - віца-рэктар, дарадца Дома, адказны за выдаткі, архівіст;
3. Кароль Горват - рахункавод;
4. Адрыян Шалевіч - настаўнік у Нарбутаў;
5. Тамаш Пул'яноўскі;
6. Ваўрынец Адамовіч - віца-прэфект, III клас, дарадца Дома, гісторык Дома;
7. кл. Леапольд Сцыпіа - II клас;
8. кл. Пій Янкевіч - I клас.

**1792/93**

1. Аляксандр Вольмер - рэктар;
2. Бартламей Міхалевіч - віца-рэктар, дарадца Дома, адказны за выдаткі, архівіст;
3. Кароль Горват - рахункавод;
4. Адрыян Шалевіч - настаўнік у Нарбутаў;
5. Тамаш Пул'яноўскі;
6. Ваўрынец Адамовіч - віца-прэфект, III клас, дарадца Дома, гісторык Дома;
7. кл. Казімір Янцэвіч - II клас;
8. кл. Пій Янкевіч - I клас;
9. бр. Ежы Бядунскі.

**1793/94**

1. Фларыян Крушэўскі - рэктар;
2. Аляксандр Вольмер - дарадца Дома;
3. Ксаверы Янкоўскі - рахункавод;
4. Кароль Горват - дэпазітар;
5. Адрыян Шалевіч - віца-прэфект, адказны за выдаткі;
6. кл. Казімір Жукоўскі - III клас, гісторык Дома;
7. кл. Казімір Янцэвіч - II клас;
8. кл. Пій Янкевіч - I клас.

**1794/95**

1. Фларыян Крушэўскі - рэктар;
2. Аляксандр Вольмер - дарадца Дома;
3. Ксаверы Янкоўскі - рахункавод;
4. Кароль Горват - дэпазітар;
5. Адрыян Шалевіч - віца-прэфект, адказны за выдаткі, дарадца Дома;
6. Ваўрынец Адамовіч - III клас, гісторык Дома;
7. кл. Казімір Янцэвіч - II клас;
8. кл. Юзаф Івашкевіч - I клас;
9. бр. Ежы Бядунскі.

**1795/96**

1. Адрыян Шалевіч - віца-рэктар, начальнік, прэфект, адказны за выдаткі, архівіст;
2. Аляксандр Вольмер - дарадца Дома, дэпазітар;
3. Ксаверы Янкоўскі - рахункавод;
4. Кароль Горват;
5. кл. Ігнацы Прыалгоўскі - I клас;
6. кл. Францішак Гадлеўскі - II і III клас, гісторык Дома.

**1796/97**

1. Павел Выгоўскі - начальнік;
2. Аляксандр Вольмер - дарадца Дома, адказны за выдаткі;
3. Аўгустын Жылевіч - дарадца Дома, архівіст;
4. Ксаверы Янкоўскі - дэпазітар, гісторык Дома;
5. Амброжы Сангайла - прэфект, III клас;
6. кл. Андрэй Канюшэўскі - II клас, рахункавод;
7. кл. Анёл Доўгірд - I клас.

**1797/98**

1. Філіп Нярэй Банарскі - рэктар;
2. Аляксандр Вольмер - дарадца Дома, адказны за выдаткі;
3. Аўгустын Жылевіч - дарадца Дома, архівіст;
4. Гжэгаш Янкевіч - прэфект, дэпазітар;
5. кл. Казімір Жукоўскі - III клас, рахункавод, гісторык Дома;
6. кл. Андрэй Канюшэўскі - II клас;
7. кл. Леапольд Сцыпіён - I клас.

**1798/99**

1. Філіп Нярэй Банарскі - рэктар;
2. Аляксандр Вольмер - дарадца Дома, адказны за выдаткі;
3. Аўгустын Жылевіч - дарадца Дома, архівіст;
4. Гжэгаш Янкевіч - прэфект, дэпазітар;
5. кл. Казімір Жукоўскі - III клас, рахункавод, гісторык Дома;
6. кл. Андрэй Канюшэўскі - II клас;
7. кл. Леапольд Сцыпіён - I клас.

**1799/00**

1. Філіп Нярэй Банарскі - рэктар;
2. Аляксандр Вольмер - дарадца Дома, адказны за выдаткі;
3. Аўгустын Жылевіч - хворы;
4. Гжэгаш Янкевіч - прэфект, дэпазітар;
5. кл. Казімір Жукоўскі - II клас;
6. Леанард Рамашкевіч - III клас, рахункавод;
7. кл. Францішак Стацкевіч - I клас.

**1800/01**

1. Себасцян Дамброўскі - рэктар;
2. Аляксандр Вольмер - заслужаны дэпазітар, дарадца Дома;
3. Антоні Мікуцкі - у свайго брата;
4. Гжэгаш Янкевіч - пракуратар Дома, рахункавод;
5. кл. Андрэй Канюшэўскі - выкладчык класаў.

**1801/02**

1. Себасцян Дамброўскі - рэктар;
2. Аляксандр Вольмер - заслужаны дэпазітар, дарадца Дома;
3. Гжэгаш Янкевіч - адказны за выдаткі, прэфект, дарадца Дома;
4. Ваўрынец Адамовіч - III клас, рахункавод;
5. кл. Андрэй Канюшэўскі - II клас;
6. кл. Казімір Жаткевіч - I клас.

**1802/03**

1. Себасцян Дамброўскі - рэктар;
2. Тамаш Жукоўскі - віца-рэктар, адказны за выдаткі;
3. Аўгустын Жылевіч - заслужаны;
4. Ваўрынец Адамовіч - прэфект, рахункавод, дэпазітар, настаўнік;
5. кл. Андрэй Канюшэўскі - настаўнік;
6. кл. Казімір Жаткевіч - настаўнік.

**1803/04**

1. Себасцян Дамброўскі - рэктар;
2. Андрэй Свіршчэўскі - віца-рэктар, архівіст, адказны за выдаткі;
3. Аўгустын Вярсоцкі - прэфект, красамоўства, дэпазітар, гісторык Дома;
4. кл. Андрэй Канюшэўскі - матэматыка, рахункавод;
5. кл. Казімір Жаткевіч - I клас.

**1804/05**

1. Себасцян Дамброўскі - рэктар;
2. Ваўрынец Адамовіч - віца-рэктар, архівіст, адказны за выдаткі;
3. Тамаш Францоўскі - прэфект, матэматыка. дарадца Дома, дэпазітар;
4. Ігнацы Пажалевіч - II клас, рахункавод;
5. кл. Габрыель Вінярскі - красамоўства.

**1805/06**

1. Раймунд Жашоўскі - рэктар;
2. Ваўрынец Адамовіч - віца-рэктар, адказны за выдаткі, дарадца Дома;
3. Якуб Захарэвіч - прэфект, красамоўства, дэпазітар;
4. Казімір Жаткевіч - II клас;
5. Ігнацы Пажалевіч - I клас, рахункавод;
6. кл. Пётр Петрусевіч - матэматыка.

**1806/07**

1. Раймунд Жашоўскі - рэктар;
2. Ксаверы Елец - заслужаны;
3. Ваўрынец Адамовіч;
4. Ігнацы Пажалевіч - матэматыка, рахункавод;
5. кл. Станіслаў Трасэмберг - II клас;
6. кл. Францішак Калясінскі - красамоўства;
7. кл. Цырын Янаўшак - нямецкая мова.

**1807/08**

1. Раймунд Жашоўскі - рэктар;
2. Юзаф Сангайла - віца-рэктар;
3. Антоні Лянкоўскі - дэпазітар;
4. Ігнацы Пажалевіч - матэматыка, рахункавод;
5. кл. Францішак Калясінскі - красамоўства;
6. кл. Адам Юшкевіч - II клас, французская мова.

**1808/09**

1. Антоні Юхновіч - рэктар, прэфект;
2. Юзаф Сангайла - віца-рэктар, адказны за выдаткі, дарадца Дома[200];
3. Ян Пажэцкі - заслужаны;
4. Ксаверы Елец - заслужаны;
5. Ігнацы Пажалевіч - матэматыка;
6. кл. Францішак Калясінскі - красамоўства[201];
7. кл. Антоні Данілевіч - геаграфія, маральная навука ў I і II класе;
8. кл. Эліяш Густыневіч - граматыка ў I і II класе.

**1809/10**

1. Антоні Юхновіч - рэктар, прэфект;
2. Юзаф Сангайла - віца-рэктар, адказны за выдаткі, дарадца Дома;
3. Ксаверы Елец - заслужаны;
4. Раймунд Жашоўскі, дарадца Дома, заслужаны;
5. Казімір Жаткевіч - граматыка ў I і II класе;
6. Ігнацы Пажалевіч - матэматыка;
7. кл. Тадэвуш Канстантыновіч - красамоўства, французская мова;
8. кл. Антоні Данілевіч - гісторыя, геаграфія, арыфметыка ў I і II класе.

**1810/11**

1. Антоні Юхновіч - рэктар, прэфект;
2. Юзаф Сангайла - віца-рэктар, адказны за выдаткі, дарадца Дома;
3. Ксаверы Елец - заслужаны;
4. Раймунд Жашоўскі, дарадца Дома, дэпазітар;
5. Ігнацы Пажалевіч - матэматыка, рахункавод;
6. кл. Павел Вужоўскі (Ванжоўскі) - красамоўства, французская мова;
7. кл. Феліцыян Калусоўскі - гісторыя, геаграфія, арыфметыка;
8. кл. Дымітр Тамашэвіч - граматыка.

**1811/12**

1. Антоні Юхновіч - рэктар, прэфект;
2. Юзаф Сангайла - віца-рэктар, адказны за выдаткі, дарадца Дома;
3. Ксаверы Елец - заслужаны;
4. Францішак Дашкевіч, пракуратар Дома, дэпазітар;
5. Ігнацы Пажалевіч - матэматыка, рахункавод;
6. кл. Дыянізы Трасамберг - граматыка, расейская мова;
7. кл. Феліцыян Калусоўскі - гісторыя, геаграфія, арыфметыка;
8. кл. Каласанты Гаўлоўскі - красамоўства, права.

**1812/13**

1. Францішак Дашкевіч - начальнік, дарадца

[200] У 1808 г. быў рэктарам.

[201] XII 1808 - 5.V.1809 г. - Яцак Румяноўскі, Dzieje obrad domowych, рукапіс Арх. поль. прав. Піяраў у Кракаве, sygn. Col. Lid. 1.

правінцыі;
2. Юзаф Сангайла - віца-рэктар, дэпазітар;
3. Антоні Юхновіч - хворы;
4. Ксаверы Елец - заслужаны;
5. Ігнацы Пажалевіч - прэфект, геаметрыя, рахункавод;
6. кл. Каласанты Гаўлоўскі - красамоўства;
7. кл. Дыянізы Трасамберг - граматыка, расейская мова.

**1813/14**

1. Францішак Дашкевіч - начальнік, дарадца правінцыі (да 13.X.1813);
2. Дамінік Серафіновіч - начальнік (XII.1813 - VII.1814);
3. Юзаф Сангайла - віца-рэктар, дэпазітар;
4. Ігнацы Пажалевіч - прэфект, геаметрыя, адказны за выдаткі;
5. кл. Дыянізы Трасамберг - I і II клас, расейская мова, рахункавод;
6. кл. Пётр Петрусевіч - красамоўства, французская мова.

**1814/15**

1. Феліцыян Пашкевіч - рэктар;
2. Юзаф Сангайла - дэпазітар;
3. Ігнацы Пажалевіч - прэфект, фізіка, матэматыка, адказны за выдаткі;
4. Дыянізы Трасамберг - I і II клас, расейская мова, рахункавод, бібліятэкар;
5. кл. Каласанты Кабылянскі - красамоўства, французская мова.

**1815/16**

1. Феліцыян Пашкевіч - рэктар;
2. Юзаф Сангайла - заслужаны;
3. Караль Маліноўскі - фізіка, матэматыка, рахункавод;
4. Дыянізы Трасамберг - I і II клас, расейская мова, дэпазітар;
5. кл. Каласанты Кабылянскі - красамоўства, французская мова.

**1816/17**

1. Феліцыян Пашкевіч - рэктар;
2. Анёл Доўгірд - дарадца правінцыі;
3. Караль Маліноўскі;
4. Алексы Станкевіч - геаметрыя, фізіка, расейская мова;
5. кл. Пётр Петрусевіч - граматыка;
6. кл. Каласанты Кабылянскі - красамоўства, права.

**1817/18**

1. Себасцян Дамброўскі - рэктар;
2. Ігнацы Пажалевіч - пракуратар Дома, фізіка, матэматыка;
3. Францішак Калясінскі - II клас;
4. кл. Тадэвуш Унутоўскі - I клас;
5. кл. Каласанты Кабылянскі - красамоўства, французская мова[202].

**1818/19**

1. Себасцян Дамброўскі - рэктар;
2. Ізыдор Сяклюцкі - экспраўінцыял;
3. Віктар Ежыковіч - віца-рэктар, адказны за выдаткі;
4. Юзаф Сангайла - заслужаны;
5. Ігнацы Пажалевіч - матэматыка;
6. кл. Тадэвуш Унутоўскі - лаціна;

**1819/20**

1. Віктар Ежыковіч - начальнік, арыфметыка, геаграфія, геаметрыя, фізіка, натуральная гісторыя;
2. Ізыдор Сяклюцкі - экспраўінцыял;
3. Ігнацы Пажалевіч - матэматыка, геаметрыя, фізіка, натуральная гісторыя, рахункавод;
4. кл. Тадэвуш Унутоўскі - I клас.

**1820/21**

1. Каласанты Санкоўскі - рэктар;
2. Ізыдор Сяклюцкі - экспраўінцыял;
3. Юзаф Сангайла;
3. Ігнацы Пажалевіч - прэфект, II клас;
4. кл. Дамінік Бяневіч - I клас.

**1821/22**

1. Каласанты Санкоўскі - рэктар;
2. Ізыдор Сяклюцкі - экспраўінцыял;
3. Юзаф Сангайла;
4. Ігнацы Пажалевіч - прэфект, матэматыка, фізіка, натуральная гісторыя;
5. Дымітр Тамашэвіч - арыфметыка, граматыка, расейская мова;
6. кл. Дамінік Бяневіч - красамоўства, нямецкая мова.

**1822/23**

1. Каласанты Санкоўскі - рэктар;
2. Ізыдор Сяклюцкі - экспраўінцыял;
3. Юзаф Сангайла;
4. Ігнацы Пажалевіч - прэфект, матэматыка;
5. Дымітр Тамашэвіч - арыфметыка, граматыка;
6. кл. Дамінік Бяневіч - красамоўства.

**1823/24**

1. Каласанты Санкоўскі - рэктар;
2. Ізыдор Сяклюцкі - экспраўінцыял;
3. Юзаф Сангайла;
4. Дымітр Тамашэвіч - прэфект, арыфметыка;
5. кл. Ян Зужэўскі - красамоўства, гісторыя.
6. кл. Алексы Тыбароўскі - граматыка.

**1824/25**

1. Каласанты Санкоўскі - рэктар;
2. Ізыдор Сяклюцкі - экспраўінцыял;
3. Юзаф Сангайла;
4. Тадэвуш Касілоўскі - граматыка, рахункавод
5. Алексы Станкевіч - матэматыка, дэпазітар;
6. кл. Каласанты Кабылянскі - літаратура, права, гісторыя.
7. кл. Алексы Тыбароўскі - арыфметыка і хрысціянская навука.

[202] Рапарт візітатара ад 9 чэрвеня 1818 г. яго не называе. CH-47, s. 82.

**1825/26**

1. Каласанты Санкоўскі - рэктар;
2. Ізыдор Сяклюцкі - эксправінцыял;
3. Юзаф Сангайла - заслужаны;
4. Казімір Жабкевіч - дэпазітар;
5. Каласанты Адамовіч - віца-прэфект, матэматыка, рахункавод;
6. кл. Каласанты Кабылянскі - літаратура, хрысціянская навука, бібліятэкар;
7. кл. Мацей Рапніцкі - граматыка;
8. кл. Каласанты Багуцкі - арыфметыка.

**1826/27**

1. Каласанты Санкоўскі - рэктар;
2. Ізыдор Сяклюцкі - эксправінцыял;
3. Юзаф Сангайла;
4. Ваўрынец Адамовіч - у сваякоў;
5. Каласанты Адамовіч - прэфект, матэматыка, фізіка;
6. кл. Каласанты Кабылянскі - красамоўства;
7. кл. Мацей Рапніцкі - граматыка;
8. кл. Кароль Ліпінскі - арыфметыка, гісторыя геаграфія.

**1827/28**

1. Каласанты Санкоўскі - рэктар;
2. Ізыдор Сяклюцкі - эксправінцыял;
3. Юзаф Сангайла - заслужаны;
4. Ваўрынец Адамовіч - у сваякоў;
5. Каласанты Адамовіч - прэфект, фізіка;
6. кл. Каласанты Кабылянскі - хрысціянская навука, польская мова;
7. кл. Мацей Рапніцкі - гісторыя, геаграфія, арыфметыка;
8. кл. Кароль Ліпінскі - хрысціянская навука, французская мова;
9. кл. Фелікс Юшкевіч - геаметрыя.

**1828/29**

1. Каласанты Санкоўскі - рэктар;
2. Ізыдор Сяклюцкі - эксправінцыял;
3. Юзаф Сангайла - заслужаны;
4. Ваўрынец Адамовіч - у сваякоў;
5. Каласанты Адамовіч - прэфект, фізіка, батаніка;
6. Кароль Ліпінскі - хрысціянская навука, французская мова;
7. Мацей Рапніцкі - гісторыя, геаграфія, арыфметыка;
8. Юстын Янушкевіч - геаметрыя, нямецкая мова;
9. кл. Каласанты Кабылянскі - лаціна, польская мова;
10. кл. Пій Ясенскі - расейская мова, хрысціянская навука.

**1829/30**

1. Антоні Паеўскі - рэктар;
2. Каласанты Санкоўскі;
3. Юзаф Сангайла - заслужаны;
4. Ваўрынец Адамовіч - у сваякоў;
5. Кароль Ліпінскі - прэфект, французская мова, дэпазітар;
6. Мацей Рапніцкі - усеагульная гісторыя, геаграфія, рахункавод;
7. кл. Палікарп Залускі - фізіка, натуральная гісторыя;
8. кл. Каласанты Кабылянскі - лаціна, польская мова;
9. кл. Каласанты Багуцкі - геаметрыя, арыфметыка, нямецкая мова;
10. кл. Пій Ясенскі - расейская мова, хрысціянская навука.

**1830/31**

1. Антоні Паеўскі - рэктар;
2. Каласанты Санкоўскі;
3. Юзаф Сангайла;
4. Ваўрынец Адамовіч - у сваякоў;
5. Тадэвуш Унутоўскі - хрысціянская навука;
6. Каласанты Багуцкі - геаметрыя, арыфметыка, нямецкая мова;
7. кл. Палікарп Залускі - фізіка, натуральная гісторыя, памочнік прэфекта;
8. кл. Каласанты Кабылянскі - лаціна, польская мова;
9. кл. Антоні Ясінскі - французская мова, усеагульная гісторыя;
10. кл. Пій Ясенскі - расейская мова, геаграфія.

**1831/32**

1. Антоні Паеўскі - рэктар;
2. Каласанты Санкоўскі;
3. Юзаф Сангайла;
4. Ваўрынец Адамовіч - у сваякоў;
5. Фердынанд Шумборскі - прэфект, дарадца Дома, рахункавод;
6. Тадэвуш Унутоўскі - хрысціянская навука, дэпазітар;
7. кл. Каласанты Кабылянскі - лаціна, польская мова;
8. кл. Антоні Ясінскі - французская мова, усеагульная гісторыя;
9. кл. Пій Ясенскі - расейская мова, геаграфія;
10. кл. Гіпаліт Дабравольскі - арыфметыка, геаметрыя.

**1832/33**

1. Фердынанд Шумборскі - рэктар;
2. Дымітр Тамашэвіч;
3. Банавентура Пяткевіч - прэфект, нямецкая мова;
4. кл. Каласанты Кабылянскі - заслужаны настаўнік;
5. кл. Антоні Ясінскі - французская мова;
6. кл. Тамаш Семяновіч - лаціна, польская мова;
7. кл. Вінцынты Горскі - усеагульная гісторыя, геаграфія;
8. кл. Гіпаліт Дабравольскі - арыфметыка, геаметрыя;
9. кл. Юзаф Станіслаўскі - расейская мова, хрысціянская навука.

**1833/34**

1. Фердынанд Шумборскі - рэктар;
2. Ваўрынец Адамовіч - у сваякоў;
3. Каласанты Санкоўскі;
4. Юзаф Сангайла;
5. Каласанты Лукевіч;
6. Антоні Закрэўскі;
7. Кароль Маліноўскі;
8. Дымітр Тамашэвіч;
9. Тадэвуш Унутоўскі;
10. Банавентура Пяткевіч;
11. кл. Каласанты Кабылянскі;
12. кл. Антоні Ясінскі;

13. кл. Тамаш Семяновіч;
14. кл. Гіпаліт Дабравольскі;
15. кл. Юзаф Станіслаўскі.

**1834/35**

1. Фердынанд Шумборскі - рэктар;
2. Ваўрынец Адамовіч - у сваякоў;
3. Юзаф Сангайла;
4. Каласанты Лукевіч;
5. Антоні Закрэўскі;
6. Кароль Маліноўскі;
7. Банавентура Пяткевіч;
8. Дымітр Тамашэвіч;
9. Тадэвуш Унутоўскі;
10. кл. Каласанты Кабылянскі;
11. кл. Павел Тубялевіч;
12. кл. Фелікс Юшкевіч;
13. кл. Тамаш Семяновіч;
14. кл. Ёахім Парубскі.

**1835/36**

1. Ёзафат Вайшвіла - рэктар;
2. Ваўрынец Адамовіч - у сваякоў;
3. Юзаф Сангайла;
4. Яцак Румяноўскі;
5. Віктар Ежыковіч;
6. Антоні Закрэўскі;
7. Ян Багатыровіч;
8. Мікалай Бальцэвіч;
9. Гіпаліт Мніхоўскі;
10. кл. Каласанты Кабылянскі.

**1836/37**

1. Ёзафат Вайшвіла - рэктар;
2. Ваўрынец Адамовіч - у сваякоў;
3. Юзаф Сангайла;
4. Яцак Румяноўскі;
5. Віктар Ежыковіч;
6. Антоні Закрэўскі;
7. Ян Багатыровіч;
8. Мікалай Бальцэвіч;
9. Гіпаліт Мніхоўскі;
10. кл. Каласанты Кабылянскі.

**1837/38**

1. Ёзафат Вайшвіла - рэктар;
2. Ваўрынец Адамовіч - у сваякоў;
3. Юзаф Сангайла;
4. Каласанты Лукевіч;
5. Віктар Ежыковічі;
6. Антоні Закрэўскі;
7. Ян Багатыровіч;
8. Мікалай Бальцэвіч;
9. Гіпаліт Мніхоўскі;
10. Каласанты Ясінскі;
11. Тамаш Семяновіч;
12. Геранім Сяніцкі;
13. кл. Каласанты Кабылянскі.

**1838/39**

1. Ёзафат Вайшвіла - рэктар;
2. Тадэвуш Малюкевіч - дарадца Дома, дэпазітар;
3. Юзаф Сангайла;
4. Антоні Закрэўскі;
5. Каласанты Лукевіч;
6. Віктар Ежыковіч;
7. Леан Бружэвіч - рахункавод;
8. Ян Багатыровіч;
9. Мікалай Бальцэвіч;
10. Інакенты Дзялакоўскі - "філіяліст" у Балінгродзе;
11. Мікалай Горскі;
12. Тамаш Семяновіч;
13. Геранім Сяніцкі;
14. Юзаф Станіслаўскі.

**1839/40**

1. Ёзафат Вайшвіла - рэктар, дарадца правінцыі;
2. Юзаф Сангайла;
3. Каласанты Лукевіч;
4. Каласанты Барташэвіч - дэпазітар, дарадца Дома;
5. Леан Бружэвіч - бібліятэкар, рахункавод;
6. Ян Багатыровіч;
7. Мікалай Бальцэвіч;
8. Інакенты Дзялакоўскі - "філіяліст" у Балінгродзе;
9. Антоні Ясінскі;
10. Тамаш Семяновіч;
11. Юзаф Станіслаўскі;
12. Станіслаў Леановіч.

**1840/41**

1. Ёзафат Вайшвіла - рэктар, дарадца правінцыі;
2. Юзаф Сангайла;
3. Каласанты Лукевіч;
4. Каласанты Барташэвіч - дэпазітар, дарадца Дома;
5. Леан Бружэвіч - бібліятэкар, рахункавод;
6. Ян Багатыровіч;
7. Мікалай Бальцэвіч;
8. Інакенты Дзялакоўскі - "філіяліст" у Балінгродзе;
9. Антоні Ясінскі;
10. Тамаш Семяновіч;
11. Юзаф Станіслаўскі;
12. Станіслаў Леановіч.

**1841/42**

1. Ёзафат Вайшвіла - рэктар, дарадца правінцыі;
2. Тадэвуш Малюкевіч;
3. Юзаф Сангайла;
4. Антоні Закрэўскі;
5. Каласанты Лукевіч;
6. Каласанты Барташэвіч - заслужаны;
7. Леан Бружэвіч - бібліятэкар, рахункавод;
8. Ян Багатыровіч;
9. Мікалай Бальцэвіч;
10. Інакенты Дзялакоўскі - "філіяліст" у Балінгродзе;
11. Антоні Ясінскі;
12. Тамаш Семяновіч;
13. Юзаф Станіслаўскі;
14. Станіслаў Леановіч;
15. Каласанты Якукевіч.

***Пераклад***
***Станіслава Судніка.***

**Віктар Кудла,**
*выпускнік Ганчарскай сярэдняй школы 1959 года*

# Сачыненне на тэму: “ЗВЕСТКІ ПРА СЯЛЯНСКАЕ ЖЫЦЦЁ, НАВУЧАННЕ, ВУЧНЯЎ І ІХНІ ЛЁС У ГАНЧАРСКАЙ АКРУЗЕ”

У Ганчарскую акругу ўваходзілі навакольныя вёскі: Агароднікі, Бенявічы, Баравічы, Вялічкі, Ганцавічы, Дроздава, Даржы, Дзітрыкі, Канюшаны, Навасады, Масявічы, Пескі, Супраўшчына, Жомайдзі, Жучкі.

Дадзеныя сабраны з успамінаў былых вучняў: ДЗІКЕВІЧА Мікалая Мікалаевіча, ДЗЯКЕВІЧ Любові Іосіфаўны, ДЗЯКЕВІЧ Марыі Іосіфаўны, СТАСЕВІЧ Галіны, ГРОС Тамары Уладзіміраўны, КАХАНОЎСКАЙ Ядвігі Міхайлаўны, ГЕРМАНОВІЧ Аляксандры Кандратаўны, ГЕРМАНОВІЧ Вольгі Кандратаўны, ГЕРМАНОВІЧ Сяргея Кандратавіча, РАІКА Георгія Іванавіча, ХРЫШЧАНОВІЧ Ніны Іосіфаўны, ПАПКОВІЧ Ірыны Васільеўны, ЗАЕКА Галіны Уладзіміраўны, КУДЛЫ Віктара Іванавіча, а таксама іх асабістых дакументаў і фотакартак, звестак ведамаснага архіва аддзела адукацыі Лідскага райвыканкама і часткова матэрыял КАПЦІЛОВІЧ Марыі Уладзіміраўны.

Сачыненне дапоўнена вершаванымі радкамі з паэмы Аркадзя Курыса "Роздум".

У пасляваенны час гісторыю нашай Бацькаўшчыны нам, вучням, выкладалі ад Вялікай Кастрычніцкай Сацыялістычнай рэвалюцыі. Вывучалі "Краткий курс ВКП(б)", ідустрыялізацыю, калектывізацыю, сталінскія пяцігодкі… А што да рэвалюцыі? - Цары, памешчыкі і капіталісты…

Каб крыху больш пазнаёміцца з першаснай адукацыяй нашых продкаў-беларусаў, трэба апусціцца ў далёкую даўніну.

Паколькі мова - з'ява грамадская, то яе вывучэнне непазбежна і неразрыўна звязана з вывучэннем гісторыі народа. Па-гэтаму нельга абысціся без вывучэння гістарычных фактаў фарміравання беларускай нацыі, культурных і грамадска-палітычных рухаў на Беларусі, усіх тых з'яў, якія так ці інакш аказвалі ўплыў на развіццё беларускай мовы і адукацыі.

Цяпер вядома, асноўныя асаблівасці беларускай мовы склаліся дзесці ў XIII стагоддзі. Пісьмовая форма пачала фарміравацца пазней, прыкладна ў XIV ст. на аснове жывой народнай гаворкі і агульнаўсходнеславянскіх моўных традыцый.

Трэба адзначыць, што ўжо ў XIV ст. беларуская мова была даволі добра распрацаванай: яна мела багаты лексіка-фразеалагічны слоўнік, даволі стройную граматычную сістэму. Беларуская мова гучала ў княжацкіх маёнтках, на сходах князёў у самой Вільні, шчыравала сярод простага народа. Асаблівага росквіту яна дасягнула ў XV - XVI стст., даўшы штуршок развіццю рукапіснай літаратуры. У гэты час з'явілася шмат пропаведзяў, разнастайных гістарычных і палемічных твораў. Усё гэта, безумоўна, садзейнічала ўзнікненню кнігадрукавання - найвялікшай падзеі ў духоўным жыцці ўсіх усходніх славян.

У XVI - XVII стст. на Беларусі ў розных сферах грамадскага жыцця, наперш, у рэлігіі і навуцы, была царкоўнаславянская мова як афіцыйная мова праваслаўнай царквы, але была не зусім зразумелай простым людзям (дарэчы і цяпер), якія ў паўсядзённым жыцці карысталіся жывой беларускай мовай.

*Дадаць было б зусім не кепска пра нашу мову колькі слоў.*
*Былі даследванні Юнэска пра мілагучнасць многіх моў.*
*І той камісіі выснова нам права гонару дала:*
*Другое месца наша мова на тых іспытах заняла.*
*А італьянская на першым, на ёй прыемна размаўляць*
*І, як на нашай, зручна вершы і песні добрыя складаць.*
*Тым, хто не дружыць з мовай роднай, я нагадаю факт такі,*
*Што наша мова міжнароднай была ў Сярэднія вякі.*
*Не верце выдумкам маскоўскім, што наша мова для сяла,*
*Ў Вялікім Княжастве Літоўскім яна дзяржаўнаю была.*
*І што б яны там ні казалі (яны ж не можуць без маны),*
*Не мы ж у іх культуру бралі, а бралі, кралі ў нас яны.*
*Даўно, аж трэцяе стагоддзе супроць яе ідзе вайна.*
*Але жыве яна ў народзе і будзе вечна жыць яна.*
*А тыя, хто дабра не зычаць майму народу, зноў і зноў*
*Нягоднай мову нашу лічаць. Адкуль такая нелюбоў?*
*Што так упарта намагае іх нашу мову задушыць?*
*Яна ім, можа, замінае на белым свеце добра жыць?*
*У гэтым крыецца нагода, бо свет даўно ўжо прызнае,*
*Што мова ёсць душа народа, якую Бог яму дае.*
*Таму прамая тут выгода ім нашу мову руйнаваць:*
*Няма душы - няма народа, лягчэй натоўпам кіраваць.*
*Ва ўсе часы, ва ўсе народы плямёнам, узятым у палон,*
*Каб знішчыць дух іх назаўсёды быў іхняй мове забарон.*

Першы падручнік у жыцці кожнага - буквар. Паспрабуем зазірнуць у мінулае і прасачыць гісторыю буквара. Высвятляецца, што буквар - ані слова, ані з'ява - не расійская. Гэтаксама, як і кнігадрукаванне, якое ў Расію прыйшло з тэрыторыі Вялікага Княства Літоў-

скага. Падручнік першай навукі чытання і пісання Францішка Скарыны называўся "Псалтыр". Першадрукар, які засвоіў кнігавыдавецкае мастацтва ў Еўропе, надрукаваў яго ў Вільні ў 1522 годзе. Кніга прызначалася для "навучэння грамаце дзяцей малых". Ні пра якое кнігадрукаванне ў Расіі на той момант не было і гаворкі.

З мэтай наблізіць простых людзей да культуры і навукі Францішак Скарына на палях сваіх выданняў рабіў глосы - падбіраў адпаведнікі да царкоўнаслявянскіх слоў, слоў запазычаных або ўстарэлых. Можна лічыць, што глосы, змешчаныя ў выданнях Ф. Скарыны - першыя працы па беларускай лексікаграфіі. Ф. Скарына падсвядома імкнуўся да прызнання яго роднай мовы ў якасці літаратурнай, дзяржаўнай, здольнай выконваць разнастайныя функцыі ў грамадстве. Гэты кірунак, намечаны Ф. Скарынам, знайшоў свой далейшы працяг у дзейнасці яго паслядоўнікаў - С. Буднага, В. Цяпінскага, Л. Зізанія, М. Смятрыцкага і іншых, якія поўнасцю перайшлі на беларускую мову.

Наступным такога роду падручнікам стала "Азбука" Івана Фёдарава, надрукаваная больш, чым праз паўвека пасля скарынавай кніжкі ў Львове. Фёдараўскі падручнік таксама прызначаўся для выкарыстання ў Вялікім Княстве Літоўскім, а не ў Расіі. Назапашаныя ў дастатковай колькасці аб'ектыўныя факты дазваляюць сцвярджаць, што Іван Фёдараў быў беларусам па паходжанні. Ён у 1574 годзе ў Львове выдаў падручнік "Граматыка-буквар", які неаднаразова перавыдаваўся пазней.

Буквар" І. Фёдарава невялікага памеру, мае 40 аркушаў. Экзэмпляр яго захоўваецца ў бібліятэцы Гарвардскага ўніверсітэта ў ЗША.

"Буквар" і "Азбука" І. Фёдарава прызначаліся для навучання. З выхадам кніжак гэта стала магчымым па-за межамі царквы, што мела вялікае значэнне ў гісторыі тагачаснай адукацыі.

Асветнік таксама знаёміць чытача з кірылічнай цыфір'ю, паводле якой ў стараславянскім пісьменстве лічбы абазначаліся літарамі алфавіта. Уласна тэксталагічная частка прапануе паўсядзённае правіла з найбольш ужывальнымі малітвамі. Змяшчэнне малітоўнага правіла ў старажытных падручніках было не выпадковым, бо па малітвах і ўрыўках са Святога Пісання не адно пакаленне нашых продкаў навучылася чытаць і пісаць. Пасляслоўе "Буквара" ўтрымлівае зварот да бацькоў і настаўнікаў, прасякнуты мудрасцю, чуласцю і спагадай, глыбінным разуменнем цярплівасці і любові, з дапамогай чаго толькі і можна наблізіцца да душы і розуму вучня, дзіцяці.

Нам ёсць чым ганарыцца: продкі сучасных беларусаў прыдумалі буквар, як кнігу з такой назвай. Айчынныя вучоныя змаглі даказаць, што ў першага "Буквара" беларускія карані.

Першая ў свеце кніга пад назвай "Буквар" была выдадзена 24 ліпеня 1618 года ў друкарні Віленскага Свята-Духава праваслаўнага брацтва. Гэта было адно з самых старажытных беларускіх выдавецтваў у Вялікім Княстве Літоўскім, якое выпускала нямала кніг на царкоўнаславянскай, старабеларускай і польскай мовах. Да таго былі іншыя вучэбныя выданні, але менавіта гэта першы "Буквар" падрыхтаваны сіламі манахаў. Хутчэй за ўсё, гэта была калектыўная работа. Поўная назва выдання "Буквар мовы славянскай". Гэта буквар царкоўнаславянскай мовы з азбукай, з малітвамі. Ён быў прызначаны навучыць не толькі грамаце, але і духоўнасці. Граматычны раздзел буквара нагадвае сціслы канспект "Граматыкі..." М. Сматрыцкага, які, несумненна, прымаў удзел у падрыхтоўцы гэтага выдання. Дакладнасць і прадуманасць кампазіцыі кнігі, агульнадаступнасць матэрыялу, адметнае мастацкае афармленне зрабілі "Буквар..." своеасаблівым узорам для іншых складальнікаў школьна-вучэбных кніг.

Нажаль, гэтага першага беларускага выдання, надрукаванага ў 1618 годзе, захаваліся толькі два экзэмпляры: адзін - у Лондане, другі - у Капенгагене. На радзіме ні аднаго экзэмпляра не захавалася: іх проста "зачыталі да дзірак", як часта бывае з вучэбнымі выданнямі.



2018 год стаў годам святкавання 400-годдзя першага ў свеце "Буквара", які мае беларускае паходжанне.

Першыя буквары былі арыентаваны на царкоўную практыку. Гэта не толькі кнігі для навучання звычайнаму пісьму і чытанню, але і для выхавання годнага чалавека. Тэксты не абстрактныя, а больш сур'ёзныя: малітвы, павучанні, настаўленні. Нашы папярэднікі лічылі: дзетак трэба караць, каб не раслі неадукаванымі і нявыхаванымі! Дарэчы, навучалі не толькі малых: чытанне часта было незнаёмай, але неабходнай справай нават для дарослых.

Пазней "Буквар" друкаваў Спірыдон Собаль у Куцеінскай друкарні, потым перавыдаў яго ў Магілёве ў 30-х гадах XVII стагоддзя.

Амаль усе старажытныя буквары маюць аднолькавую структуру і нават назву. Спачатку тытульны аркуш, пасля яго так званая азбука, або пералік літар - вялікія, малыя, і трэці варыянт, які зараз не практыкуецца, літары ў адваротным парадку: ад *Іжыцы* да *Аза*. Пасля ідуць склады па дзве літары, напрыклад, *"ба, бе, бо, бы..."*, а затым - па тры. Найбольш простыя словы з невялікай колькасці літар, таксама слоўнічак.





***А вось гэта самы старажытны беларускі "Буквар", выдадзены ў 1767 годзе ў Вільні, які захоўваецца ў калекцыі Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі***



На пачатку XVIII ст. адукацыя ў дзяржаве па-ранейшаму заставалася ў руках царквы. Пачатковыя веды давалі школы пры манастырах і кляштарах, праваслаўных і ўніяцкіх брацтвах. Дзейнічалі таксама навучальныя ўстановы Таварыства езуітаў, дамініканцаў, кармелітаў ды іншых каталіцкіх ордэнаў.



Шырокую сетку школаў, якія спаборнічалі з езуітамі і піярамі, меў уніяцкі Ордэн базылянаў. Адрозна ад каталіцкіх навучальняў тут захоўвала свае пазіцыі беларуская мова.

Пасля Паўночнай вайны шмат навучальняў у гарадах і мястэчках краіны адчыніў Ордэн піяраў. Падабенства навучальнай праграмы піярскіх школаў да перадавой езуіцкай, але менш суровая дысцыпліна рабілі іх вельмі папулярнымі, у праграме іх значнае месца занялі прыродазнаўчыя і свецкія гуманітарныя навукі, а таксама замежныя мовы.

У піяраў мелі магчымасць бясплатна навучацца дзеці бедных пластоў насельніцтва, у тым ліку сялянства. Найбольш вядомыя піярскія калегіюмы працавалі ў Вільні, Віцебску, Воранаве, Лідзе, Полацку, Шчучыне, Дуброўне, Геранёнах…

***Перапіс сялян 1793 года вёскі Дроздава. Тут у перапісе пад №№ 2,3 значацца продкі Кудлаў***

Важныя змены ў эканоміцы і грамадска-палітычным жыцці дзяржавы вымагалі карэннага рэфармавання сістэмы адукацыі. Гэтым занялася створаная ў 1773 г. Адукацыйная камісія Рэчы Паспалітай - фактычна першае ў Еўропе міністэрства асветы. У Вялікім Княстве дзейнасцю камісіі кіраваў падканцлер Яўхім Храптовіч, які наведаў шэраг еўрапейскіх краінаў і быў добра знаёмы з ідэямі Асветніцтва.

Адукацыйная камісія мела на мэце вызваленне асветы ад беспасярэдняга ўплыву царквы і наданне навучанню свецкага характару. Статут камісіі ставіў перад выкладчыкамі задачу імкнуцца, каб іх выхаванцы "дасягалі поспехаў разважаннямі, а не завучваннем на памяць". Ад рэлігійных навук перавага ў праграмах пераходзіла да прыродазнаўчых і грамадскіх. Новая сістэма асветы павінна была рыхтаваць адукаваных і карысных для дзяржавы грамадзян-патрыётаў.

Адукацыйны працэс на беларускіх землях у гэты час знаходзіўся пад моцным уплывам польскай і рускай традыцый, што тлумачыцца аб'ектыўнымі ўмовамі знаходжання Беларусі ў складзе Рэчы Паспалітай, а пасля Расійскай імперыі.

Пасля далучэння Беларусі да Расійскай імперыі якасна новым момантам у развіцці асветы на Беларусі

было фарміраванне сістэмы адукацыі: вышэйшай, сярэдняй і пачатковай. Стварэнне Міністэрства народнай асветы (1802 г.) цэнтралізавала дзяржаўнае кіраўніцтва школай. У кожным губернскім горадзе стваралася гімназія, у павятовым горадзе - павятовае вучылішча. Пры кожным царкоўным прыходзе - царкоўнапрыходскія вучылішчы, у якія прымаліся дзеці "ўсялякага стану" без розніцы "полу і гадоў". Прадугледжвалася пераемная сувязь паміж школамі розных ступеняў. Аднак фактычна для распаўсюджвання адукацыі сярод народа было зроблена мала. Казна не брала на сябе выдаткаў на ўтрыманне школ, перакладала гэта або на органы мясцовага кіравання, або на абшарнікаў. А ўжо Статут 1804 г. адзначаў, што дзяцей прыгонных сялян нельга прымаць у гімназіі. Несумяшчальнасць прыгоннага права з распаўсюджваннем адукацыі сярод шырокіх слаёў сялянства, станавілася больш відавочнай.

Важную ролю ў сістэме школьнай адукацыі працягвалі адыгрываць каталіцкія навучальныя ўстановы, якія належалі розным каталіцкім ордэнам. Значная частка гэтых навучальных установ падпарадкоўвалася ордэну езуітаў. Каталіцкія навучальныя ўстановы імкнуліся выхаваць у навучэнцаў прапольскі настрой. Мовамі навучання былі лацінская і польская. Прапольскай арыентацыі прытрымлівалася і кіраўніцтва Віленскага універсітэта. Усё гэта спрыяла паланізацыі пераважнай часткі адукаванага насельніцтва Беларусі.

Пасля шляхецкага паўстання 1830-1831 гг. царскі ўрад распачаў выцясненне польскай мовы і культуры, укараненне праваслаўя і ідэі адзінай рускай народнасці. Паланізацыі супрацьстаўлялася русіфікацыя, а на практыцы яна ўзмацняла паланізацыю. Бо тая частка шляхты, якая адмоўна ставілася да праваслаўя і палітыкі Расіі ўвогуле, была вымушана зліцца з польскім нацыянальным рухам, абвяшчаць сябе палякамі.

Расійскі ўрад добра разумеў небяспечнасць такой сітуацыі ў галіне адукацыі. У шэрагу мерапрыемстваў, накіраваных на пашырэнне рускага ўплыву ў краі, было закрыццё ў 1832 г. Віленскага ўніверсітэта і часовая ліквідацыя Віленскай навучальнай акругі (да 1850 г.). У школах у абавязковым парадку ўводзілася навучанне на рускай мове.

Ліквідацыя ўніяцкай царквы паскорыла закрыццё каталіцкіх манастыроў і іх навучальных установ. У ходзе рэформы навучальныя ўстановы розных ведамстваў перайшлі ў большасці сваёй у падпарадкаванне Міністэрству народнай асветы.

Разам з тым, ажыццяўленне школьнай рэформы на Беларусі супала з правядзеннем жорсткага курсу ў палітыцы царызму пасля задушэння паўстання 1863-1864 гг. За ўдзел выкладчыкаў, студэнтаў і навучэнцаў у паўстанні былі закрыты Горы-Горацкі земляробчы інстытут, Наваградская гімназія, Свіслацкая і Маладзечанская прагімназіі. Былі ліквідаваны польскія школы і амаль усе прыватныя вучылішчы як "расаднікі паланізацыі". У школах забаранялася выкладанне польскай мовы. Усім выкладчыкам і настаўнікам загадана было клапаціцца аб тым, каб у сценах навучальных установ гутарковай мовай была руская. Нягледзячы на жорсткі курс палітыкі расійскага ўрада ў галіне асветы, а таксама матэрыяльныя цяжкасці (адна школа прыходзілася на 8-10 вёсак, большая частка школ размяшчалася ў непрыстасаваных для заняткаў сялянскіх хатах, парт на ўсіх вучняў не хапала, вучэбных дапаможнікаў было мала, сшыткаў вучні сельскіх школ не мелі.

Вясковыя жыхары пакінулі нямала ўспамінаў пра вучобу ў народных школах. Вось як апісвае такія школы ў сваіх нататках Нестар Пярэві (1887-1971), адзін з дзеячаў Беларускай народнай грамады: *"Вучыліся па чарзе ў хатах, дзе былі вучань або вучаніца. Не было тады ніякага прымусу да вучобы. Вучыліся пераважна хлопчыкі, а гэта таму, што лепш было ў арміі тым салдатам, якія хоць трохі былі пісьменныя... Кніжкі былі толькі рускія. Буквары, азбукі, часам які-небудзь задачнік... На сцяне развешаныя карты свету і асобная вялікая карта Расіі".*



**Вось яна тыповая вёска 19-ага стагодзя:** у адзін радок "курныя" хаціны без камінoў, зрубленыя з крывых бярвенняў, расшматаны саламяны дах, прыціснуты жэрдачкамі ад вятрыска, малюсенькія акенцы з божскага шкла. На лаўках, прызбе і на зямлі сядзіць многа вясковых дзетак, а перад імі на ўзгорку - настаўнік. Гэта і ёсць "народная школа граматы"- прадзіма будучага навучання.

З 1881 г. у Расіі наступіў перыяд жорсткай палітычнай рэакцыі, якая адмоўна паўплывала на сістэму адукацыі. У адпаведнасці з Палажэннем 1884 г. аб царкоўнапрыходскіх школах пачаўся наступ на народныя вучылішчы, многія з якіх былі закрыты. Замест народных вучылішч ствараліся царкоўна-прыходскія школы і школы граматы, падначаленыя мясцоваму праваслаўнаму духавенству. Былі прыняты меры для абмежавання доступу ў сярэднюю школу выхадцам з ніжэйшых саслоўяў.

Летам 1887 г. выдадзены цыркуляр, які ў асяроддзі прагрэсіўнай грамадскасці атрымаў назву цыркуляра "аб кухарчыных дзецях". Ажыццяўленне цыркуляра, па задумцы аўтараў, павінна было вызваліць гімназіі і прагімназіі ад паступлення ў іх дзяцей фурманаў, лакеяў, кухараў, прачак, дробных гандляроў і да іх падобных людзей. *"Детей которых, за исключением разве одаренных необыкновенными способностями, вовсе не следует выводи ть из среды, к коей*

*они принадлежат"*. З гэтай мэтай была значна павышана плата за навучанне.

Сярэднія навучальныя ўстановы знаходзіліся ў буйных гарадах Беларусі, у іх вучыліся пераважна дзеці прадстаўнікоў прывілеяваных саслоўяў. З усіх сярэдніх навучальных устаноў толькі мужчынскія класічныя і рэальныя гімназіі давалі права паступлення ў вышэйшыя навучальныя ўстановы. Астатнія навучальныя ўстановы такіх правоў не давалі, іх выпускнікі займалі службовыя пасады. Напрыклад, выпускніцы жаночых гімназій звычайна атрымлівалі пасады настаўніц у народных вучылішчах, а тыя, хто найбольш паспяхова скончыў гімназію, званне "хатняй настаўніцы".

Аднак, нягледзячы на пашырэнне сеткі навучальных устаноў і рост кантынгенту навучэнцаў, узровень адукацыі заставаўся яшчэ нізкім. Паводле перапісу 1897 г. агульны лік пісьменных у Беларусі складаў толькі 25,7 %.

У пачатковых школах у 1911 г. вучылася толькі 18, 4 % дзяцей школьнага ўзросту.

У дарэвалюцыйнай Расіі існавала развітая сістэма сельскагаспадарчай адукацыі. Асабліва колькасны рост сельскагаспадарчых навучальных устаноў наглядаўся пасля адмены прыгоннага права. Сярэднія і ніжэйшыя сельскагаспадарчыя школы мелі на мэце падрыхтоўку абслугоўваючага персаналу для памешчыцкіх маёнткаў, настаўнікаў і сельскіх гаспадароў. Ніжэйшыя сельскагаспадарчыя школы падзяляліся на агульныя (давалі веды па вядзенні сельскай гаспадаркі ў цэлым) і спецыяльныя (выкладаліся прадметы, звязаныя з якой-небудзь адной спецыяльнасцю: садаводствам, пчалярствам, малочнай гаспадаркай…).

Акрамя гэтага, існавалі тыпы камерцыйных навучальных устаноў: гандлёвыя класы, гандлёвыя школы, камерцыйныя вучылішчы, курсы камерцыйных ведаў.

Дынамічна развівалася на Беларусі сельскагаспадарчая адукацыя, што было звязана з паспяховым развіццём сельскай гаспадаркі і існаваннем попыту на прафесіяналаў у галіне земляробства, жывёлагадоўлі і па іншых сельскагаспадарчых спецыяльнасцях.

Працягвала сваю работу Горацкае земляробчае вучылішча, сярэдняя сельскагаспадарчая навучальная ўстанова, адкрытая яшчэ ў 1840 г. Навучанне тут уключала агульнаадукацыйныя і спецыяльныя прадметы, а таксама шматлікія практычныя заняткі па батаніцы, метэаралогіі, геадэзіі, заалогіі, анатоміі, раслінаводству. Вучылішча мела сваю бібліятэку, доследнае поле, батанічны сад, пасеку, жывёлагадоўчую ферму.

У 1878 г. была адкрыта Мар'інагорская казённая сельскагаспадарчая школа. Пры школе мелася зямля ў памеры 150 дзесяцін. На жывёлагадоўчай ферме разводзілася племянная жывёла. Адной з мэт існавання школы, разам з падрыхтоўкай спецыялістаў, было распаўсюджванне сярод сялян перадавых метадаў вядзення сельскай гаспадаркі.

У той час існаваў шэраг спецыяльных сельскагаспадарчых школ:

Зіноўеўская школа садовых рабочых (Магілёўскі павет), практычная школа быдлятнікаў у маёнтку Ляўкі (Горацкі павет), Ждановіцкая жаночая школа



Аа Бб Вв
Гг Дд Ее
Жж Зз Ии
Іі Йй Кк
Лл Мм Нн
Оо Пп Рр
Сс Тт Уу
Фф Хх Цц
Чч Шш Щщ
Ъъ Ыы Ьь
Ѣѣ Ээ Юю
Яя Ѳѳ Ѵѵ

— 21 —

**Муравей и Голубка.** (Басня.)

Муравей спустился къ ручью: захотѣлъ напиться. Волной плеснуло на Муравья, и сталъ онъ тонуть.

Голубка несла вѣтку. Она увидала — Муравей тонетъ, и бросила ему вѣтку въ ручей. Муравей сѣлъ на вѣтку и спасся.

Потомъ охотникъ растянулъ сѣть на Голубку и хотѣлъ захлопнуть. Муравей подполъ къ охотнику и укусилъ ему ногу. Охотникъ охнулъ и уронилъ сѣть. Голубка вспорхнула и улетѣла.

**Два Козлика.** (Басня.)

Черезъ ручей положена доска. Встрѣтились на доскѣ два Козлика.

Ни одинъ не хотѣлъ уступить другому дороги. Началась драка. Дрались, дрались, да оба и упали въ воду.

**Двѣ Козы.** (Басня.)

На узенькой горной тропинкѣ встрѣтились двѣ Козы. Налѣво гора, какъ стѣна,

малочнай гаспадаркі (Чавускі павет), Бабруйская школа садаводства, агародніцтва і хмеляводства, Полацкая ніжэйшая лясная школа, Малалосвідская практычная школа садаводства (Гарадоцкі павет) і інш.

Сельскагаспадарчая адукацыя ажыццяўлялася і шляхам арганізацыі курсаў для жадаючых набыць некаторыя звесткі па розных галінах сельскай гаспадаркі. Для паскоранай падрыхтоўкі настаўнікаў Міністэрства народнай асветы стварала пры вышэйшых пачатковых вучылішчах двухгадовыя педагагічныя курсы. Настаўнікаў для царкоўнапрыходскіх школ рыхтавалі царкоўна-настаўніцкія і двухкласныя настаўнцкія школы, духоўныя семінарыі.

У 60-80-я гады XIX ст. у мясцовых выдавецтвах Беларусі выходзілі пераважна рэлігійная і багаслоўская літаратура, граматыкі і азбукі, даведнікі, невялікія зборнікі вершаў. Кнігі выдаваліся галоўным чынам на рускай, яўрэйскай і польскай мовах, некалькі кніг у год выходзіла на літоўскай мове. На беларускай мове за гэтыя гады ў краі не было выдадзена аніводнай кнігі. У краі выдавалася газета "Виленский вестник" на рускай мове, якая стала выразніцай інтарэсаў мясцовых памешчыкаў, якія і склалі асноўную масу яе падпісчыкаў.

Пэўны адбітак на развіццё беларускай літаратуры аказала паўстанне 1863-1864 гг. Шырока распаўсюджваліся ананімныя "гутаркі", складзеныя дзеячамі нацыянальна-вызвольнага руху, адрасаваныя беларускім сялянам і прысвечаныя крытыцы сацыяльных парадкаў у царскай Расіі. Яркім прыкладам мастацкай рэвалюцыйнай публіцыстыкі з'яўляецца газета К. Каліноўскага "Мужыцкая праўда" і яго "Лісты з-пад шыбеніцы". Выкарыстоўваючы фальклор-ную сімволіку і традыцыйную форму народнай "гутаркі", аўтар "Мужыцкай праўды" заклікаў сялян да барацьбы за лепшую долю. У "Лістах з-пад шы-беніцы" К. Каліноўскі развітваецца са сваім народам перад пакараннем смерцю і выказвае веру ў тое, што народ яшчэ ўзнімецца на барацьбу.

Вяршыняй развіцця беларускай літаратуры другой паловы XIX ст. стала творчасць Ф. Багушэвіча. У 1891 г. у Кракаве выдадзены яго першы зборнік "Дудка беларуская" пад псеўданімам Мацей Бурачок. У 1896 г. таксама за мяжой пад псеўданімам Сымон Рэўка з-пад Барысава з'явіўся зборнік "Смык беларускі". Да гэтых зборнікаў Ф. Багушэвіч складаў прадмовы, дзе імкнуўся абудзіць нацыянальную свядомасць беларускага народа. Ён першы з беларускіх пісьменнікаў абвясціў існаванне беларускага этнасу і адзначыў самастойнасць беларускай мовы. Цэнтральная тэма творчасці Ф. Багушэвіча - жыццё паднявольнага сялянства, яго пошукі справядлівасці і выйсця з сацыяльнага бяспраўя.

Нягледзячы на ўсе цяжкасці, паступова адбывалася фарміраванне нацыянальнай свядомасці беларусаў. У канцы 19-га стагоддзя тэрмін "Беларусь" і назва "беларусы" замацавалася на ўсёй этнічнай тэрыторыі беларусаў.

Перапіс 1897 года засведчыў, што абсалютная большасць жыхароў нашай мясцовасці назвалі сябе беларусамі.

А вось як сялянскі пісьменнік М. Красоўскі, па мянушцы Дзядзька Квас (1904-1985), даволі падрабязна апавядае аб школе: *"На ўроку я даведаўся, што Гродзенская губерня ..., дзе знаходзіцца наша вёска, заселеная, акрамя літоўцаў і габрэяў, беларусамі - рускім племем, мова якога адрозніваецца ад чыста рускай прымешкай польскіх слоў. Беларусамі яны называюцца таму, што маюць у большасці бела-русыя валасы і ўсе носяць белыя адзенні, пачынаючы ад кашулі і канчаючы світкай. Тады і ў нашай акрузе адзенне ва ўсіх сялян было белае. І тут мяне ахінула здагадка: а мы простыя людзі ці не з'яўляемся гэтымі самымі беларусамі?*

*Хто ж растлумачыць мне гэта? І я вырашыў звярнуцца да свайго бацькі. Мой бацька, маючы зусім мала зямлі і вялікую сям'ю, увесь час круціўся на заробках. Бывала, што і па некалькі тыдняў не начаваў дома. А як прыходзіў дадому, то спяшаўся як мага хутчэй зрабіць запушчаную працу па гаспадарцы. Ніколі не меў часу заняцца дзецьмі, усё ўрыўкамі абменьваўся з намі парамі слоў. Я, тым не менш, падпільнаваў яго ў свабодны момант:*

*- Тату, а мы, людзі простыя, не з'яўляемся часам беларусамі?*

*- Ясна - беларусамі, - кажа бацька. - І наша мова, яе завуць простай, і ёсць беларуская. Вось я служыў у салдатах аж у Магілёўскай губерні, то і там усе кажуць на гэтай жа простай мове, як і мы.*

*- А чаму нас, беларусаў, вучаць на рускай, а не на сваёй роднай мове?*

*- А гэта таму, што рускі цар-гасудар валодае намі.*

*- А ў беларусаў быў калі-небудзь свой цар беларускі, з беларусаў - беларус?*

*- Вось гэтага, сынок, я нідзе ні ад каго не чуў, каб цар быў беларускі ў беларусаў. Мне думаецца, што ў беларуса не можа быць цара, бо наш беларускі народ увесь сялянскі. Бедны ён, цёмны, і невучоны... Цары ж і каралі заўсёды адбываюцца з багацеяў. Натурай наш брат-беларус не падыходзіць для гэтай вакансіі. Празмерна ён справядлівы, мяккасардэчны. А цар, тым ён і цар, што сэрца ў яго цвёрдае, як камень. Натура ў яго жорсткая, не спагадная на боль і слёзы людскія ... "*

1 верасня 1906 г. у Вільні выйшаў першы нумар штотыднёвай газеты на беларускай мове "Наша доля", якая выдавалася групай дзеячаў Беларускай сацыялістычнай грамады. Пяць з шасці нумароў гэтай газеты былі канфіскаваны, у студзені 1907 г. выданне "Нашай долі" канчаткова забаронена.

З лістапада 1906 г. у Вільні пачала выходзіць газета "Наша ніва".

Зародзіны беларускай школы пачынаюцца дзесьці з 1906 года, калі пры намаганні Канстанціна Міцкевіча, маладога беларускага паэта і настаўніка, а таксама Язэпа Лёсіка, беларускага філолага, заснаваўся тайны настаўніцкі гурток дзеля тайнага наву-

чання беларускіх дзяцей у іх роднай беларускай мове.

Тады, напачатку мінулага стагоддзя былі выдадзены беларускія кніжкі: "Першае чытанне для дзетак-беларусаў" Цёткі, "Лемантар" Каруся Каганца, "Другое чытанне для дзяцей-беларусаў" Якуба Коласа.

Верш Янкі Купалы:
*Магутнае слова, ты, роднае слова!*
*Са мной ты на яве і ў сне:*
*Душу мне затрэсла пагудкаю новай,*
*Ты песень наўчыла мяне.*
*Бяссмертнае слова, ты, роднае слова!*
*Ты крыўды, няпраўды змагло;*
*Хоць гналі цябе, накладалі аковы,*
*Дый дарма: жывеш як жыло!*



***Янка Купала і Якуб Колас***

Разам з Янкам Купалам заснавальнікам новай беларускай літаратуры і літаратурнай мовы стаў Якуб Колас. Першы верш паэта "Наш родны край" з'явіўся ў друку ў 1906 г. Першы зборнік вершаў "Песні-жальбы" быў надрукаваны ў 1910 г. У сваёй грамадзянскай лірыцы Я. Колас часта звяртаецца да селяніна, імкнучыся абудзіць яго свядомасць. У 1912 г. выйшаў першы зборнік яго празаічных твораў "Апавяданні", а ў 1914 г. - "Родныя з'явы", куды ўвайшлі хрэстаматыйныя сёння апавяданні "Нёманаў дар" і "Малады дубок". Якуб Колас пачаў стварэнне сваіх класічных паэм "Новая зямля", "Сымон-музыка".

Дакастрычніцкая творчасць паэта - сапраўдны




мастацкі летапіс жыцця беларускага народа.

А вось і даволі трапнае паэтычнае настаўленне народнага настаўніка таго часу Канстанціна Міцкевіча, у будучым літаратурнага класіка Якуба Коласа, адрасаванае сялянскім дзецям. Ён уклаў такі вершаваны зварот бацькі да сына:

*Ну, Ігнат, глядзі, брат, не дурэй, вучыся!*
*Годзе жыць без дзела. Станеш чалавекам,*
*Будзеш ты чытаць нам - цёмным неумекам,*
*Што там ў кнігах пішуць, што мы ў свеце значым,*
*Бо мы самі цёмны, света мы не ўбачым.*
*Гаварыць там будзеш пра навуку,*
*кнігі і аб цёмным людзе.*
*А старанным будзеш, да навукі здатны,*
*Я прадам кароўку і кажух астатні;*
*Далей йдзі ў навуку. Толькі, брат, вучыся.*
*Дык глядзі, сыночак, шчырэнька, вазьміся!*
*На гульню пустую - плюнь, махні рукою,*
*Каб і я, і маці цешыліс табою".*

Так заклікаў Якуб Колас да навукі беларускіх сялянскіх дзяцей, і ўжо тады галоўнай дамінантай народнай асветы было менавіта распаўсюджванне ведаў аб Беларусі, яе гісторыі, геаграфіі, месцы ў свеце.

Адзіны паэтычны зборнік "Вянок" належыць Максіму Багдановічу, аднак ён дазволіў паэту заняць значнае месца ў беларускай літаратуры. Для яго лірыкі характэрна паглыбленне ва ўнутраны свет героя, філасофскі роздум.

*(Працяг у наступным нумары.)*

**Ежы Путрамант**

# ПАЎВЕКУ

## *Вайна**

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

**Холм і Люблін**

Нарэшце адлёт! Сядаемся ў Кіеве, нічога з гэтага не памятаю, можа, трохі атмасферу, вядомую з аповесці Някрасава "У родным горадзе". Каля вакзала натоўпы гандляроў, нейкія яшчэ прыватныя латкі, пыл, гарачыня. А можа гэта з нейкага ранейшага прыезду? Быў тут, здаецца ў чэрвені, першы З'езд палякаў Украіны пасля вызвалення. Я прамаўляў на ім ад імя польскіх пісьменнікаў.

Зноў палёт. Выглядаем праз акенца Буг. Доўга яго няма. Сядаемся на нейкім лясным аэрадроме, трэба ісці некалькі соцень метраў да адзінага тут будынка, страшна далёка, як падаецца з самалёта...

Ляцім. Буг прагапілі, бо хмары. У Кіеве не маглі нам сказаць, дзе ПНВК, у Холме ці ўжо ў Любліне. Сядаемся ў Холме. 1 жніўня 1944 года.

Аэрадром палявы. Страшна рычаць пры пасадцы "Які". Ідзе дождж, праз хмары свеціць сонца, доўга чакалі, пакуль прыехала санітарка і па страшнай дарозе датарабанілі да горада.

Велізарны, непрапарцыянальна вялікі, як на двухпавярховае мястэчка, гмах былой дырэкцыі Польскіх чыгуначных ліній. Сцяг, пастарункі. Але ПНВК адтуль ужо выфыркнуў. Падаецца, у Люблін, а, можа, і далей. Камюніке смутна гавораць пра бітвы над Віслай. Хто ведае, ці нашы не дасягнулі ўжо да Варшавы.

Дождж лье, змяркаецца. Нягледзячы на гэта рушым у горад. Агарнула мяне нецярплівасць. Абавязкова, любой цаной, як найхутчэй хачу знайсці адзінага холмскага літаратара, вядомага ў Польшчы, ці КАЯ, Казіміра Андрэя Яворскага, паэта і перакладчыка, рэдактара і выдаўца мілай, непрэтэнзійнай "Камены".

Падавалася мне, што яго павінна тут ведаць кожнае дзіця. Але нейкі час наогул нтыкаўся на пацісканне плячамі, а калі нарэшце трапляю на след - то таму, што гавару: настаўнік гімназіі. Пра паэта тут не чулі.

Весткі невясёлыя. Быў у Араніенбургу. Цяпер, здаецца, недзе на вёсцы.

Дождж лье. Самалёты вяртаюцца. Начуем у нейкай чыгуначнай калоніі, занятай пазней немцамі, а цяпер пустой. На кожнага з нас прыпадае па некалькі пакояў. Аж страх...

На наступны дзень зноў самалёт, дзесяць з нечым хвілін палёту тут жа над дрэвамі. Люблін.

Так, як Холм бачу пастаянна ў дажджы, так пасля Любліна засталося мне ў памяці шмат сонца, гарачыні, пылу. Мы прыехалі ў момант, калі першы пад'ём, выкліканы свабодай, ужо прайшоў, а жыццё яшчэ не ўнармавалася. Было вельмі блізка ад фронту. Горад гуў ад аўтамабіляў. За магутнымі грузавікамі дробна тупалі, як таксы супрацьтанкавыя гарматкі або беглі рыссю гарбатыя, атуленыя ў брэзент, зеніткі. Праляталі адрыўкі песень і пакуль іх удавалася дачуць, спевакі ўжо міналі паварот, хіліліся ў кузаў аўтамабіля, знікалі. Кірунак быў адзін. Захад.

Было страшна мала часу. Дзень па дні міналі хутчэй, чым калі-небудзь. Сёння ўжо цяжка згадаць усё, чым яны былі напоўнены. А калі спрабую адкрыць сабе тагачасны пейзаж - вось галоўны матыў: распаленае жніweньскае сонца, неба чыстае, блакітнае, на гарызонце ўжо па-асенняму прыбляклае. Недзе вельмі высока адзін нябачны самалёт. Яго вуркатанне, то сцішанае, то ўзрослае кружыцца над намі без перапынку.

**Першыя ўражанні**

Спрабуем раздзяліць успаміны. Найперш абагульненні, потым дробныя, канкрэтныя факты.

Маё галоўнае пачуццё: дзіўны, невядомы мне край. Пасля Сельцаў, пасля жытомірскіх і луцкіх вёсак, у Любліне выцяла мяне нешта вялікагарадское. Дзіўна, нават нядаўняя Вільня не аслабіла гэтага кантрасту.

З чаго гэта бралася? Не з велічыні горада, канешне, не з архітэктурнай прыгажосці. Думаю, што вялікую ролю ў тым адыграў такі празаічны момант як крамы ці рэстараны.

У Вільні нічога такога не было: толькі сталоўкі. Тут мы засталі шмат дробных прыватных крамак, якія гандлявалі, чым хочаш, не маючым пераважна ніякага значэння. Нейкія жудасныя ўпрыгожванні, сувеніры, паштоўкі. Бутэлечка лаку. Шчотка з рысавай саломкі. У тыя ваенныя часы можна было без гэтага дакладна абысціся, толькі таму, зрэшты, засталося гэта яшчэ ў крамках. А перш за ўсё сам факт, што можаш у любую хвілю ўвайсці ў крамку і зажадаць, што захочаш з тых

*Пераклад з польскай Станіслава Судніка паводле **Jerzy Putrament. "POL WIEKU. Wojna."** (Том 2 тэтралогіі), Czytelnik, Warszawa, 1962.

скарбаў - стварала ў душы частку таго ж уласна паняцця вялікагародскасці. Яшчэ больш падтрымлівалі гэтае ўражанне забягалаўкі і кавярні, якія ўжо тут існавалі, хоць бедныя і непаработлівыя.

Люблін падаўся мне вельмі парадным, чыстым, з прэтэнзіямі на элегантнасць. Нешта такое бачыў перад тым - але ў меншай ступені - у Роўна. І гэта не цяжка расшыфраваць. Мы патрапілі перш за ўсё на будынкі панямецкія. Сядзелі там перад намі досыць высокія чыноўнікі або афіцэры. Гэтыя ж "з ідэалагічных поглядаў" стараліся свае афіцыны абставіць "рэпрэзентацыйна".

У першыя дні панаваў тут, канешне, вялікі балаган. На мурах і парканах яшчэ страшылі гітлераўскія абвесткі і загады, пачыналі жоўкнуць ліпеньскія маніфесты, выскоквалі з дня ў дзень усё больш шматлікія распараджэнні толькі ўзнікаючых уладаў. З'явіліся таксама першыя ўлёткі і надпісы, скіраваныя супраць нас.

Спазніўся, не быў пры ўваходзе нашай арміі ў Люблін. Апавядалі, што ў Холме здарылася прыкрая гісторыя: натоўпы былі велізарныя, усе выбеглі на вуліцы, і, калі аўтамабіль якраз пад'язджаў, упаў пад кола нейкі падлетак.

Калі я прыехаў, таго паўсюднага пад'ёму ўжо не застаў: вельмі хутка ад стыхійнай еднасці справа вярнулася да нормы, да барацьбы. Нажаль, вельмі хутка набыла яна крывавыя формы.

Як праз імглу прыпамінаю сабе расклееныя мабілізацыйныя загады, падпісаныя мясцовай камендатурай АК. А адразу на пачатку жніўня недзе пад Холмам здзейснены першы замах супраць народнай улады. Вайсковая машына, якой ехаў на мабілізацыю наш маёр, свежа прызначаны камендантам РКУ, трапіў на міну. Загінула некалькі чалавек на чале з маёрам.

Першыя акты барацьбы распачыналіся ў вельмі нявыгадных для нашых ворагаў акалічнасцях: ва ўмовах зямельнай рэформы. Першая вялікая акцыя ПНВК адразу сустрэла зацятае супрацьдзеянне розных лонданскіх агентаў. Не шкадавалі нічога: ад плётак, запужвання тых, хто браў зямлю, аж да нападу, біцця і забойства нашых пасланцаў, якія дзялілі зямлю, і лішне актыўных з тых, хто зямлю браў.

Але я быў у горадзе, увесь паглынуты новай для мяне працай, гэта ўсё даходзіла да мяне ў аповесцях і настроі, не бачыў на ўласныя вочы нічога з найтрагічнейшых частак тагачаснага жыцця.

**"Рэчпаспаліта"**

Нашую газету назвалі "Рэчпаспаліта" ("Рэспубліка"). Прынялі гэтую прадстаўнічую назву, хоць перад вайной было ўжо такое выданне, якое выдавалі пямяркоўныя эндэкі і якое падупала разам з закатам памяркоўнасці. Барэйша аднак адважыўся назву забраць: была вельмі выгадная. Бо выданне мела быць не партыйнае, народна-франтаўскае. Адначасова ўзнікалі органы ўзнікаючых партый, якія выходзілі з падполля. ПРП мела "Голас народа", ПСП - канешне, "Работніка", Народны блок - бадай што, "Зялёны штандар". Мы былі "агульныя".

Першы нумар газеты выйшаў з датай 4 жніўня. ці праз два дні пасля нашага прыезду. Узважыўшы ўмовы, вычын проста незвычайны.

Барэйша ў той час пераджываў проста фантастычны перыяд. Яго энергія, кемлівасць, размах аказаліся непараўнальнымі. Мы прыехалі ў горад невялікі, але прызначаны на сталіцу. Усе лепшыя будынкі ўжо выбралі сабе мацнейшыя інстытуцыі з ПНВК і камандаваннем войска на чале.

А між тым ужо ў першы дзень Барэйша вытрас і загроб вельмі прыгожы і добра дагледжаны гмах на Кракаўскім прадмесці, 61. Цэлы паверх пайшоў пад рэдакцыю. Сабе ўзяў вялікі кабінет з прыгожым дываном, тэрасай і павойнымі раслінамі. Збоку пусты пакойчык, прызначаны для мяне. Я быў яго намеснікам. Мікулка, здаецца, быў сакратаром рэдакцыі. Яшчэ некалькі чалавек...

Ва ўсім Любліне была адна старэнькая друкарня, здаецца, без лінатыпаў і з вельмі прымітыўнай друкарскай машынай. Хоць наклады газет былі невялікія, было тых газет столькі, што друкарня працавала без хвілі перапынку, паводле вельмі шчыльнага пагадзіннага раскладу. На шчасце памеры газет таксама былі невялікія, наша мела чатыры палоскі фармату ў два разы меншага, чым сённяшняя "Трыбуна". Часам шэсць.

Гэта страшная рэч, газета. Як тэатр, становіцца прафесіяй - наркотыкам, засмоктвае чалавека без рэшты, не пакідае яму часу ні на што акрамя яе, а калі яе кіне, не шмат іншых заняткаў патрафіць яшчэ чалавека зацікавіць, так усё пасля яе падаецца кволым, нічога не вартым.

Цяпер я пачынаў у гэта ўцягвацца. Пісаў традыцыйныя агляды дзеянняў на франтах, вельмі павярхоўныя, бо абапёртыя толькі на афіцыйныя камюнікe. Часам нешта большае.

Рабіў за тое шмат рэдакцыйных дробязяў. Нумар пасля дыскутавання, складання, вёрсткі, карэктуры - але перад пускам у друк, ішоў яшчэ раз да Барэйшы. Змучаны за цэлы дзень беганіны згрызоты за паперу, фарбу, машыну, канферэнцыямі і нарадамі, Барэйша вяртаўся дадому, еў абы што, абы шмат і хутка, а потым валіўся часта ў вопратцы на лежбішча. Каля першай кур'ер з рэдакцыі прывозіў яму калонкі. Барэйша прачынаўся, хвіліну чухаўся, непрытомны, потым сядаў да чытання. Некаторыя рэчы, якія маглі мець нейкае "алюзійнае" значэнне, чытаў па некалькі разоў, не адразу будучы пэўным у сваім меркаванні. Наогул, у той час гэта не былі жарты, карэктура. Даходзіла да таго, што ўжо пасля ўсіх чытанняў правяралі. ці першыя літары кожнай калонкі вершаў не ўкладаліся выпадкам у непрыемныя анаграмы.

Прагледжаныя на ўсе бокі аркушы ішлі ў дру-



***Люблін, жнівень 1944. На тэрасе рэдакцыі "Рэчыпаспалітай". Візіт Ярача. Збоку ад яго сядзяць Зося Дамбінская і Зофія Быстрыцкая. Стаяць злева направа: Курылюк, Путрамант, Мікулка, Сігалін, Барэйша***

карню. Барэйша вяртаўся на лежбішча.

Цяжка іначай назваць тое, на чым спаў. У той час як бы сумысля падкрэсліваў у сабе і вакол сябе абыякасць, неахайнасць, каб тым мацней давесці, што моцна заняты важнымі справамі, што было праўдай, і не мае часу на дробязі.

І таму паступова я пераймаў то гэты, то той з яго абавязкаў. Памятаю, колькі светлага трымцення перажыў, калі даручыў мне накрапаць уступны артыкул. Яны былі не падпісаныя - гэта значыць у тры разы больш адказныя. Страшна пацеў, пакуль вымучыў тыя дзесяць з нечым фраз: мусілі быць забяспечаны з усіх бакоў, гэта значыць на практыцы, дасканала нейтральныя. Пазней ішло гэта, як вада з крана...

Думаю, што для даследчыкаў "памылак і скажэнняў" у вобласці прапаганды цяжка знайсці больш удзячны матэрыял, чым перадавіцы. Тут клопат аб абароне таго, хто піша, ад лупцоўкі з боку начальнікаў так несумненна пераважае над клопатам аб здабыцці сабе прыхільнікаў сярод чытачоў, што з клінічнай дакладнасцю можна назіраць усе таямніцы выкручвання ад таго, каб не назваць рэч па імені, раздзімання аднаго, замочвання іншага, усе хітрасці і, Бог ведае, што яшчэ.

Ведаю нават тэарэтыкаў гэтага мастацтва гаварыць пра нішто. Праз некалькі гадоў адзін з іх цалкам сур'ёзна мне тлумачыў: калі хочаш хваліць дасягненні, каля адной дзясятай пасвяці паказу двух-трох недахопаў. Бо іначай будзе, што не бачыш далейшых мажлівасцяў развіцця. Наадварот. калі маеш крытыкаваць, што найменш адну трэць на пачатку пасвяці асвятленню пазітываў, каб не выглядала, што крытыкуеш самі асновы. Канец цытаты.

Так, але першая перадавіца падавалася мне амаль зыходным пунктам маршу чалавецтва да сацыялізму...

Пазней, калі Барэйшы не было, я праглядваў і падпісваў палосы. Дзіўна, не меў асаблівых уражанняў ад адказнасці. Вынікала гэта напэўна з адсутнасці ўяўлення.

Часам трапіцца мне нумар "Рэчыпаспалітай". Маю нават асобнік яе сотага нумара. На крэмавай, пакункавай паперы, залатой фарбай ціснены - але вельмі, вельмі вадзяністы... Адзіны яго больш-менш жывы акцэнт - гэта верш Яна Гушчы, наймалодшага з жагарыстаў, а можа, найстарэйшага з постжагарыстаў, які толькі вярнуўся з I Арміі і таксама працаваў у рэдакцыі.

**Радзівілаўская, 9**

Першыя дні жылі групай з некалькіх чалавек на зашклёнай верандзе нейкага дома каля Спакойнай, амаль насупраць гімназіі, дзе размясціўся ПНВК. Час быў так запоўнены, што я толькі прыходзіў на ноч, у поцемку (было зацямненне) валіўся на ложка, уставаў з сонцам. У куце падворка велізарная сціпта зграбных бутэлек рэйнскага віна, якое вытрубілі немцы. Нейкі налёт.

У той першы перыяд мы жылі ў стадыі "першабытнага камунізму". Была, напр., толькі адна сталоўка, таксама па суседству. У хвілю выдачы абедаў натоўп людзей запаўняў газоны. Сядалі за доўгія сталы, бадай што на лавах, а можа крэслах, якія часам трэба было прыносіць з сабой. Елі тут усе - ад шафёраў грузавікоў да свежа спечаных міністраў. Гэтыя мелі тэарэтычнае права на асобны стол, дзе тэарэтычна абслужваліся па-за чаргой. Але на практыцы націск чакаўшых быў такі вялікі, што любое пустое месца бралі штурмам, незалежна ад рангу.

З'еў тут неяк абед каля невысокага чалавека з цёмнымі валасамі, невялікімі вусікамі і дабрадушным, трохі змучаным поглядам. Не меў паняцця, што за ён. Але бачу, што пасля абеду размаўляе з маім адным знаёмым, а потым быў сапхнуты хваляй падыходзячых, сходзіць са сцежкі на газон.

Пытаюся ў знаёмага, хто гэта.

- Як хто, гэта ж Берут!

Мы яшчэ не ўмелі друкаваць фатаграфіі. Прозвішча ўжо ведаў, твара яшчэ не бачыў. З гэтым прозвішчам ужо дзеяліся розныя рэчы. Шапталі, што не сапраўднае, што сапраўднае Бярнацкі-Руткоўскі. Нібы для нечага ад двух прыгожых прозвішчаў адрокся на карысць трэцяга, для чаго, гэтага ўжо шатуны не тлумачылі. Важней было шапнуць: у іх усё - ліпа...

З той сталоўкі яшчэ дробязь. Была яна ў невялікім, вельмі "gemutlich" доміку. Канешне, што панямецкі, таму ў сталоўцы віселі рогі аленя. Віселі сабе віселі, аж раптам - бэнц, падаюць. Адна з нашых рэдакцыйных працаўніц атрымоўвае імі па галаве так моцна, што некалькі тыдняў мусіць ляжаць у ложку. Не цяжка на анекдоты. Што лёс бывае зласлівы, то ведаю, але каб меў такое пачуццё гумару - першы вядомы мне асабіста довад. Бо той выстрал рагамі быў выключна трапны.

Праз некалькі тыдняў, калі аказалася, што савецкае наступленне затрымалася на Віслe, Барэйша вытрас для нас цэлы асобны домік каля пляца Уніі, на Радзівілаўскай, 9. І тут размяшчалася нейкая афіцэрская сталоўка ці чыноўніцкі клуб. На першым паверсе была вялікая зала і бадай што тры асобныя пакоі, усе зробленыя ў стылі псеўда-старанямецка-народным, гэта значыць з шалёўкамі, з лавамі, якія з іх выраcталі, са сталамі, адпаведна зробленымі, яшчэ з нечым такім на сценах.

У час баёў у домік патрапіў адзін снарад, выбіўшы дзірку ў сцяне. Напэўна, таму не хапнулі яго мацнейшыя за нас інстытуцыі. Барэйша залатаў дзірку, і раптам стала тут вельмі прыемна. Быў нават садзік, ужо спустошаны грузавікамі, якія сюды ўрываліся, але яшчэ з нейкай разьбой.

Гэты домік стаў галоўнай кватэрай для літаратараў на ўвесь люблінскі перыяд. Дзякуючы Барэйшу, кожны літаратар, які прыязджаў у Люблін, перш чым атрымаць працу ці жыллё, ужо мог тут есці і спаць. Есці і піць, трэба разумець. Пілі, зрэшты, моцна. Мінкевіч, які аказаўся тут вельмі хутка, правёў гамерычны матч з Мікулкам, якога перамог па пунктах. Спаіў нават мяне. Гэта, мабыць, у перадапошні раз у жыцці я быў сапраўды п'яны. Знакаміты партызан Озга-Міхальскі, прыехаў якраз з сандамірскага плацдарма і прывёз у падарунак цэлую бутлю трафейнага спірту. Пілі яго пару дзён. Памятаю сваё здзіўленне: наліваецца сірт, наверх трохі вады. Тады ўсё прыгожа мігцела, а шклянка разагравалася.

Чалавек пасля выпівання таксама. На тым грунце дайшло амаль да драмы. Я якраз у той час ажаніўся (па пажаданні бакоў цалкам абмінаю дэталі). З гэтай нагоды мы атрымалі асобны пакой - той з дзіркай у сцяне, неяк залатанай.

І вось аднойчы я даведаўся, што адзін калега пасля ўжытку значнай порцыі спірту пачаў прыставаць да маёй жонкі, аж мусіла ўцякаць, хавацца ў іншым пакоі. Агарнула мяне непрытомная лютасць. Кінуўся на фраера... Адцягнулі мяне, таго адправілі ў рэдакцыю. Замкнуўся ў пакоі, пачаў нешта друкаваць на машынцы. Потым хадзіў па Кракаўскім і раскідваў улёткі з кароткім і выразным тэкстам: "Путрамант мяне б'е".

Але найбольш маляўнічая сцэна адбылася на другім паверсе. Там быў "супольны пакой", інтарнат для прыезджых. У пярэдняй стаяў ложак, на ім свежа прыбылы. Прыбыш - у ложку, бо з грыпам. Далей п'янка. Нягоднікі спаілі хворага. Ляжаў распалены і ўвесь час рагатаў сам з сябе.

*(Працяг у наступным нумары.)*

# *Найбольш значныя гістарычныя выданні апошняга часу*




У Варшаве ў выдавецтве “Свет кнігі” выйшла кніга Андрэя Андрусевіча “Зміцер Самазванец і Марыя Мнішак”, 528 ст.




У Менску ў выдавецтве “Беларуская навука” выйшла кніга Васіля Драгаўца “Запозненае прызнанне. Біяграфічны сповед”, 502 ст., наклад 30 ас.




У Лідзе выйшла кніга Валера Дранчука “Гавязна і Гавязнянка. Хроніка красы і змагання (1964-2018)”, 116 ст., наклад 120 ас.




У Менску ў выдавецтве Логвінаў выйшла кніга Сяргея Пясецкага “Гляну я ў аконца. Менская трылогія. Кніга другая”, 246 ст.




У Менску ў выдавецтве “Звязда” выйшла кніга Анатоля Бутэвіча, “Таямніцы Крэўскага замка”, 176 ст., наклад 1600 ас.




УМенску ў выдавецтве “Звязда” выйшла кніга “Шчучыншчына. Карані і крона”, 168 ст., наклад 900 ас.




*Знішчэнне Вільні*